Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 35 (4681) 31 жніўня 2012 г.

# Дзень беларускага пісьменства. Глыбокае — 2012



## Удзельнікам і гасцям урачыстасцей Дня беларускага пісьменства

Паважаныя сябры!

У дзевятнаццаты раз мы адзначаем Дзень беларускага пісьменства.

Сёлета эстафету прымае Віцебскі край, горад Глыбокае. Слаўная сваёй гісторыяй глыбоцкая зямля падаравала свету выдатнага мастака Язэпа Драздовіча, знакамітага тэатральнага дзеяча Ігната Буйніцкага, вядомага авіяканструктара Паўла Сухога.

Асаблівасць сённяшніх урачыстых мерапрыемстваў у тым, што яны праходзяць у Год кнігі і ўносяць сваю лепту ў святкаванне 130-годдзя з дня нараджэння нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Любоў да мастацкага слова і прага да ведаў спрадвеку былі неад’емнай часткай беларускага менталітэту. На пачатку трэцяга тысячагоддзя кніга па-ранейшаму застаецца для нас крыніцай вопыту, натхнення, шчырай любові да роднай зямлі. Менавіта сапраўдны патрыятызм, інтэлект і духоўнасць дапамогуць нам пабудаваць шчаслівую, моцную краіну.

Сардэчна жадаю ўдзельнікам і гасцям свята здароўя, поспехаў у працы і дабрабыту.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

Генадзь
ПАШКОЎ

## Глыбоччына

*Расхінаю полаг*
*смалянога бору*
*на зазыўны голас*
*злога камара.*
*Скрозь каля Глыбокага —*
*глыбіня азёрная.*
*За яе глыбейшай,*
*пэўна што, няма.*
*А павее вецер,*
*узаўецца каня.*
*І ў дугу вудзільны*
*выгнуць чараты.*
*Можа, гэта сонца ў завадзі*
*люстранай?*
*Мо карась на лёсцы б'ецца*
*залаты?*

*Паглядзі навокал —*
*прыгажосць і сіла!*
*Рэкі і азёры,*
*вёскі,*
*як гучаць! —*
*Мнюта…*
*Пліса…*
*Свіла…*
*Свіліца…*
*Падсвілле…*
*Чуеце мелодыю?*
*Лепш не перадаць!*

*Глыбачанін, вогнішчам*
*ля вады падсвечаны,*
*з лёгкаю усмешкай сёння*
*нездарма:*
*скрозь — такія людзі!*
*Вёскі і азёры!*
*І глыбей глыбінкі*
*анідзе няма!..*

# Мікалай Чаргінец: «Літаратура — школа дабрыні і спагады…»

По традыцыі за некалькі дзён да Свята беларускага пісьменства карэспандэнт "ЛіМа" пагутарыў са старшынёю Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом.



Сяргей ШЫЧКО

**— Мікалай Іванавіч, Саюз пісьменнікаў Беларусі актыўна ўдзельнічае ў арганізацыі і правядзенні вераснёўскага свята…**

— Мне хацелася б крышачку інача зазначыць: мы проста зрадніліся з Днём беларускага пісьменства. Як і лютаўская кніжная выстаўка, так і першая нядзеля верасня — гэта нашы святы, а шмат у чым дні, калі падсумоўваюцца творчыя здабыткі за пэўны перыяд.

**— Сведчаннем таму — і ўручэнне Рэспубліканскай прэміі "Залаты Купідон"…**

— Так, і гэтая традыцыя набыла сваю вагу, свой аўтарытэт. З вялікім піетэтам літаратары ставяцца да гэтай узнагароды. Ёсць у Саюзе пісьменнікаў і яшчэ адна ўзнагарода: медаль "За вялікі ўклад у літаратуру". У рэгіёнах краіны рэалізавана шмат розных ініцыятыў, дзе ў цэнтры ўвагі — ушанаванне лепшых літаратараў, іх творчых здабыткаў. Саюз пісьменнікаў Беларусі, абласныя і Мінскае гарадское аддзяленне нашага грамадскага аб'яднання знаходзяцца ў цесных стасунках з аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам. Дзясяткі, сотні мерапрыемстваў ладзяцца ў рэгіёнах не проста з удзелам пісьменнікаў, а па іх ініцыятыве, пры іх шырокім арганізацыйным удзеле. Кіраўнікі аддзяленняў СПБ — трывалая апора мясцовай улады ў вырашэнні самых розных грамадскіх пытанняў.

**— Адкрыты свет сёння спрыяе вядомасці нацыянальнай літаратуры не толькі дома…**

— І мы гэта разумеем, і дзеля гэтага вельмі шмат робім. Разам са сваімі калегамі, тымі, хто перш-наперш паблізу, разам з прэзідыумам СПБ мы ў значнай ступені абапіраемся на такую ініцыятыву, як Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. І рады, што расійскія калегі з'яўляюцца ў гэтай справе нашымі актыўнымі партнёрамі. Часопіс "Белая вежа", творчыя сустрэчы ў Беларусі і Расіі, выдатныя стасункі з часопісам "Наш современник" — да гэтых праектаў можна дадаць і трывалыя асабістыя кантакты паміж многімі літаратарамі Саюзнай дзяржавы.

Сённяшняе развіццё падзей пераконвае: толькі інтэрнацыяналізм, дружба паміж народамі ўратуюць свет ад мноства палітычных і сацыяльных катаклізмаў. І, канечне ж, не могуць не разумець гэтага і мастакі слова. Часта аглядаючы кніжніцу, якая пашыраецца дзякуючы нашым трывалым зносінам з выдавецтвамі "Харвест", "Чатыры чвэрці", — "Бібліятэку Саюза пісьменнікаў Беларусі", пераконваюся: у сапраўднай літаратуры аснову, грунт складаюць светлыя, гуманістычныя памкненні. Інакш нельга! Пісьменнік нясе адказнасць за будучыню. Ён не можа прагназаваць войны, разлад між народамі…

**— Здараецца, што ўсё ж бывае і інакш…**

— Але такія складальнікі тэкстаў і слоў спрыяюць разбурэнню душ, трушчаць асновы стваральнага жыцця. І як на мой погляд, свет павінен развівацца без іх.

Вяртаючыся да тэмы свята ў Глыбокім, хацеў бы зазначыць, што Саюз пісьменнікаў Беларусі разглядае Дзень беларускага пісьменства як свята літаратуры, кнігі. Мне заўсёды радасна бачыць на свяце паэтаў, празаікаў, літаратараў, якія працуюць у розных жанрах. Адчуваецца, што дзень гэты для кожнага з іх вельмі значны. Таму і прыязджаюць у глыбінку з розных куточкаў краіны, таму і імкнуцца да сустрэч з калегамі, кнігавыдаўцамі, журналістамі.

**— І прыязджаюць у Беларусь пісьменнікі з усяго свету…**

— У нашай творчай, пісьменніцкай супольнасці ўсталяваліся добрыя сувязі з пісьменніцкімі саюзамі розных краін: Турцыі, Таджыкістана, Казахстана, Кітая і Грузіі… За мяжой выходзяць кнігі беларускіх пісьменнікаў. Нашы паэты, празаікі актыўна ўдзельнічаюць у розных міжнародных літаратурных конкурсах.

А ў складзе СПБ ёсць замежныя сябры. Так, у наш Саюз уступілі Вітаўтас Кэйманштас, Яронімас Лауцюс (Літва), Ато Хамдам (Таджыкістан), Іван Сабіла, Любоў Турбіна, Іосіф Рогаль (Расія) і шмат хто яшчэ. Усіх іх мы лічым паўнамоцнымі прадстаўнікамі беларускай літаратуры ў свеце.




# Сустракайма свята!

Напярэдадні Дня беларускага пісьменства адбылася прэс-канферэнцыя першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч.

Алена КАХАНОЎСКАЯ

— Беларусь — краіна, якая шмат чытае, выдае кніг: амаль чатыры экземпляры на чалавека. Так, ёсць невялікае змяншэнне, але такая бяда характэрна і для суседніх краін. Аднак важна нават не гэта. Галоўнае, што народ у нас любіць кнігу. Радуе, што людзі сёння ходзяць у бібліятэкі, у кнігарнях набываюць творы класікаў і сучасных пісьменнікаў.

Лілія Станіславаўна адзначыла, што ў першым паўгоддзі ў краіне выдадзена 5379 назваў кніг агульным тыражом 16,7 мільёна экземпляраў. У межах дзяржаўнага заказу сёлета плануецца падрыхтаваць да 120 — 130 сацыяльна значных кніг, некаторыя з іх будуць прадстаўлены на Свяце беларускага пісьменства.

А яно, па словах першага намесніка міністра, абяцае быць цікавым і запамінальным. Для ўдзельнікаў і гасцей арганізаваны шэраг выставак, у тым ліку друкаваных рарытэтаў з фондаў Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Упершыню адбудзецца конкурс юных чытальнікаў Глыбоччыны "Жывая класіка" па творах Я. Купалы, Я. Коласа і М. Танка.

За "круглым сталом" абмяркуюць праблемы літаратуры, ролю і месца пісьменніка паэты, празаікі, перакладчыкі з Беларусі, Расіі, Таджыкістана, Азербайджана, Чарнагорыі і іншых краін. Нацыянальная акадэмія навук з Міністэрствам культуры ладзяць навукова-практычную канферэнцыю "Глыбоцкія чытанні", на якой пойдзе зацікаўленая гаворка пра лёс малавядомых, але таленавітых творцаў Віцебшчыны. Нямала гледачоў збярэ фальклорнае свята "Рэй вядзе Ігнат Буйніцкі", якое пройдзе на радзіме "бацькі беларускага тэатра" ў вёсцы Празарокі.

Пра значныя мерапрыемствы раскажуць сродкі масавай інфармацыі, больш як сто прадстаўнікоў якіх акрэдытаваны на свяце. У праграме — "Фестываль кнігі і прэсы", падчас якога будуць працаваць павільёны "Паліграфічныя абсягі", "Праекты Саюзнай дзяржавы", адбудуцца прэзентацыі выдавецкіх праектаў, сустрэчы з літаратарамі, выдаўцамі, распаўсюджвальнікамі прэсы.

Лілія Ананіч, а таксама член рэспубліканскага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Свята беларускага пісьменства, галоўны рэдактар газеты "Звязда" Алесь Карлюкевіч адказалі на пытанні журналістаў.

Літабсягі

# Людзі-легенды

Кожны год да Дня беларускага пісьменства выдавецтва “Мастацкая літаратура” рыхтуе кнігі, прысвечаныя раёну, у якім гэта свята праходзіць. Зборнікі серыі “Беларусь літаратурная” добра вядомыя чытачам. На гэты раз іх шэраг папоўніць выданне “Там, дзе возера Глыбокае. Глыбоччына літаратурная”.




**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп паведаміў: “Як толькі ў мінулым годзе адсвяткавалі ў Ганцавічах, адразу пачалі падрыхтоўку новай кнігі. У яе меркавалася ўключыць творы людзей, якія праславілі гэты край, якія адтуль родам, жылі там, няхай і сталі вядомымі ў іншых рэгіёнах. Агульнае ўкладанне зборніка належыць Міхасю Казлоўскаму, вядомаму краязнаўцу, на рахунку якога праца над зборнікамі “Маладзечаншчына літаратурная” і “Смаргоншчына літаратурная”. Міхась Казлоўскі згадзіўся з радасцю, бо меў пэўныя напрацоўкі. Для раздзелаў паэзіі і сучаснай прозы творы адбіраў Алесь Жыгуноў. У кнігу традыцыйна ўваходзіць каляровая ўклейка. Здымкі для яе, што адлюстроўваюць прыгожыя мясціны, помнікі гісторыі і культуры гэтага рэгіёна, зрабіла Алена Адэдэджы”.

У адной з не самых маленькіх па аб’ёме кніг выдавецтва (больш як 400 старонак) чытач знойдзе прозвішчы, якімі ганарыцца Глыбоччына: заснавальнік беларускага прафесійнага тэатра Ігнат Буйніцкі, мастак, пісьменнік Язэп Драздовіч, паэт, празаік, рэдактар, выдавец, грамадскі і культурны дзеяч Вацлаў Ластоўскі, актрыса Пауліна Мядзёлка, паэт, драматург і публіцыст Янка Пачопка, сучасныя літаратары, для якіх гэта зямля — крыніца творчага натхнення. Іх творы змешчаны ў раздзелах “Беларусь — маё слова і песня”, “І тчэцца радно памяці”.

Віктар Анатольевіч таксама адзначыў, што многім героям можна прысвячаць асобныя зборнікі. Своеасаблівым дадаткам да кнігі ён лічыць факсімільнае выданне твора Вацлава Ластоўскага “Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі” 1926 года, над якім “Мастацкая літаратура” працавала разам з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі (Прадмову да яе напісаў намеснік дырэктара НББ Алесь Суша. Аздоблены твор будзе фотаздымкамі, якія дапамогуць чытачу ўявіць час, калі кніга рыхтавалася аўтарам.)

Спадар Шніп выказаў спадзяванне, што абодва выданні будуць прадстаўлены ў Глыбокім падчас урачыстасцей.

Арт-лінія

# Аркестр едзе ў Тураў

Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі на чале з маэстра Міхаілам Фінбергам распачаў свой новы сезон. Першыя выступленні, як заўсёды, — у слынным шахцёрскім Салігорску ды перад мазыранамі (як вядома, калектывы аркестра і Мазырскага нафтаперапрацоўчага прадпрыемства звязаныя шматгадовымі партнёрскімі стасункамі). А затым — традыцыйная вераснёвая вандроўка да “калыскі” беларускага пісьменства, духоўнай культуры і асветы, у старажытны Тураў.


Народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Віктара Кавалёва**

Быць сталіцай свята беларускага пісьменства: гэты гонар ўжо неадночы выпадаў гораду Тураву. А пагодлівым вераснем 2005-га тут адзначалі дзве вялікія даты: 1025 гадоў з часу заснавання самога горада і 1000-годдзе Тураўскай (цяпер Тураўска-Мазырскай) праваслаўнай епархіі. Да ўдзелу ў тых урачыстых імпрэзах быў запрошаны і аркестр пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Вось так у “сталіцы культуры і веры”, як назваў старажытны палескі горад паэт Віктар Гардзей, адбыўся Першы беларускі фестываль камернай і духоўнай музыкі “Тураў-2005”. Цяпер наш заслужаны калектыў пры падтрымцы Гомельскага аблвыканкама, Жыткавіцкага райвыканкама, Тураўскага гарсавета штогод ладзіць у сэрцы Палесся свае мастацка-асветніцкія імпрэзы.

Восьмае свята камернай і духоўнай музыкі “Тураў-2012” адбудзецца ў наступную пятніцу. Яго асноўная праграма пройдзе пад назвай “У гонар Кірылы Тураўскага: музыка славянскага адзінства”. Адбудзецца канцэрт, які адлюструе гістарычную повязь беларускіх і рускіх традыцый у музычнай творчасці, звязаных з імёнамі М. Глінкі, А. Аляб’ева, П. Чайкоўскага, М. Рымскага-Корсакава, І. Стравінскага, Г. Свірыдава, М. К. Агінскага, М. Чуркіна, А. Туранкова, Я. Глебава, Г. Вагнера, У. Солтана, Д. Смольскага і іншых знаных кампазітараў. Іх музыка прагучыць у выкананні камерных калектываў, што працуюць у складзе Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі, а з папулярным асветніцкім каментарыем выступіць навуковы кіраўнік праграмы, доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава. Апроч таго, сталічныя спецыялісты правядуць майстар-клас для навучэнцаў Жыткавіцкай ДШМ, адбудзецца адкрыццё мастацкай выстаўкі, а заслужаны аматарскі калектыў — народны хор Тураўскага гарадскога Дома народнай творчасці пад кіраўніцтвам Васіля Птушко парадуе публіку сваёй каларытнай песеннай праграмай. Завершыцца свята лірычным канцэртам “У час адпачынку” з удзелам аркестра пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга і яго салістаў-спевакоў.

Повязі

# Мастацкае слова збліжае

У пярэдадзень асноўных падзей Дня беларускага пісьменства пройдзе міжнародны “круглы стол” з удзелам замежных пісьменнікаў.



**Васіль СНУСЦІК,**
**фота Кастуся Дробава**

Міністэрства інфармацыі Беларусі ўжо не першы год ладзіць сустрэчу пісьменнікаў розных краін. Вось і сёлета абмеркаваць надзённыя праблемы, звязаныя са зносінамі літаратараў з чытачамі, прысутнасцю кнігі ў грамадстве, збяруцца ў Глыбокім мастакі слова з Расіі, Казахстана, Таджыкістана, Сербіі, Чарнагорыі, Украіны, Азербайджана. Ато Хамдам, Аляксандр Казінцаў, Валерый Казакоў, Чынгіз Аліаглы, Слабадан Вуканавіч і іншыя выступяць з расповедамі пра сітуацыю з друкаванай і электроннай кніг у сваіх краінах, раскажуць пра месца пісьменнікаў у грамадстве, падзеляцца развагамі пра ўплывы літаратуры на фарміраванне светапогляду чалавека.

Згадваючы папярэднія сустрэчы творцаў, варта зазначыць, што дзякуючы традыцыйнаму “кругламу сталу” і Саюз пісьменнікаў, і дзяржаўныя выдавецтвы краіны ў апошнія гады ўсталёўваюць шырокія літаратурныя сувязі. З’явілася сапраўдная каторта тых, хто падтрымлівае беларускае слова ў свеце. Як прыклад — Ато Хамдам з Таджыкістана, Яронімас Лауцюс з Літвы, Аляксандр Казінцаў, Валерый Казакоў з Расіі, Чынгіз Аліаглы з Азербайджана.

Творы беларускіх пісьменнікаў на старонках расійскіх часопісаў “Наш современник”, “Сибирские огни”, казахстанскага “Простор”, таджыкскіх “Памир” і “Союз”, дзякуючы перакладам на рускую мову, знаходзяць тысячы новых чытачоў. Развіваюцца стасункі з рэгіёнамі Расійскай Федэрацыі. У розныя гады на міжнародныя “круглыя сталы” прыязджалі пісьменнікі з Татарстана, Удмурціі, Санкт-Пецярбурга, Вологды. І гэта спрыяла новым перакладам, новым публікацыям.

Застаецца выказаць спадзяванне, што гэтыя стасункі, новыя творчыя масты будуць толькі ўмацоўвацца і пашырацца. Рэчышча дружбы з рознымі літаратурамі, праявы інтэрнацыяналізму — адзін з дзейсных клопатаў Саюза пісьменнікаў Беларусі.

З-пад пяра

➤ Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа 1 верасня а 10-й гадзіне запрашае ў Цэнтральны дзіцячы парк імя Максіма Горкага на традыцыйнае свята “Песняй вітаю я вас!”. Арганізаванае для вучнёўскай моладзі Мінска, яно дорыць цудоўную магчымасць сустрэцца з беларускай літаратурай, пазнаёміцца з сынам песняра Міхасём Міцкевічам, вядомымі паэтамі і празаікамі. Сёлета на свята запрошаны паэты Віка Трэнас і Віктар Шніп, пісьменнік і бард Юрась Нераток. А тыя, хто завітае ў музей песняра, змогуць наведаць выстаўку “Пачэсны шлях настаўніка”, прымеркаваную да 110-годдзя пачатку педагагічнай дзейнасці Якуба Коласа.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

➤ 17 верасня будзе адзначацца стагоддзе з дня нараджэння слыннага беларускага паэта Максіма Танка. Значную культурную падзею не абмінуў увагай і Нацыянальны банк Беларусі. У гонар юбілею плануецца ўвесці ў абарачэнне памятныя манеты “Максім Танк. 100 гадоў”, сярэбраную і медна-нікелевую. Манеты будуць аздобленыя стылізаваным малюнкам пейзажу (аверс) і выявай класіка за пісьмовым сталом (рэверс).

**Ларыса РАЛАВЕЦ**

➤ На Гродзеншчыну едзе “Яська — гаспадар з-пад Вільні”. Менавіта такім псеўданімам падпісвалася першая нелегальная рэвалюцыйна-дэмакратычная газета на беларускай мове “Мужыцкая праўда”, якая выдавалася ў 1862—1863 гг. Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага прысвячае Сёмыя Гарадзенскія чытанні 150-годдзю з пачатку выдання газеты. Падчас сустрэчы навукоўцаў, творцаў і работнікаў бібліятэк будуць абмеркаваны два асноўныя пытанні: “«Мужыцкая праўда» — уплыў паўстання 1863-1864 гг. на культурнае жыццё Гарадзеншчыны” і “Гісторыя і развіццё перыядычнага друку на Гродзеншчыне”. Чытанні распачнуцца 5 верасня.

**Рыта СТАХ**

➤ На мінулых выхадных Музей сучаснага выяўленчага мастацтва распачаў заняткі дзіцячай арт-школы Forex Club, сацыяльнага дабрачыннага праекта. Заняткі аб’ядналі дзяцей з дзіцячых дамоў і поўных сямей, што, упэўнены арганізатары, дапаможа дасягнуць асноўнай мэты — дапамагчы дзецям, пазбаўленым бацькоўскай апекі, адаптавацца ў жыцці, раскрыцца ў творчасці і знайсці новых сяброў. Праект, які грунтуецца на станоўчым эфекце арт-тэрапіі, рэалізуецца Міжнародным сацыяльна-эканамічным фондам “Ідэя” пры падтрымцы музея ў межах конкурсу сацыяльных праектаў групы кампаній Forex Club, яго куратар — дырэктар дабрачыннага тэатра лялек “Дом Сонца” Галіна Савельева. Рэалізаваць праект мяркуецца да канца года, арганізаваўшы адметныя курсы па калажы, фларыстыцы, жывапісе, дызайне, літаратуры і акцёрскім майстэрстве. Выкладчыкамі дзіцячай арт-школы стануць вядомыя творцы Беларусі.

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

# Зямля бацькоў — зямля святая

Глыбоччына... Гэты маляўнічы куточак Віцебшчыны натхняў і нятхняе многіх пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў на стварэнне яркіх і запамінальных твораў. Не закахацца ў яго — немагчыма. Чалавек, які пабываў тут аднойчы, знойдзе час і магчымасць, каб зноў прайсціся па ціхіх глыбоцкіх вуліцах з цікавай старажытнай забудовай, пастаяць на плошчы 17 Верасня і паслухаць чароўны перазвон званоў Кафедральнага праваслаўнага сабора і Святатроіцкага касцёла, пасядзець і памарыць на беразе загадкавага Кагальнага возера, у якое напрыканцы лета падаюць, як перaспелыя вішні, зоркі.



*Дзень Перамогі ў Глыбокім.*

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Кастуся Дробава і Марыны Бегунковай**

Бадай ніводзін раён Беларусі не зможа пахваліцца такім яркім сузор'ем герояў. Уявіце, тут у свой час працавала восем Герояў Сацыялістычнай працы. У гэтым пачэсным спісе і Павел Сухой — двойчы Герой працы, доктар тэхнічных навук, вядомы стваральнік савецкай рэактыўнай і звышгукавой авіяцыі.

У дзень Свята беларускага пісьменства на алеі знакамітых землякоў, будзе адкрыты бюст Герою Савецкага Саюза Пятру Казлову. Брацкія магілы, абеліскі, мемарыяльныя комплексы — 97 помнікаў у раёне прысвечаны падзеям Вялікай Айчыннай вайны — памяць пра тых, хто не стаў на калені перад замежнымі рабаўнікамі, хто каваў нашу Вялікую перамогу. Сюды не зарастаюць сцежкі-дарожкі. Ва ўрочышчы Барок, дзе пахаваны вязні лагера смерці, 27 тысяч савецкіх ваеннапалонных, сотні італьянскіх салдат і мірныя жыхары, узведзены мемарыяльны комплекс. На месцы пахавання 4500 глыбачан-яўрэяў стаіць велічны манумент. Каля вёскі Лаўрынаўка ўсталяваны памятны знак жыхарам 17 спаленых вёсак. І яшчэ некалькі лічбаў. За час нямецка-фашысцкай акупацыі на Глыбоччыне расстраляна і замучана 10790 чалавек, у тым ліку 238 жанчын і 712 дзяцей. На франтах і ў партызанскіх атрадах загінуў 1651 жыхар раёна. 1245 жанчын засталіся ўдовамі, 899 чалавек вывезена ў Германію, толькі 555 з іх вярнуліся дадому.

Такі страшны рахунак вайны прад'яўляе гісторыя Глыбоччыны. Пахвальна, што новыя пакаленні чуюць і разумеюць, па кім звоняць званы на брацкіх магілах і шумяць "бярозы ды сосны — партызанскія сёстры".

Што сабой уяўляе сёння эканоміка аграпрамысловага комплексу? Гэта — 19 сельскагаспадарчых арганізацый, у тым ліку 9 адкрытых акцыянерных таварыстваў, 8 філіялаў прамысловых прадпрыемстваў, 19 сялянска-фермерскіх гаспадарак, два раённыя камунальныя ўнітарныя прадпрыемствы.

Раён спецыялізуецца на вытворчасці збожжа, ільну, бульбы, рапсу, агародніны. Удзельная вага прадукцыі раслінаводства ў таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі складае 18 %, жывёлагадоўлі — 82 %. Нямала працоўных перамог на рахунку паляводаў, жывёлаводаў, механізатараў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў «За Радзіму», «Пятроўшчына», «Канстанцінаў двор», «Салаўінае», «Залатая падкова», «Яблынька».

У раёне ўдала сканцэнтраваны прадпрыемствы харчовай і перапрацоўчай прамысловасцей. Іх асноўная спецыялізацыя — выпуск харчовых тавараў. Тавары з маркай глыбоцкіх вытворцаў пастаўляюцца ў больш як 30 расійскіх рэгіёнаў і 14 краін свету, у тым ліку ў Польшчу, ЗША, Ізраіль, Германію, Італію, Шатландыю, Швецыю, Фінляндыю, краіны былога Саюза.

З году ў год нарошчваюць тэмпы вытворчасці і якасць прадукцыі калектывы мясакамбіната, камбікормавага завода, хлебазавода, ААТ «Купцовъ».

Раён займае чацвёртае месца сярод гарадоў і раёнаў Віцебскай вобласці па вытворчасці прамысловай прадукцыі. Гэта сведчыць пра тое, што не перавяліся на Глыбоччыне старанныя працаўнікі, руплівыя і майстры сваёй справы.

З кожным годам прыгажэе азёрны край. Вёскі становяцца аграгарадкамі, змяняюцца вуліцы райцэнтра. Прымяняюцца новыя тэхналогіі і дасягненні ва ўсіх галінах эканомікі. Становяцца лепшымі ўмовы жыцця і працы чалавека. А кожны працаўнік, у сваю чаргу, уносіць свой уклад у росквіт раёна.

Канечне, гэтае багацце і прыгажосць узніклі не адразу. За імі нястомная, стваральная праца глыбачан.

Паэтычна-песенная, маляўнічая Глыбоччына — яшчэ і край слынных літаратараў, якія нарадзіліся, выраслі і працавалі тут і якія сваёй творчасцю зрабілі значны ўклад у нацыянальную беларускую і сусветную літаратуры. Давайце ўспомнім некаторых з іх.

Тадэвуш Даленга-Мастовіч. Даследчыкі яго творчасці сцвярджаюць: калі б не Другая сусветная вайна і ні яго ранняя трагічная смерць, пісьменнік абавязкова быў бы ўдастоены Нобелеўскай прэміі за раманы «Знахар», «Кар'ера Нікадыма Дызмы», аповесць «Дзённік пані Ганкі». Усяго ў даваенны час у Польшчы было выдадзена 16 твораў Т. Мастовіча, 8 з якіх экранізаваны. Найбольш папулярныя лічацца кінастужкі «Знахар», «Іх дзіця», «Тры сястры», «Прафесар Вільчур». Фабулу некаторых з іх аўтар раскрывае на прыкладах з жыцця Глыбоччыны.

Лявон Ракоўскі, рускі пісьменнік, у 1924 г. у часопісе «Ленинград» апублікаваў першае апавяданне «Помста», а ў 1927 г. выйшаў зборнік «Зялёная Амерыка», праз год — другі зборнік «Сівапляс» і аповесць «Блудны д'ябал», у якіх аўтар адлюстраваў жыццё і побыт беларускіх мястэчак, у тым ліку і Глыбокага.

У 1930-х гадах Лявон Ракоўскі канчаткова выбраў гістарычны жанр. Збіраў матэрыялы для будучых твораў нават на франце, з'яўляючыся ваенным карэспандэнтам газет «На страже Родины» і «На защиту Ленинграда». Пасля вайны выдаў раманы «Генералісімус Суvotaраў», «Адмірал Ушакоў», «Кутузаў», аповесць «Канстанцін Заслонаў», якія перакладзены на беларускую, нямецкую, кітайскую, чэшскую, балгарскую, літоўскую і іншыя мовы.

На рускую мову Лявон Іосіфавіч пераклаў «Паўлінку» Я. Купалы, драму Я. Коласа «Вайна вайне», раман І. Мележа «Мінскі напрамак», аповесць П. Кавалёва «Андрэйка», апавяданні М. Лынькова, творы іншых беларускіх пісьменнікаў.

Мікалай Мінскі, рускі пісьменнік, сапраўднае прозвішча — Віленкін. У 1905 г. выдаваў у Пецярбургу газету «Новая жизнь», у якой надрукаваў «Гімн рабочых» («Пралетары ўсіх краін, яднайцеся…»), зрабіў скарочаны пераклад «Інтэрнацыянала». У выніку быў абвінавачаны ў замаху да звяржэння існуючага ладу і арыштаваны.

Пасля выхаду з турмы Мікалай Максімавіч з'ехаў у Францыю, дзе напісаў трылогію: «Жалезны прывід» (1909), «Малая спакуса» (1910) і «Хаос» (1912).

Ян Пачопка (Іван Пятровіч), (псеўданімы Башкір, Праваслаўны) першы верш надрукаваў у «Нашай ніве» ў 1913 г., а першае апавяданне — у газеце «Савецкая Беларусь» у 1921 г. Творы яго часта змяшчаліся ў заходнебеларускіх часопісах «Калосьсе», «Хрысціянская думка», газеце «Сялянская ніва». У гэты час у Вільні выйшаў шэраг яго кніг на сельскагаспадарчую тэматыку.

Алесь Дубровіч — адзін з ініцыятараў стварэння літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў. Два з паловай гады адбыў у Віленскай турме на Лукішках. Там ён таксама пісаў вершы. Побач з творамі В. Таўлая, П. Пестрака ў турэмным часопісе «Краты» друкаваліся і яго, падпісаныя псеўданімам Мікіта.

Друкавацца пачаў у 1928 г. у газеце «Доля працы». Змяшчаў вершы ў «Беларускай газеце», «Літаратурнай старонцы», «Беларускім летапісе» і іншых выданнях. Характэрная рыса яго паэзіі — спалучэнне публіцыстычнага запалу з мяккім лірызмам.

Тамаш Ляшонак (Фама Васільевіч ЗАГОРСКІ). Упершыню з вершамі выступіў у 1990 г. на старонках «Весніка Глыбоччыны», потым у рэспубліканскім друку. У 1995 г. выдаў зборнік паэзіі «Запозненеы дар», прызнаны лепшай кнігай выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар зборніка песень «Гронка бэзу» (сумесна з кампазітарам М. Яцковым), кніг «Сустрэча», «Апошні лістапад» — гэты зборнік пабачыў свет пасля смерці паэта.

У пасляваенны час на Глыбоччыне вырасла, узмужнела, набралася сіл для высокага палёту новае пакаленне творцаў. Іх праца — яскравае сведчанне таго, што паэтычная крыніца, якая аднойчы забурліла на гэтай прыгожай зямлі, невычэрпная.

Чароўны і ўтульны куточак — Глыбоччына. Яе мясціны вабяць усіх, хто жадае адкрыць для сябе гэты край, старонкі яго гісторыі і сэрцам дакрануцца да казачнай прыгажосці краявідаў. А легенды і паданні, як духоўная сувязь пакаленняў, пракладаюць дарогу да працавітых і таленавітых людзей — нашчадкаў мудрых, прыгожых і мужных продкаў.

Цяжка сказаць, якое са ста шасці азёр (вялікіх і малых) самае прыгожае, прыцягальнае. Усе яны, дзівосныя, казачныя, без сумніву, зачаруюць кожнага вандроўніка, каму пашчасціць хоць раз ступіць на іх квяціста-духмяныя берагі.

Буйнейшае мае дзіўную назву Шо — любімае месца адпачынку не толькі глыбачан, але і шматлікіх турыстаў з усёй рэспублікі, замежных гасцей. На яго паўднёвым беразе ёсць месца, якое тутэйшыя рыбакі называюць Крыжы. Калі прыгледзецца, то можна ўбачыць на невялікай глыбіні валуны розных мудрагелістых крыжападобных канфігурацый. Старажылы сцвярджаюць, што калісьці тут былі могілкі, але дно возера апусцілася, пахаваўшы іх пад вадзяной роўняддзю.

Возера Гінькава знаходзіцца на мяжы Празароцкага і Зябкаўскага сельсаветаў (глыбіня больш як 43 метры). Асаблівасць яго яшчэ і ў тым, што ў абрыве крутога схілу маецца збудаванне, хутчэй за ўсё склеп з паўкруглымі каменнымі нішамі. Пра яго ходзяць легенды, нібы ў пячоры некалі захоўваліся нарабаваныя скарбы напалеонаўскага войска, а пазней— зброя, ваенная амуніцыя польскіх захопнікаў. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што гэта прыроднае, а не рукатворнае ўтварэнне. Не так даўно непадалёку знойдзены яшчэ тры невялікія, невядомыя дасюль пячоры.

Шмат легенд і паданняў складзена і пра возера Івесь. Узгорак на яго беразе завуць Царкавішчам. Некалі тут стаяла царква, службу ў якой вялі полацкія святары. Але некаторыя вернікі, што прынялі абрад хрышчэння, пакланяліся ранейшым багам. І за паганства былі пакараны. Аднойчы, перад светлым Вялікаднем, наляцеў моцны вецер, узняў высокія хвалі. Раптам зямля ўздрыгнулася і бераг апынуўся ў возеры. Царква скаланулася, зямля рассунулася — і храм імгненна праваліўся.

Кажуць, што і сёння на вялікодныя святы, калі чуйна прыслухацца, прыклаўшы вуха да зямлі, на Царкавішчы можна пачуць гукі званоў і царкоўныя спевы.

Штогод перад першымі замаразкамі сюды злятаюцца лебедзі — больш як пяцьсот белакрылых птушак. Што іх прыцягвае сюды? У арнітолагаў няма адназначнага адказу.

Паданнямі і легендамі авеяны і валуны з выемкамі, знакамі, надпісамі і малюнкамі, а таксама каменныя крыжы. На Глыбоччыне іх — матэрыяльных сведак развіцця цывілізацыі — нямала.

Старажылы сцвярджаюць, што многія крыжы валодаюць цудадзейнай сілаю. Пакланіцца ім нават здалёк прыязджаюць вандроўнікі. Месцічы кажуць, што гэтыя валуны і крыжы адорваюць добрых людзей здароўем, а з-за людзей ліхіх урастаюць у зямлю. І на самай справе, здаецца, нідзе так не адчуваеш у душы большага спакою, як тут.

— Глыбокае справядліва заслужыла права быць сталіцай пісьменства. Горад мае багатую культурна-гістарычную і духоўную спадчыну, — сцвярджае намеснік старшыні райвыканкома Галіна Унуховіч. — Больш за 60 помнікаў гісторыі архітэктуры, старажытнае гарадзішча, россып курганоў, велічнасць храмаў — усё гэта складаецца ў адмысловую ауру духоўнасці і старажытнасці.



*Лета, сонца, хлеб.*

# Дрэва для райскага саду

Асноўны шлях сёлетняй пяцідзённай навукова-асветніцкай экспедыцыі "Дарога да Святыняў" з Благадатным агнём ад Гроба Гасподняга пройдзе па тэрыторыі Віцебскай вобласці: праз Талачын, Багушэўск, Лёзна і Азярышча, Улу, Асвею, Празарокі і завершыцца ў сталіцы Дня беларускага пісьменства — горадзе Глыбокае.

**Ірына ТУЛУПАВА, фота аўтара**

Калі складаўся маршрут экспедыцыі, яго натхняльнікі ўлічвалі розныя акалічнасці. Знаходзілі тыя пункты ў Віцебскай вобласці, дзе экспедыцыя яшчэ не праходзіла, і ўключылі ў план гарадскія пасёлкі, куды афіцыйнае свята наўрад ці прыйдзе.

Штогадовая экспедыцыя крочыць па Беларусі разам са святам пісьменнікаў і журналістаў у жніўні-верасні і ахоплівае не толькі гарады, а і невялікія вёсачкі — у гэтым яе асаблівасць.

Традыцыйна шмат мерапрыемстваў плануецца правесці на Святым Полі каля вёскі Загор'е Баранавіцкага раёна. Малебны і сустрэчы з насельніцтвам адбудуцца каля трох крыжаў: Крыжа памяці Першай сусветнай вайны ў былым маёнтку Міхалова, Крыжа памяці загінуўшым воінам Паўночнай вайны (1707), Крыжа памяці, устаноўленага над перазахаванымі астанкамі міранаў. На Святым полі пад Баранавічамі цяпер ствараецца Вертаград (райскі сад). Тут праз усю тэрыторыю пасадзілі дрэвы-абярэгі — у форме крыжа. Аналаг такога саду ёсць на мысе Піцунда ў Абхазіі. Манахі, калі пасяліліся на пясчаніку, аберагаючы сваё пасяленне ад злога, пасадзілі пірамідальныя таполі крыж-накрыж.


Дубок у гонар дзесяцігоддзя экспедыцыі каля храма ў вёсцы Тарасава Мінскага раёна пасадзіў Уладыка Філарэт.

"Окропиши мя иссопом, и очищуся…", — словы гэтай малітвы вядомыя нават атэістам. Дык вось, у адной з удзельніц экспедыцыі наяве растуць кусты гэтай расліны — падрыхтаваныя саджанцы і для Святога поля. А яшчэ на полі цвіце глог і хутка растуць сасонкі.

Пакрысе ўзнімаецца да неба той самы райскі сад.

Ад'езд вандроўнікаў у дарогу звычайна благаслаўляе Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. "Экспедыцыя сімвалізуе нашую жывую повязь са святынямі беларускай зямлі, — лічыць Уладыка. — На працягу многіх гадоў мы назіраем неаслабную ўвагу не толькі царкоўнага народа, але і ўсяго грамадства да тых падзей, якія адбываюцца падчас экспедыцыі".

Словы пастаянных удзельнікаў — Марыі Захарэвіч, Сцяпана Лаўшука, Пятра Лысенкі, Вадзіма Спрынчана — кранальныя і эмацыянальныя. "Мы абавязкова трымаемся беларускай мовы, — гаворыць кіраўнік экспедыцыі, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" Ніна Загорская. — Сёлета ад праваслаўнай царквы захавальнікам Агню благаслаўлёны іерэй Дзімітрый Ворса.

Першапачаткова экспедыцыя збірала разам людзей, якія ішлі да храма і неслі людзям высокадухоўнае слова. З цягам часу вандроўнікі сталі наведваць школы і сацыяльныя ўстановы. "Мы скіроўваем увагу ў сацыяльны бок, да абяздоленых, — працягвае Ніна Сымонаўна. — Творцы і навукоўцы сустракаюцца з пацыентамі ў бальніцах. Хворыя людзі, бывае, выязджаюць на калясках, слухаюць. Сярод удзельнікаў, да прыкладу, пазамінулай экспедыцыі быў кларнетыст Генадзь Забара — заслужаны артыст БССР, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. А ў калоніі, якую мы не абмінулі, — дзяўчаткі-падлеткі. І там музыкант выконваў духоўную музыку, каб пацяплелі душы".

На маршруце экспедыцыі з Благадатным агнём ад Гроба Гасподняга будуць асвячаць помнікі славы і мужнасці, якія ўслаўляюць гераізм людзей у перыяд Вялікай Айчыннай вайны, а таксама Паўночнай, грамадзянскай і Першай сусветнай войнаў, у памяць пра іншыя значныя падзеі гісторыі нашай Айчыны.

З 2004 года экспедыцыя пазіцыянуецца як навукова-асветніцкая, апошнімі гадамі сталі праяўляць цікавасць да яе духоўнікі памежжа: справа становіцца міжнароднай.


Купалам да неба…


Малітва пад гукі царкоўнага звона.

# У праграме — «Паэтычная гасцёўня»

Пастаянным удзельнікам Дня беларускага пісьменства з'яўляецца Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Пра тое, якія кніжныя скарбы ўбачаць жыхары Глыбоччыны, распавядае Наталля Атрушкевіч, вядучы метадыст сектара арганізацыі кніжных выставак галерэйна-выставачнага аддзела НББ.

— Наша ўстанова здаўна ўдзельнічае ў падрыхтоўцы і правядзенні Дзён беларускага пісьменства. Каб не здзяйсняць надта далёкі экскурс у мінулае, узгадаю толькі выстаўкі апошніх гадоў. У 2009 годзе ў Смаргоні мы прадставілі тры экспазіцыі, прысвечаныя творчасці Францішка Багушэвіча, знаходжанню Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы і культурна-грамадскім і літаратурным дзеячам, якія нарадзіліся на Смаргоншчыне ці звязалі свой лёс з краем.

Наступныя ўрачыстасці праходзілі ў Хойніках. Там быў зроблены акцэнт на прадукцыю рэкламнага аддзела НББ, а таксама на выданні бібліятэкі. У мінулым годзе ў Ганцавічах мы прапанавалі гасцям свята дзве выстаўкі. Адна мела назву "Кніга Беларусі: повязь часоў", дзе былі прадстаўлены беларускія старадрукі XVII — XVIII стагоддзяў. Другая, "Народны настаўнік", была прысвечана Якубу Коласу, які ў маладосці настаўнічаў у мясцовай вёсцы Люсіна. Таксама адбылася прэзентацыя мультымедыйнага дыска "Паэт красы і гармоніі", прысвечанага жыццю і творчасці Максіма Багдановіча.

Безумоўна, пры падрыхтоўцы да сёлетняга свята мы абапіраліся на вопыт папярэдніх гадоў. Але адначасова паспрабавалі рэалізаваць новыя ідэі і падыходы. Наша праграма прадстаўлена ў выглядзе выстаўкі-прэзентацыі "Паэтычная гасцёўня", у якой можна вылучыць некалькі частак.

Перш за ўсё, гэта аднайменная кніжная выстаўка, якая разгорнецца на першым паверсе Цэнтральнай раённай бібліятэкі. У экспазіцыі прадстаўлены тры вьібітныя постаці айчыннай літаратуры: Янка Купала, Якуб Колас і Максім Танк, прычым акцэнт зроблены на іх вершах і паэмах. Для гэтага мы адбіралі з фонду самыя значныя, без перабольшвання этапныя, выданні спадчыны паэтаў.

Напрыклад, наведвальнікі змогуць убачыць кнігу "Санеты", якая змяшчае 22 творы, напісаныя Купалам у гэтым жанры. Яны прадстаўлены на мове арыгіналу, а таксама ў перакладах на англійскую, французскую, нямецкую, іспанскую, польскую, рускую і украінскую мовы. Не менш цікавае выданне — пераклад "Слова пра паход Ігаравы". Як вядома, Купала працаваў над ім двойчы. У 1919 годзе выйшла празаічнае пераўвасабленне, у 1921-м — паэтычнае. Цікавай будзе і кніга Кусікава "Коевангелиеран", датаваная 1920 годам. Яе адметнасць — у аўтографе Янкі Купалы: на тытульным лісце ён пакінуў уладальніцкі надпіс "Ів. Луцэвіч".

У частцы выстаўкі, прысвечанай Якубу Коласу, найбольш пачэснае месца зойме "Новая зямля", што ў 2002-м годзе выходзіла ў Беларускім фондзе культуры на беларускай, рускай і (упершыню) на польскай мовах. Абодвум творцам прысвечаны віртуальны праект НББ "Класікі сусветнай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас. Да 130-годдзя з дня нараджэння", прэзентацыя якога адбудзецца ў Глыбокім. Азнаёміцца з ім можна на сайце Нацыянальнай бібліятэкі: nlb.by.

Нарэшце, трэцім героем выстаўкі з'яўляецца Максім Танк, 100-годдзе з дня нараджэння якога будзе ўрачыста святкавацца сёлета. У экспазіцыі прадстаўлены лірычныя зборнікі "Прайсці праз вернасць", "Паслухайце, вясна ідзе", "Мой каўчэг", "Мне пару крыл дало юнацтва" і іншыя. А на спецыяльным экране можна будзе пабачыць фотавыстаўку. У яе ўключаны фотаздымкі самога Танка, яго разам з членамі сям'і ды іншымі пісьменнікамі, а таксама алічбаваныя вокладкі і тытульныя лісты з кніг творцы, перакладаў яго твораў на іншыя мовы, ілюстрацыі. Да рэчы, шэраг з іх (толькі ў папяровым выглядзе) будзе дэманстравацца на выстаўцы з нагоды юбілею Максіма Танка, што адкрыецца ў НББ 13 верасня гэтага года. Прагучаць запісы вершаў у выкананні як самога аўтара, так і вядомых акцёраў.

Зрэшты, удзел Нацыянальнай бібліятэкі ў Дні беларускага пісьменства на гэтым не заканчваецца. Як вядома, у рамках "Года кнігі" праходзіць акцыя "Беларускую кнігу — у рэгіёны". Мы падрыхтавалі ў падарунак глыбоцкай бібліятэцы 150 выданняў самай разнастайнай тэматыкі. Таксама 1 верасня супрацоўнікі бібліятэкі выступяць з дакладам "Вацлаў Ластоўскі і яго экслібрыс" на навукова-практычнай канферэнцыі "Глыбоцкія чытанні-2012". Экслібрыс Ластоўскага быў наклеены на форзац кнігі В. Арлоўскага "Белорусские народные рассказы", што выйшла ў Полацку ў 1908 годзе.

*Да 130-годдзя Якуба Коласа*

# Шляхамі Віцебскага краю

**Віцебшчына на абсягах Коласавай нівы займае асаблівае месца. Тут знаходзіцца радзіма першай беларускамоўнай навучальнай установы — прыватнай школы, адкрытай пры падтрымцы Канстанціна Гардзялкоўскага. Будучы памешчыкам, Канстанцін Антонавіч сімпатызаваў беларускаму нацыянальнаму руху, выпісваў “Нашу Ніву”. Ён і забяспечыў з пачатку 1908 года “першага беларускага вучыцеля першай беларускай школы” заробкам у памеры 25 рублёў штомесячна, кватэрай і сталаваннем.**



*Якуб Колас чытае калектыву БДТ-ІІ п’есу “Вайна вайне”.*

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
**Настасся ТРАФІМЧЫК,**
**фота з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа**

Першапачаткова школу меркавалася адкрыць у маёнтку Гардзялкоўскіх Папоўка, але малады настаўнік, даведаўшыся, што большасць вучняў будуць хадзіць на заняткі з суседніх вёсак Сані і Плоскае, прапанаваў размясціць школу ў вёсцы Сані (на той час гэта была Абчугская воласць, Сенненскі павет, Магілёўская губерня). Пад школу ў Санях выбралі палову новай хаты селяніна Ларыёна Жураўлёва. Дзяцей набралі толькі ў чацвёрты клас (выпускны па праграме царкоўнапрыходскай школы) — усяго каля 20 вучняў.

Перад пачаткам заняткаў Канстанцін Міхайлавіч паехаў у Абчугу і купіў грыфельныя дошкі, сшыткі і ручкі на ўсіх вучняў. Значна горш было з падручнікамі. Прыйшлося пасылаць пераводам грошы ў Вільню, каб рэдакцыя паклапацілася даслаць “Беларускі лемантар”, “Першае чытанне для дзяцей беларусаў” і іншыя беларускія кнігі. Нібы прадчуваючы такую сітуацыю, малады настаўнік сам распрацаваў навучальны дапаможнік, які актыўна выкарыстоўваў на ўроках і правяраў на практыцы, ці разумеюць вучні яго апавяданні і пейзажныя замалёўкі. Праз пару гадоў тыя матэрыялы былі выдадзеныя ў Пецярбургу як “Другое чытанне для дзетак беларусаў”.

Жывое слова настаўніка расчыняла перад вучнямі дзверы ў навакольны свет, вяло іх у глыбокае мінулае і далёкія краіны. Заняткі ў школе праходзілі па адвольнай праграме, складзенай Канстанцінам Міхайлавічам. У ёй не было Закону Божага і стараславянскай мовы. Вучыцца да новага настаўніка прасіліся і дзеці з прыходскай школы, з-за чаго яе кіраўнік злаваўся як на пана, арганізатара няправільнай школкі, так і на настаўніка. Даходзілі чуткі, што бацюшка ўсяляк высмейвае настаўніка-мужыка і яго мужыцкую школу, дзе заняткі ідуць “па-простаму”.

У красавіку Канстанцін Міхайлавіч прыняў у 18-ці сваіх вучняў экзамен за пачатковы курс, які праходзіў у валасным цэнтры Абчугу, і вымушаны быў вярнуцца да сваіх родных на Стаўбцоўшчыну, куды ўлады меліся прыслаць копію абвінавачага акта па справе арганізацыі нелегальнага з’езда настаўнікаў. Нягледзячы на тое, што Якуб Колас вызначанага тэрміну ў школе не дабыў, Гардзялкоўскі, паводле ўспамінаў паэта, “разлічыўся цалкам, заплаціў [...] залатымі пяцёркамі”. 15 верасня 1908 года мінскі суд прызначыў настаўніку Міцкевічу тры гады зняволення.

Пасля Першая сусветная вайна і рэвалюцыя надоўга разлучылі Песняра з Беларуссю. І толькі па вяртанні на Радзіму сувязі з Віцебскім краем аднавіліся. Найбольш значныя сустрэчы з жыхарамі горада Орша адбываліся ў канцы 1920 і 1950-х гг. — у гэты час паэт актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю. У 1928 — 1929 гг. Якуб Колас выступаў на мітынгу ў Оршы і перад рабочымі Асінбуда, а таксама знаёміўся з будаўніцтвам торфазавода і электрастанцыі. Пазней пра тыя дні ўбачылі свет нататкі пад назвай “Паездка на Асінбуд”.

Плённае супрацоўніцтва меў Якуб Колас з Беларускім другім дзяржаўным тэатрам, які размяшчаўся ў Віцебску. Непасрэдна для яго калектыву класік стварыў п’есу “Вайна вайне”. З творам у 1936 годзе акцёры былі азнаёмленыя ў прачытанні самога аўтара, а ў студзені наступнага года адбылася прэм’ера, якая прайшла з вялікім поспехам. Восенню таго ж года рэпертуар БДТ-ІІ папоўніўся яшчэ адной п’есай народнага паэта — “У пушчах Палесся”. У далейшым віцебскаму тэатру было нададзена ганаровае імя класіка.

Не цураўся народны паэт і спраў вельмі праблемнага характару, асабліва калі яны тычыліся дзяцей. Атрымалі ўвагу народнага паэта і дзеці віцебскай працоўнай калоніі, якую Якуб Колас наведаў ужо на наступны дзень пасля прэм’еры, аператыўна напісаўшы водгук з паказальнай назвай “Савецкі гуманізм”.

У 1950-я гады Якуб Колас як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР па Аршанскай чыгуначнай выбарчай акрузе дапамагаў жыхарам Віцебшчыны даць рады розным жыццёвым нягодам, пра што сведчыць яго перапіска. К. Міцкевіч быў па-сапраўднаму народным абраннікам і праяўляў дэпутацкую ўвагу нават да нязначных праблем, імкнуўся дапамагчы кожнаму свайму выбаршчыку, кожнай установе, якая звярталася да паэта з просьбай ці прапановай.

Цікавай старонкай, звязанай з Віцебшчынай, у Коласавай біяграфіі з’яўляюцца стасункі народнага паэта з пачынаючым пісьменнікам, тады студэнтам Уладзімірам Караткевічам. У. Караткевіч даслаў некалькі лістоў Якубу Коласу: адзін — з віншаваннем да дня нараджэння, другі — з просьбаю даць рэцэнзію на рукапісны зборнік гістарычных легенд і вершаў. У фондах музея Песняра захоўваецца таксама і згаданы рукапісны сшытак з першымі літаратурнымі пробамі будучага раманіста.

Стасункі народнага паэта з віцебскай зямлёй — найлепшае сведчанне яго любові да ўсёй беларускай краіны, яе культуры і мовы. Зробленае Якубам Коласам за час яго дзейнасці на Віцебшчыне трывала ўвайшло ў скарбонку айчыннай духоўнасці, лягло ў падмурак усяго Беларускага Дома.

# Колькі заўваг пра фантастыку

*"Ёсць усё, што яны прыдумалі... бо нельга ўявіць тое, што ў прынцыпе не можа існаваць, ці не так? А адсюль вынікае: усё, што можна сабе ўявіць, існуе насамрэч. Зусім далёка, зусім даўно, зусім не так, але існуе. Усё, што вы калі-небудзь прыдумаеце, у той жа момант пацвердзіць сваё існаванне, азірнецца і паглядзіць вам у вочы..."*

**Марыя Галіна**

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ**

Верагодна, мы не памылімся, калі скажам, што сёння існуе надзвычай вялікая цікавасць да жанру фантастыкі і фэнтазі. Але многія ракурсы гэтай праблемы (дыферэнцыяцыя фантастыкі і не-фантастыкі, класіфікацыя твораў) застаюцца неасветленымі. Фантастыка і вызначэнне фантастычнага захапляла многіх даследчыкаў, напрыклад, Ц. Тодарава (згадаем яго "Уводзіны ў фантастычную літаратуру"). Тэарэтызавалі таксама і пісьменнікі-фантасты: так, славутае эсэ "Пра чарадзейныя гісторыі" Дж. Р. Р. Толкіена, аўтара "Властелина Колец", дасюль з'яўляецца крыніцай адметных ідэй, якія могуць паслужыць штуршком для далейшага даследавання.

У беларускім літаратуразнаўстве, аднак, буйных работ мы не сустракаем. Безумоўна, былі даволі ўдалыя спробы сістэматызацыі напрацаванага матэрыялу, але гэтыя спробы рэалізаваліся ў навуковых артыкулах. Згадаем тут артыкул "Фантастычны жанр у сучаснай беларускай прозе" за аўтарствам Г. Зенавай і А. Вераб'я, надрукаваны ў часопісе "Роднае слова" за 2006 год, або "Люстэрка беларускай фантастыкі" М. Шамякінай (газета "Літаратура і мастацтва", 2007).

З работ такога кшталту варта асобна адзначыць артыкул "Чалавек і свет" С. Саладоўнікава, надрукаваны ў часопісе "Нёман" у 2010 годзе. Гэты артыкул, паводле сведчання самога аўтара, з'яўляецца аглядам здабыткаў айчыннай фантастычнай літаратуры і падсумаваннем вынікаў. "У васьмідзясятыя гады дваццатага стагоддзя назіраўся некаторы пад'ём у развіцці фантастыкі ў Беларусі, але ўсё гэта было другасна. Тады адштурхоўваліся ад дасягненняў англа-амерыканскай літаратуры", — заўважае аўтар. І заўважае, дарэчы, думку, слушна, паколькі беларускія літаратары і сёння збольшага арыентуюцца на дасягненні еўрапейскай літаратуры. Асаблівую ўвагу звяртае на сябе наступная думка: "Фэнтазі пераканаўча, у мастацкіх вобразах, псіхалагічна паказвае тое, куды простым смяротным глядзець пакуль не рэкамендуецца". Магчыма, прастата і пераканаўчасць вобразаў літаратуры фэнтазі, іх псіхалагічная напоўненасць і з'яўляюцца прычынай надзвычайнай папулярнасці такіх твораў.

Але давайце проста паспрабуем суаднесці фантастыку і фальклор — і паглядзім, наколькі моцная сувязь паміж імі.

Чарадзейная казка, відаць, у многім дала пачатак фантастыцы. Сам тэрмін паходзіць ад грэчаскага слова *phantastice*, блізкага па значэнні да ангельскага *fantasy* — 'здольнасць уяўляць', 'фантазія'. Такім чынам, сённяшняя фантастыка, як і яе папярэдніца, скіраваная на выяўленне незвычайнага, адметнага. І для належнага эфекту літаратар, як і носьбіт фальклору, мусіць карыстацца пэўнымі сродкамі.

Такімі сродкамі, у першую чаргу, з'яўляюцца характэрыстыкі мастацкага свету твора — яго часава-прасторавыя каардынаты. Сапраўды, недастаткова толькі надзяліць героя звышнатуральнымі здольнасцямі (напрыклад, магчымасцю чараваць): для таго, каб гэтыя здольнасці маглі належным чынам рэалізавацца, неабходныя ***ўмовы*** іх рэалізацыі. Напрыклад, усё тыя ж класічна-фальклорныя спецыфічныя выпрабаванні, падарожжа або нейкая звышзадача *(quest)*. Гэтыя ўмовы, натуральна, вымагаюць прасторы для разгортвання, адсюль вынікае неабходнасць канструявання ўласнай, адметнай, прызначанай для канкрэтнага героя (герояў) рэальнасці. Калі перад героем стаіць нейкая задача, абставіны вымагаюць яе вырашэння — і ён выпраўляецца ў падарожжа. Гэта падводзіць да меркавання пра тое, што свет казкі — дынамічны, рухаецца разам з героем, відазмяняецца і пераствараецца (у адпаведнасці з персанажамі). Скажам, калі ў атачэнні героя з'яўляецца персанаж, які можа сцярпець полымя, значыць, наперадзе героя абавязкова чакае выпрабаванне агнём, якое якраз і прадугледжвае выкарыстанне гэтых магчымасцей. Звярніце ўвагу на такі, у прамым сэнсе, прагматызм: казка размеркавальна рэсурсы і структурыруецца такім чынам, каб ад выкарыстання гэтых рэсурсаў атрымаць найбольшую карысць. Карысней жа для "поля гульні" з'яўляецца, найперш, зацікаўленасць гульцоў. Без яе гульня — а кожная казка і ёсць гульня — немагчымая.

Ці адметныя "правілы гульні" ў фантастыцы? Верагодна, не, калі ўлічваць сувязь з казкай. Да таго ж, "пункты правілаў" даволі трывала замацаваны ў


Фота Кастуся Дробава

свядомасці чытача, узгадаванага на казках, а значыць, непадпарадкаванне гэтым самым правілам пагражае расчараваннем і стратай цікавасці да тэксту. Расчараваны (ці нават раз'юшаны) чытач — гэта дужа нядобра. Але чытач правільна "падмануты", заінтрыгаваны, уцягнуты ў гульню з аўтарам, гульню з тэкстам — гэта нават неабходна. Для таго, каб пачаць гуляць, чытач мусіць — хаця б на дробачку — паверыць у тое, што адбываецца ў прапанаванай яму гісторыі.

Дзеля гэтага рэчыўны складнік мастацкага свету можа быць паказаны сродкамі рэалістычнага пісьма, зноў-такі як у чарадзейнай казцы (для таго, каб чытач мог актывізаваць сваё ўяўленне і арганічна ўліцца ў аповед, зрабіцца *су-творцам* гісторыі). Прывядзём тут словы Ц. Тодарава: "У творах фантастычнага жанру незвычайнае або звышнатуральнае ўспрымаецца на фоне таго, што лічыцца нармальным і натуральным; парушэнне законаў прыроды толькі ўзмацняе нашае ўражанне звышнатуральнасці". Аднак адметныя ўласцівасці такой аўтарскай рэальнасці таксама вымагаюць увасаблення — і знаходзяць яго літаратары менавіта праз сродкі фальклорнай спадчыны. Прастора, прызначаная для падарожжавыпрабавання героя казкі або аўтарскага фэнтэзійнага твора, не можа быць *пустою*, незаселенай. Але, у адрозненне ад фальклорнай прозы, твор літаратурны падпарадкуецца збольшага густу аўтара. Пры гэтым самыя арганічныя паводле структуры, дасканалыя ў мастацкім плане творы больш цесна звязаныя з канонам, механізмамі міфалогіі.

Тут варта працытаваць Дж. Р. Р. Толкіена, слыннага мэтра і тэарэтыка фантастыкі: "…Магчыма, багі і атрымалі прыгажосць і розны колер скуры дзякуючы прыгажосці прыроды, але менавіта чалавек набыў для багоў гэтыя дарункі… менавіта чалавек надзяліў багоў індывідуальнасцю, персаніфікаваў іх…". Як бачым, Толкіен падкрэслівае актыўную ролю чалавека-творцы ў стварэнні міфалагічнай асновы сучаснай культуры. Натуральна меркаваць, што роля пісьменніка-фантаста, які стварае ўласную варыяцыю рэальнасці, не меншая, а можа, нават і большая. "…фантазія ўтворыць небывалае: чалавек зробіцца творцам другаснага свету. Мне здаецца, занадта рэдка надзяляюць увагаю менавіта гэты аспект міфалогіі — *стварэнне другасных светаў...*" — вось так абазначыў сваю пазіцыю аўтар "Властелина Колец". І трэба аддаць яму належнае: міфалогія, створаная Толкіенам для мастацкага свету яго ных твораў, выключная. Да прыкладу, "Сильмариоллион", з яго несумненнай сувяззю з легендамі стражытных кельтаў, утрымлівае касмаганічныя міфы (стварэнне Арды), гераічныя (цыкл пра эльфійскіх герояў, скажам, Фінрада Фелагунда), пра пераражэнне і трансфармацыю (Люціень, Эльвінг), пра помсту (цыкл пра Феанорыгаў), эсхаталагічныя міфы (падзенне Нумінора) і інш.

Фактычна, Толкіен прэзентуе ў "Сильмариоллионе" спробу штучнага ўтварэння цэлага міфалагічнага комплексу, спробу, магчыма, макферсанаўскага кшталту (згадаем славутыя "Песні Асіяна"), але значна больш маштабную і падрабязную. Толкіен прадумаў амаль усе аспекты сваёй рэальнасці: ад моў з распрацаванымі алфавітамі і сістэмамі імёнаў да гісторыі і генеалогіі персанажаў. Падобная скрупулёзнасць спараджае надзвычай цікавы эфект: мастацкі свет з такой колькасцю дэталяў падаецца сапраўды жывым і цэласным.

Гэтую сувязь міфалогіі і міфа з жыццём падкрэсліваў А. Лосеў у манаграфіі "Дыялектыка міфа": "Міф ёсць лагічная, гэта значыць найперш дыялектычная, неабходная катэгорыя свядомасці і быцця ўвогуле. Міф — не ідэальнае паняцце, таксама не ідэя. Гэта — само жыццё". Як бачым, паводле Лосева, міф — спецыфічны выразнік свядомасці і пачуццяў чалавекатворцы. І адначасова — будаўнічы матэрыял для падмурка любога літаратурнага твора, фантастычнага ў тым ліку, і, можа быць, нават найперш фантастычнага.

Цікавы пункт гледжання на міф і чарадзейную казку прапануе М. Эліадэ ў сваёй папулярнай працы "Аспекты міфа": "…ці не стала чарадзейная казка, ужо на ранняй стадыі існавання, пэўнай "аблегчанай копіяй" міфа і рытуала ініцыяцыі". Падобная фундаментальная сувязь, амаль генетычная роднасць дазваляе нам вылучаць у казцы міфалагічныя элементы — гэтаксама, як падобныя элементы знаходзяцца і ў аўтарскіх творах.

Калі на прыкладзе Дж. Р. Р. Толкіена можна назіраць амаль ідэальнае перастварэнне існуючых міфаў у аўтарскую міфалогію, калі, скажам, А. Сапкоўскі (у цыкле "Ведьмак") або шырока вядомая сёння Дж. Роўлінг (з яе Гары Потарам) удала выкарыстоўваюць выпрацаваны культурай еўрапейскага Захаду матэрыял, як жа можна акрэсліць подобныя з'явы ў творчасці сучасных беларускіх пісьменнікаў?

Прыкладам таго, як міфалагічны складнік ўдала рэалізуецца ў фантастычным творы, можна лічыць рускамоўнае апавяданне пісьменніцы-фантаста Н. Новаш "Ночь святого Христофора". Аўтар не проста запазычвае вобразы ніжэйшай міфалогіі (напрыклад, ётунаў, ніфлунгаў, дэманаў), але і *перастварае* мастацкую прастору згодна з характарыстыкамі гэтых вобразаў, стылізуе мову твора і персанажаў, спрабуе імітаваць уласцівае Сярэднявеччу светабачанне (памятаем, міф ёсць само жыццё). Паказальна, што аповед у творы вядзецца ад першай асобы, што дазваляе чытачу максімальна наблізіцца да галоўнага героя.

Міфалагічныя існасці ў апавяданні Н. Новаш, па сваёй сутнасці, з'яўляюцца маркерамі, што пазначаюць варожую герою "чужую" прастору (як і ў фальклорнай прозе): ад свету ётунаў і ніфлунгаў да дэманічнага вымярэння. Фарміруючы стыль апавядання, усе элементы формы мастацкага цэлага, гэтыя вобразы арганізуюць твор і знутры, дазваляючы аўтару паказаць свайго героя на шляху духоўнага сталення. Праз гэта герой Новаш (як высвятляецца напрыканцы твора, яго імя — Хрыстафор) знаходзіць у сабе сілы супрацьстаяць як фізічнай небяспецы (вынішчэнне з боку ніфлунгаў), так і спакушэнню з боку прадстаўніка свету дэманаў.

Як бачым, твор карыстаецца самымі класічнымі, адшліфаванымі часам сродкамі і формамі, знаёмымі і блізкімі кожнаму носьбіту фальклорнай традыцыі. Што гэта можа азначаць? Тое, што нават у такім паважальна маладым літаратурным кірунку, як фантастыка (фэнтазі), дзейнічаюць тыя ж заканамернасці, што і ў фальклоры. Напісанне сапраўды знакавага літаратурнага твора на фантастычную тэматыку без ведання асноўных законаў класічнай чарадзейнай казкі, без знаёмства з фальклорнай спадчынай падаецца сумніўным, калі наогул магчымым.

# Зямля любімая навечна, дзе Доўгае і Беразвечча

### Алег САЛТУК

***

*Уваходжу ў лета асцярожна,*
*Як да сонных дзетак у пакой.*
*Над зялёнай чабаровай пожняй*
*Матылёў рознакалёрны рой.*

*А над нівай, сонцам абагрэтай,*
*Млявая смуга ажно рыпіць.*
*Безнадзейна, роспачліва ў лета*
*Зноў бядачка каня просіць піць.*

*Не дае спякота ні глыточка —*
*Для касцоў запас хавае свой.*
*Стог стаіць пузаты, нібы бочка,*
*З бацяном — затычкаю жывой.*

*Мудра ўсё наўкола і адзіна,*
*Цішыні даволі і святла.*
*Ланцужок руплівы мурашыны*
*Топча сцежкі да свайго жытла.*

***

*Як зацвітуць у лесе верасы,*
*Лісты адчай адчуюць на асіне,*
*І жураўліны клін трывожна кіне*
*На стомленую вёску галасы,*

*Іду прытоена ў прыціхлы лес,*
*Дзе дзятлы талакою канапацяць*
*Зіркатыя вуглы ў аглухлай хаце,*
*Каб снегавей у сцюжу не залез.*

*Ніводнай краскі. Белая раса,*
*А верасы гараць агнём ружовым.*
*Я рады ім, нібы дзіця абновам,*
*І абнаўляюся душою сам.*

*І цёпла мне, і цёпла верасам,*
*І цёпла ў сэрцы матчынаму слову.*

### Тамаш ЛЯШОНАК

## Не зважай

*Ты не зважай, што час настаў такі:*
*Маўляў, павеяў прыкрую маркоту.*
*І ўжо не толькі змоўклі жаўрукі,*
*А журавы гатовы да адлёту.*

*Ты не зважай на колер валасоў,*
*Бо не бяда, што рана пасівелі,*
*А слухаць шолах спелых каласоў*
*Абое мы паўвека радасць мелі.*

*Ты не зважай на цьмяны бляск вачэй*
*І не лічы сябе старой дазвання —*
*Агонь пачуццяў тым гарыць ярчэй,*
*Чым больш праяваў шчырасці ў каханні.*

*Ты не зважай, што так шыбуе час*
*І ўсё бліжэй зімовая завея.*
*Жаўрук у паднябессе і для нас*
*Яшчэ ўзляціць — каханне не старэе.*

## Матчына акно

*Усё мацней душа туды імкнецца,*
*Дзе, нібы сон, мільгнуў маленства час,*
*Дзе ўсё сядзіць матуля ля акенца —*
*Жыве надзеяй дачакацца нас.*

*Ад гэтых весніц, што ля дзічкі-грушы,*
*Пайшлі мы ў свет спакусны так даўно,*
*Ды за гады не зачарсцвелі душы,*
*Бо нам свяціла матчына акно.*

### Марыя БАРАВІК

***

*Ты заслону гадоў адхіні,*
*Каб далёкае наша імгненне*
*Узышло у святле цішыні,*
*У блакітных танах і адценнях.*

*Не пасуе нам з хмары труха.*
*Помніш сонечных промняў сваволю?*
*Выбачай, што не ўмею кахаць —*
*Дзякуй Богу за гэтую долю.*

*Калі зорку цяпер запалю,*
*Ці ж я страту табе абязболю?*
*Бачыць Бог мой, каго я люблю, —*
*Дзякуй Богу за гэтую долю.*

*Ля старэнькіх прытомленых весніц,*
*Дзе падзей адбылася нямала,*
*Прыгадаю цудоўную песню,*
*Што ў дзяцінстве мне мама спявала.*

*Прыгажэйшай не чула ніколі:*
*Чысты голас, паважнае слова.*
*Лёгкакрылаю вольнаю воляй —*
*Яе Светласць, матуліна Мова.*

### Галіна СУТУЛА

***

*Люблю вясну, дабраслаўляю лета,*
*Лагодзіць вока снежная імжа.*
*Ды толькі у мяне свая прыкмета:*
*Найлепшы час, як выспее душа.*

*Бы яблыкі ў прыпол, збіраю словы,*
*Не сокам — мудрасцю налітыя спаўна.*
*І веру ў сілу даўняе замовы:*
*Калі з табою Бог, ты не адна.*

*Люблю вясну, дабраслаўляю лета,*
*Лагодзіць вока снежная імжа.*
*Ды толькі у мяне свая прыкмета:*
*Найлепшы час, як выспее душа.*



Фота Кастуся Дробава

### Віталь ГАРАНОВІЧ

***

*Нібы туман, страсаюць стрэхі*
*Спякоты летнюю нуду.*
*Кідае лівень, як арэхі,*
*Цяжкія кроплі у ваду.*

*Жытоў бурштынінкі-зярняты*
*З калосся сыплюцца на дол.*
*Грамы, захмарныя гарматы,*
*Грымяць нязмушана наўкол.*

*Ілля зажынкам ладзіць лазню.*
*Над парасонамі стагоў*
*Маланка зырка вокам гляне,*
*Нібы шукаючы каго.*

*Ды галавы падняць не можа*
*Прамоклы вецер ад травы.*
*З шнура фартух кароўкай божай*
*Зляцеў на лапік крапівы.*

### Ганна ВЯЗІЦКАЯ

***

*Прытулюся шчакой да бярозкі,*
*Над рамонкам лагодна схілюся…*
*Блаславеннем надзелены боскім*
*Гэты сціплы куток Беларусі.*

*Дарагі, неацэнны, адзіны...*
*Ён з маленства ўладарыць у сэрцы.*
*Родным краем, Айчынай, Радзімай*
*Нездарма той куточак завецца.*

### Тамара ЧАБАН

***

*Паехаць з кухоннай задухі,*
*З будзённых турбот і размоў,*
*Каб вольным надыхацца духам,*
*Гаючым прасторам палёў.*

*Прыспешваць марудныя колы*
*Хутчэйшага ездака.*
*І ў думках адчайна-вясёлых*
*Былога цябе сустракаць.*

*Каб там, праз шляхі-кіламетры,*
*Убачыць: заходу няма.*
*Ты ў той жа утульнай клетцы,*
*З якой уцякла сама.*

### Юрась КАСЦЮК

## Малая радзіма

*І зноў сюды ахвотна еду,*
*У Плісу, роднае мястэчка.*
*Дзе чыстае, як слёзка, неба*
*І Мнюціца — дзяцінства рэчка.*

*Туман над возерам кужэльны*
*Бязважкі згортвае сувой.*
*І карабельны бор Кужэльнік*
*Адвечны спеў выводзіць свой.*

*Пяе, як маці, калыханку*
*Ён на гаючай роднай мове.*
*Душу залечвае падранку*
*Бальзамам, што у кожным слове.*

*Тут дыяментная, жывая*
*Раса на утравелай сцежцы...*
*Радзіма любая, малая,*
*Ды большай і няма, здаецца.*

### Алесь ЖЫГУНОЎ

## Маналог Язэпа Драздовіча

*— Людцы, дзякуй за хлеб,*
*Вы мяне шанавалі.*
*Я — Драздовіч Язэп,*
*Вы пазналі?*

*Задыхаўся і слеп,*
*Бо тварыў апантана.*
*Я — Драздовіч Язэп,*
*Што маё захавана?*

*Так мяне не стае,*
*Голаў хіліце нізка?*
*А карціны мае*
*Каля сэрцайка блізка?*

*Я нічый, без патрэб*
*Па Ляплянах блукаю.*
*Я — Драздовіч Язэп,*
*Я шапчу, я гукаю:*

*— Людцы, дзякуй за хлеб,*
*Абавязан вам хлебам,*
*Я, Драздовіч Язэп,*
*Не адзіны пад небам.*

*Габелен сінявы...*
*Колькі таленту, Божа!*
*Я вас помню, а вы?*
*Не забыліся, можа...*

## Бярозавік Віталя Гарановіча

*Душа твая высока —*
*У чысціні нябёс.*
*...Апошні слоік соку*
*З кладоўкі я прынёс.*

*Ты кожнаю вясною*
*Збіраць яго любіў.*
*Апекаваўся мною,*
*Каб я здаровым быў.*

*Я піў твой сок салодкі,*
*Не чэзнуў без пары.*
*Як здарава ўсё-ткі,*
*Калі жывуць сябры!*

*...Адкуль увесну сцюжа —*
*На кветкі, на плады?*
*І стаўся сок твой, дружа,*
*Прагорклы ад бяды.*

***Вершы паэтаў Глыбоччыны да друку падрыхтаваў Алесь Жыгуноў.***

# На скрыжаванні эпох

Напярэдадні Дня беларускага пісьменства ў РВУ “Літаратура і Мастацтва” пабачыла свет багата ілюстраваная кніга “Глыбоччына. Зямля любімая навечна, дзе Доўгае і Беразвечча…” Пра тое, як яна ствралася, распавядае яе ўкладальнік і адзін з аўтараў Уладзімір Бацкалевіч.

Аляксандр ЛІПСКІ

**— Чаму менавіта так называецца кніга?**

— Разумеецце, першапачаткова на вокладцы слова “Глыбоччына” не значылася, маўляў, Беразвечча і Доўгае ведае ўся Беларусь. Раіліся, спрачаліся. Урэшце, на апошнім пасяджэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы да свята быў зацверджаны канчатковы загаловак выдання. Думаю, варта растлумачыць геаграфічныя назвы ў ім. Дык вось, Беразвечча — самае старажытнае паселішча, якое ўпершыню ў пісьмовых крыніцах пазначана на XIV стагоддзем. У свой час тут былі пабудаваны базыльянскі кляштар, мужчынскі і жаночы манастыры, духоўнае вучылішча… Іншымі словамі, Беразвечча стагоддзямі з’яўлялася цэнтрам нацыянальнага і духоўнага адраджэння. У 1960-х гадах яно тэрытарыяльна злучылася з Глыбокім і ўвайшло ў адміністрацыйны склад раёна.

Доўгае (маецца на ўвазе возера) называюць беларускім Байкалам. Яно самае глыбокае ў нашай краіне — амаль 54 метры. Вада ў ім вызначаецца вялікай колькасцю кіслароду і нізкай тэмпературай. Нават спякотным летам на глыбіні ніжэй 19 метраў тэмпература не падымаецца вышэй за 6 градусаў.

**— Ці адчувалі вы дыктат з боку кіраўніцтва раёна, маўляў, пішыце толькі тое, што загадаем?**

— У гэтым плане нам вельмі пашанцавала. Ніякіх загадаў, інструкцый, ультыматумаў ні разу не чулі. Наадварот, адказныя супрацоўнікі райвыканкама ахвотна падтрымлівалі нашы ідэі і прапановы, своечасова забяспечвалі архіўнымі матэрыяламі, арганізоўвалі паездкі да помнікаў гісторыі і культуры, на бюджэтаўтваральныя прадпрыемствы, наладжвалі сустрэчы з лепшымі калектывамі мастацкай самадзейнасці. Намеснік старшыні райвыканкама Галіна Унуковіч прасіла толькі пра адно: “менш лірыкі, больш канкрэтыкі”. Ды і мы самі разумелі, што нельга ахапіць неабдымнае — раён надта багаты на гістарычныя падзеі, цікавых людзей. Тут 17 храмаў, якія з’яўляюцца помнікамі архітэктуры, чатыры — рэспубліканскага значэння. 19 калектываў мастацкай самадзейнасці носяць званне “народны” і “ўзорны”. Мы імкнуліся адлюстраваць на старонках выдання найбольш цікавыя падзеі і факты, тое, чаго няма ў іншых рэгіёнах Віцебшчыны. Напрыклад, СВК “Залатая падкова”, дзе гадуюць пародзістых коней. Наўмысна ні словам не абмовіліся пра работу грамадскіх арганізацый — яны створаны паўсюдна, а вось пра суполку казацтва, якая дзейнічае тут, расказалі чытачам.




**— Глыбоччына — яшчэ і край знакамітых літаратараў, дзеячаў навукі і культуры. Ці ўдалося ўзгадаць у кнізе ўсіх выбітных асоб?**

— Кніга прымеркавана да Дня беларускага пісьменства, таму, натуральна, значнае месца займае аповед менавіта пра паэтаў і празаікаў, якія нарадзіліся, жылі і працавалі тут, пра новае пакаленне творцаў. Мы імкнуліся падкрэсліць, што паэтычная крыніца, якая аднойчы забруіла на гэтай прыгожай зямлі, невычэрпная, яна падпітвае маладыя літаратурныя парасткі. Уладзімір Сауліч, Алесь Жыгуноў, Ірына Жарнасек, Віталь Гарановіч, Марыя Баравік, Ганна Зінкевіч і іншыя пісьменнікі ўпэўнена заяўляюць пра сябе ў сваіх кнігах, на старонках айчынных літаратурных часопісаў.

Канечне, падрабязна расказаць пра жыццё і творчасць усіх пісьменнікаў, якія мелі стасункі з Глыбоччынай, не дазволілі рамкі выдання. Тым не менш, мы ўспомнілі іх імёны, адзначылі ўнёсак у айчынную літаратуру і літаратуру наогул.

**— У гісторыі Глыбоччыны, як, дарэчы, і ўсёй Беларусі, нямала “белых плямаў”. Ці спрабаваў аўтарскі калектыў нейкім чынам закрыць іх?**

— Цяжка адказаць адназначна. Разумеецце, пасляваеннае пакаленне беларусаў доўгі час нічога не ведала пра такіх славутых людзей, як Клаўдзій Дуж-Душэўскі, Вацлаў Ластоўскі, Павел Каруза, Элізэр Бен-Іегуда… Іх імёны воляй сталінскага рэпрэсійнага апарату былі бессаромна зняслаўлены, а лёсы бязлітасна пакалечаны. Таму па сёння няма падрабязнай інфармацыі пра жыццё і дзейнасць многіх слаўных глыбачан. Таго ж Тадэвуша Даленгі-Мастовіча — сусветна вядомага пісьменніка. Адна крыніца сцвярджае, што ў верасні 1939-га яго застрэліў савецкі салдат у пасёлку Куты, што паблізу румынскай граніцы. Згодна з другой версіяй, ён загінуў пад Львовам ад шалёнай украінскай кулі. На мой погляд, памяць пра яго доўгі час заставалася нечым нязручным як для палякаў, так і для беларусаў. Кіраўнікоў ПНР і БССР можна зразумець. Даленга-Мастовіч у сваіх творах бескампрамісна крытыкаваў сацыяльную рэальнасць даваеннай Польшчы, выступаў “супраць любых літаратурных прэмій”. Бальшавікі помсцілі яму з-за роднай сятры Ядвігі, якая працавала выкладчыцай лацінскай мовы ў Лідскай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча і пасля вайны стала жонкай генерала Феліцыяна Складкоўскага, паплечніка Пілсудскага. Восенню 1939 года Ядзвіга Мастовіч прымала актыўны ўдзел у рабоце падпольнай арганізацыі, якая выступала супраць усталявання Савецкай улады ў заходніх абласцях Беларусі, за што была арыштавана і інтэрніравана.

Ведаеце, на вышыні гісторыі застаюцца сапраўды толькі вельмі неардынарныя людзі. Важна паспець разгледзець іх пры жыцці. А вечнасць сама рассудзіць, каго ёй выбраць сваім кумірам.

**— Вы хочаце сказаць, што кожнаму даецца па заслугах?**

— І гэта пацвярджае час. Хто з глыбачан і калі ўспамінаў імя Іосіфа Корсака? Хіба толькі гісторыкі ды святары Троіцкага касцёла ды Кафедральнага сабора ў гонар Ражства Прасвятой Багародзіцы, якія ў XVII стагоддзі заснаваў уладальнік беразвецкіх зямель. Пасля 1917 года баяраў, князёў, памешчыкаў было прынята лічыць “ворагамі працоўнага народа”. Добра, што праўда прабівае сабе дарогу. Напярэдадні Свята беларускага пісьменства ў цэнтры Глыбокага, на алеі славутых землякоў, Іосіфу Львовічу ўстаноўлены бронзавы бюст.

Для гісторыі абыякава, як адбываюцца падзеі — яна становіцца на бок тых, хто робіць вялікія справы і дасягае вялікіх мэтаў.

**— Вы задаволены вынікамі працы аўтарскага калектыву?**

— Сэнс творчасці — заўсёды заставацца незадаволеным. Тым не менш, я шчыра перакананы, што Глыбоччына вартая таго, каб яе ведалі.

## У падтрымку чытання



**Людміла КАРНІЛОВІЧ, галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы Глыбоцкага райвыканкама:**

# І для настрою, і для душы

Падарожжа ў краіну чытання для мяне пачалося з казак, якія на ноч расказваў тата. Я была татава дачушка. Магла слухаць адну і тую ж казку пра ваўка і лісіцу-хітрыцу шмат разоў, прычым пільна сачыла, каб тата не пераскочыў па сюжэце і папраўляла яго: “А вось ты тут яшчэ пра гэта не расказаў”.

З таго часу, відаць, і палюбіла казкі. У маім жыцці многае звязана з імі.

Люблю казкі Гофмана — “Щелкунчик і Мышиный король”, казачную аповесць пра курдупеля Цахеса, якога звалі Цынобер. Часта яе перачытваю. Дарэчы, абяцала сыну, што прачытаю разам з ім. Твор павучальны, цікавы, шматпланавы. Спадзяюся, яму падабаецца. Сыну 13 гадоў, на жаль, ён больш сябруе з камп’ютарам, чым з кнігай.

Перачытваю старыя любімыя выданні. Зусім нядаўна чытала “Шляхціца Завальню” Яна Баршчэўскага.

Вельмі падабаюцца вершы Сяргея Ясеніна, нават тыя, што не ўвайшлі ў вялікія яго зборы твораў — жартоўныя чатырохрадкоўі. Яны лёгка запамінаюцца, ахвотна цытую іх да месца. На паліцы стаіць зачытаны трохтомнік — і для настрою, і для душы. А пра каханне вершы Сяргея Ясеніна самыя цудоўныя, дзіўныя і непаўторныя! Чытаючы іх, пачынаеш задумвацца пра тое, што яно (каханне) ўсё ж існуе, галоўнае паверыць у яго ўсёй душой.

І, канечне ж, стараюся знаходзіць час на знаёмства з літаратурнымі навінкамі. Сачу за творчасцю землякоў — Алеся Жыгунова, Уладзіміра Сауліча, Галіны Сутулы.



# На крылах “Залатых купідонаў”

Ужо добрай традыцыяй стала ўручэнне на Свяце беларускага пісьменства знакаў-сімвалаў “Залаты купідон”, а таксама дыпломаў пераможцам і намінантам Рэспубліканскага конкурсу “Лепшы літаратурны твор года”. Вось і сёлета ў шосты раз будуць узнагароджаны сапраўды лепшыя, тыя, хто найбольш ярка праявіў сябе ў творчасці ў 2011 годзе. Дык хто ж атрымае запаветныя статуэткі? Для чытачоў “ЛіМа” мы прыадкрыем таямніцу выданняў-пераможцаў конкурсу.






“Шчаслівыя людзі” **Юліі Зарэцкай** пабачылі свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”. І сёння ёсць нагода яшчэ раз перагарнуць старонкі кнігі, бо Юлія Зарэцкая, галоўны рэдактар часопіса “Вожык”, атрымае “Залаты купідон” у намінацыі **“Лепшы твор у галіне гумару і сатыры”**. Чым значнае гэтае выданне? Тым, што яно фактычна вяртае ў літаратурны ўжытак ужо амаль забытыя жанры гумарэскі, фельетона. Да таго ж, зборнік замалёвак з натуры, сатырычных п’ес, гумарыстычных апавяданняў — досыць рэдкая ў наш час з’ява. У кнігу Юліі Зарэцкай увайшлі творы, якія гумарыстка пісала на працягу дзесяці год, а таму “ёсць выключная магчымасць падарожнічаць у часе, згадваць мінулыя з’явы і падзеі і — на жаль, знаходзіць ці назіраць многія з іх сёння, у XXI стагоддзі...”






Беларусь — краіна паэтаў. Тут, бадай, кожны, хто мае справу са словам, спрабаваў пісаць вершы. Таму не выпадкова да паэзіі ў нас прад’яўляюцца самыя высокія патрабаванні, і каб атрымаць узнагароду ў гэтай намінацыі, трэба быць сапраўдным майстрам рыфмы, рытму і вобразу. Думаецца, што **Алег Салтук**, паэт з Віцебшчыны, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча ў намінацыі **“Паэзія”** — менавіта з такіх творцаў. Яго пераможная кніга вершаў і паэм **“Дзве зары”** пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура”.

Чым прываблівае чытачоў паэзія Алега Салтука? Шчырасцю, амаль спавядальнасцю, глыбокім роздумам над сутнасцю з’яў і падзей, даверальнымі інтанацыямі, замілаваннем роднымі мясцінамі. А. Салтук разумее паэзію як “сродак выхавання высокай маральнасці, духоўнасці і чалавечнасці”.






У намінацыі **“Дзіцячая літаратура”** лепшым стаў **Мікола Маляўка**. Думаецца, яго кніга **“Коласаў абярэг. Дзецям пра Якуба Коласа”**, што пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура” і стала працягам серыі “Гісторыя ў асобах”, не толькі ўразіла журы, але ўжо заняла сваё месца на паліцах любімых кніг многіх дзетак. І гэта не выпадкова. Як адзначае ў прадмове да выдання сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, “Як зямляк Коласа аўтар валодае шэрагам невядомых фактаў з гісторыі Коласавай радні, успамінамі, пачуцямі ў свой час ад старэйшых аднавяскоўцаў. З дзіцячых гадоў ён захапляўся кнігамі Коласа, ужываўся ў яго творы, удзельнічаў у тэатралізаваных школьных спектаклях па некаторых з іх і таму выдатна валодае матэрыялам”.

Таму чытанне ператвараецца ў сапраўднае гісторыка-літаратурнае падарожжа, бо кароткія нарысы (4 — 5 старонак) апісваюць найбольш важныя моманты ў жыцці і творчасці песняра. Аўтар так выбудоўвае гэтыя маленькія творы, што паспявае сказаць вельмі шмат.






Не засталася па-за ўвагай шаноўнага журы конкурсу кніга **Славаміра Антановіча “Судьба до востребования”**, якая выйшла ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Славамір Валяр’янавіч стане лаўрэатам конкурсу ў намінацыі **“Публіцыстыка”**.

Героі дакументальных аповесцей, нарысаў і апавяданняў, што склалі кнігу, — асобы, якія пакінулі значны след у гісторыі Беларусі. Гэта Першыя сакратары ЦК КПБ Ціхан Кісялёў, Мікалай Слюнькоў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага савета БССР Фёдар Сурганаў, начальнік Беларускай чыгункі Яўген Валадзько. Не засталіся па-за ўвагай аўтара подзвігі герояў Вялікай Айчыннай вайны Леаніда Бяды і Дзмітрыя Жмуроўскага, беларусаў у бітве пад Монтэ-Касіна ў складзе арміі Андэрса. Адметна і тое, што выданне ўключае і фотаздымкі з архіва аўтара, якія арганічна ўключаюцца ў аповед.





У жыцці кожнага творцы ёсць кніга, якая стане візітоўкай. Думаецца, для паэта **Уладзіміра Скарынкіна** гэта пераклады на беларускую мову твораў Дантэ Аліг’еры і Франчэска Пятраркі, што выйшлі ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Упершыню ідэя перакладу Дантэ з’явілася ў яго ў 1976 годзе падчас размовы з Язэпам Семяжонам. Але рэалізацыя стала магчымай толькі ў 1990-я. Першай была перакладзена “Боская камедыя”, адзначаная Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай прэміяй Італьянскай Рэспублікі. Знаходзячыся “на хвалі” Дантэ, паэт перастварыў яго ранні твор “Новае жыццё”, які спадзяваўся выдаць пад адной вокладкай з “Боскай камедыяй”. Тая задума не была ажыццёўлена, але міжволі паспрыяла звароту да творчасці Пятраркі, **“Кніга песняў”** якога выйшла разам з **“Новым жыццём”**. Менавіта яны і былі адзначаны “Залатым Купідонам” у намінацыі **“Мастацкі пераклад”**.

Пераможцам у намінацыі **“Літаратурная крытыка і літаратуразнаўства”** стаў **Зіновій Прыгодзіч**. На яго рахунку амаль два дзясяткі мастацкіх і дакументальных кніг. “Залатым Купідонам” адзначана апошняя з іх — **“Постаці”**, што выйшла ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Хто героі кнігі? Рэжысёр Валерый Анісенка, харавы дырыжор Міхась Дрынеўскі, актрыса Марыя Захарэвіч, кампазітар Леанід Захлеўны, літаратуразнаўца Адам Мальдзіс, скульптар Іван Міско, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, мастак Георгій Паплаўскі, пісьменнікі Янка Сіпакоў і Анатоль Сульянаў. Кожны з іх — яркая, неардынарная постаць. З. Прыгодзіч вядзе з імі дыялог на роўных, не засланяе сураразмоўцу, не выстаўляе на першы план сваю дасведчанасць і эрудыцыю, а тактоўна накіроўвае разважанні творцы ў цікавым для чытача рэчышчы.











Лепшым названы ў намінацыі **“Проза”** **Мікалай Ільінскі**.

“Залатым Купідонам” гістарычная трылогія, якая складаецца з раманаў **“Последняя ладья викингов”**, **“Братья по крови”** і **“Воины-хранители”**, што выйшлі ў выдавецтве “Современная школа”. Яна прысвечана падзеям XI стагоддзя, калі на прасторах Кіеўскай Русі адбывалася жорсткая барацьба паміж князямі за ўладу. Разам з выдуманымі героямі ў творах дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы — знакамітыя кіеўскія ваяводы Вышата і Тварымірыч, першы епіскап Іларыён, летапісцы Нікан ды Нестар і шэраг іншых. З першых радкоў трылогіі М. Ільінскі заваблівае чытачоў у свет старажытнарускай гісторыі і трымае іх увагу да апошняй старонкі.






Купідон за лепшы твор у намінацыі **“Драматургія”** застанецца ў Віцебскай вобласці. Яго ўладальнікам стане педагог і пісьменнік з Докшыц, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча **Фёдар Палачанін**. Перамогу ў конкурсе аўтару прынесла трынаццатая па ліку кніга **“Зраненае сэрца”**. Яна пабачыла свет у сталічным выдавецтве “Кнігазбор”.

У зборніку драматычных твораў, якія характарызуюцца глыбокім псіхалагічным аналізам, асуджаюцца крывадушша і падман, здрада і маральная распуста, тут паказаны складаныя адносіны паміж бацькамі і дзецьмі, пошукі шчасця і любові. На думку Фёдара Палачаніна, менавіта ў крызіснай сітуацыі людзі часцей звяртаюцца да рэлігійных каштоўнасцей, пачынаюць усведамляць сваю адказнасць перад іншымі.

Вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў **Анатоль Статкевіч-Чабаганаў** займаецца пошукамі ў гісторыка-краязнаўчай галіне. Вынікамі сваіх даследаванняў ён падзяліўся ў кнізе **“Я — сын Ваш: Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак»”**, што пабачыла свет у выдавецтве “Роднае слова”. Праца Анатоля Васільевіча, прысвечаная яго ўласнаму радаводу, усім тым, хто ў блізкія і далёкія часы перасякаўся са Статкевічамі-Чабаганавымі, не засталася без увагі шырокай грамадскасці. Сёлета выданне ўжо адзначана дыпломам І ступені Нацыянальнага конкурсу “Мастацтва кнігі” ў намінацыі “За ўклад у зберажэнне духоўнай спадчыны”, а зусім хутка яго аўтар атрымае і “Залатога купідона” ў намінацыі **“Лепшая кніга гісторыка-краязнаўчага жанру”**.






Лепшым у галіне песеннага жанру названы **Іван Юркін** — адметным прызнаны яго цыкл патрыятычных песень, музыку да якога напісаў Алег Елісеенкаў (выканаўца Анатоль Ярмоленка).



Чэслава ПАЛУЯН
Даніла АРЦІМОВІЧ

# Институт Led Zeppelin

Первое выступление этой группы состоялось 7 сентября 1968 года в Галлаксе, Дания. А потом начался недельный тур по Дании и Швеции. Уже тогда Джимми Пейдж смело экспериментировал со звучанием, к примеру, играл смычком на электрогитаре, а публику завораживал вокал Роберта Планта. Кстати, именно Джимми Пейдж предложил новое название — "Свинцовый цеппелин". Его утвердили с небольшим изменением написания, чтобы избежать путаницы в произношении. Сегодня без них невозможно даже и представить heavy metal. Как когда-то писал в своём эссе Дэйв Грол, один из участников группы Nirvana, теперь фронтмен Foo Fighters, "они, вне всяких сомнений, — моя любимая группа всех времён. Я учился играть на ударных, слушая пластинки Led Zeppelin, по ним же я изучал работы Джимми Пэйджа — как акустические, так и электрические. Я не учился в колледже, я и в школе-то недоучился. Я выпускник института Led Zeppelin!"


*Промо-снимок Led Zeppelin, сделанный в США в мае 1969 года.*

**Юзефа ВОЛК**

Думаю, что не только Дэйв Грол считает себя выпускником этого института, ведь влияние *Led Zeppelin* ощущается в музыке многих коллективов, в том числе и белорусских. Поэтому альбом "***Led Zeppelin.* Иллюстрированная биография",** изданный при поддержке ООО "Харвест", найдёт читателя не только среди книголюбов, но и среди меломанов и музыкантов. В издании вошли 200 классических, редких и ранее не публиковавшихся фотографий, которые, вместе с комментариями Гарета Томаса, рассказывают о стремительном росте популярности одной из самых известных групп. Более того, издание расскажет о сольных проектах, совместных работах и воссоединениях, которые были с момента официального распада *Led Zeppelin* в 1980 году, включая триумфальное и долгожданное возвращение группы на сцену в 2007-м. Кстати, автор текста книги — достаточно известный музыкальный журналист, в центре его внимания оказывались не только *Led Zeppelin,* но и другие известные музыканты, к примеру, Джон Леннон.




Но вернёмся к *Led Zeppelin,* точнее, обратим внимание лишь на некоторые моменты их творческой биографии. Уже к маю 1969 года дебютная пластинка вошла в американский топ-10, а позже стала платиновой, занимая верхние строчки всевозможных рейтингов. Прошло меньше шести месяцев с их первых американских шоу, а *Led Zeppelin* уже стали одной из самых высокооплачиваемых групп, на концерты которой билеты раскупаются полностью. Но всё было не так просто. В ресторанах и гостиницах музыкантов нередко высмеивали из-за длинных волос и ярких нарядов, они часто жаловались на плохое обслуживание. Несмотря на восторженный приём поклонников, *Led Zeppelin* также приходилось бороться с большим количеством недружелюбно настроенных сотрудников периодических изданий. И даже Эллен Сандер, которая примкнула к их окружению, через некоторое время отказалась делать репортаж для своего журнала. Отношения между группой и прессой "потеплеют" только в 1973 году, это станет заслугой пиарщика Дэнни Голдберга.

Группа развивалась. После множества вызовов на бис *Led Zeppelin* часто заканчивали свои выступления долгим барабанным соло Джона Бонэма, во время которого он выбрасывал барабанные палочки и играл руками — зачастую до крови. Да и вокалист Роберт Плант постепенно становился звездой группы. Будучи фронтменом, он не только работал над уникальным вокальным стилем и сценическим амплуа, но и писал песни вместе с Пейджем.

Группа не только активно гастролировала по США, но и выступала на родине, в Британии. Здесь они участвовали в джаз и блюз фестивалях, выступали на сцене знаменитого *Lyceum Theatre*. Кстати, за это выступление они получили самый большой на то время гонорар в Соединённом Королевстве. А их второй альбом *Led Zeppelin II* в чарте журнала *Billboard* продержался на вершине целых семь недель, перед этим обогнав *Abbey Road* группы *The Beatles*.

Но музыканты не останавливались на достигнутом. Они продолжали экспериментировать с продолжительными джем-сессиями и альтернативными аранжировками. Так, во время концертов ударные соло Джона Бонэма часто длились более 15 минут, а оригинальные композиции превращались в попурри блюза и рок-н-ролла. Большая часть материала третьего альбома группы была проникнута фолковым, акустическим настроением. Это стало результатом того, что многие песни родились во время спокойных посиделок в разных уголках Исландии, где не было электричества, и показало желание Пейджа и Планта развиваться, с точки зрения музыки открыло более мягкую, интроспективную сторону их творчества. С этого времени группа стала включать акустические сеты в живые выступления, а басист Джон Пол Джонс всё чаще играл на органе, а не на бас-гитаре.

Жизнь группы не была идеальной. Уже во время североамериканского тура на одном из шоу возникли проблемы с публикой. Сотни безбилетных поклонников стали штурмовать концертную площадку. Частичное обрушение сцены произошло и в Мэдисон-Сквер-Гарден. В результате *Led Zeppelin* стали вести жизнь отшельников, между шоу скрываясь в номерах. А в Японии после восторженного приёма поклонниками их и вовсе объявили людьми вне закона.

Были и новые проекты, не музыкальные. В частности, Джимми Пейдж открыл книжный магазин и издательство оккультной литературы. Что, в общем, не удивительно, ведь он всегда интересовался всем мистическим. Увлечённость работами философа и мага Алистера Кроули всё больше привлекала публику и прессу — в газетных и журнальных публикациях иногда даже проклинали группу.

Позже были — запись новых альбомов, поездка в Индию, совместная работа с индийскими музыкантами, очередное турне по Америке, во время которого *Led Zeppelin* получали беспрецедентные 90 процентов прибыли от продажи билетов, личные трагедии, новые взлёты и разочарования. Распад группы после смерти барабанщика Джона Бонэма в 1980 году.

Практически всё время существования *Led Zeppelin* находились в состоянии конфронтации не только с прессой, но и с музыкальными критиками. И лишь после распада группы новые поколения критиков признали, что *Led Zeppelin* создали собственное звучание и крайне оригинальный, постоянно развивавшийся стиль. Специалисты назвали их ведущей группой первой волны хард-рока, сыгравшей основополагающую роль в становлении жанра heavy metal. И это не удивительно, ведь их "институт" на самом деле работает: практически любая хард-рок или хэви-метал-группа хоть что-нибудь да заимствовала у них в звучании или стиле. А это дорогого стоит.



# Выбор героев Вайнера

**Ольга ПОЛОМЦЕВА**

Имена Аркадия и Георгия Вайнеров вся большая советская страна выучила, когда её сердца покорили герои фильма "Место встречи изменить нельзя". Основой фильма послужил роман писателей "Эра милосердия". Сегодня произведения братьев Вайнеров переведены на многие языки.

Они заявили о себе на литературном поприще в 1970 году повестью "Часы для мистера Келли". Дебютировали уже состоявшимися людьми — юристы по образованию с богатым жизненным опытом, который был блестяще трансформирован в произведения с живой интригой, увлекательные по форме и драматичные по накалу поставленных вопросов. Не только рассказать детективную историю, но и заставить читателя размышлять над мотивами поступков героев, а в конечном итоге — о мере добра и зла и границе между ними, на которой человеку предстоит совершить нравственный выбор.

На творческом счету Георгия Вайнера — 22 фильма, 152 книги, выпущенные в разных странах. Он работал электромехаником, техником, инженером, был журналистом многотиражки, корреспондентом ТАСС, в 1990-м уехал в США, где работал обозревателем, потом главным редактором газеты "Новое русское слово", писал сценарии. В 2000 году в России вышла его книга "Умножающий печаль", а в 2003-м — её продолжение "Райский сад дьявола", которые стали последними, выпущенными при жизни автора. Оба эти произведения вошли в книгу "Дивизион", предлагаемую вашему вниманию издательством "Харвест".




Один из эпиграфов "Дивизиона" ("По законам нынешней жизни, если в первом акте на стене висит ружьё, значит, до начала спектакля из него уже кого-то застрелили". Милицейский взгляд на чеховский театр) настраивает, что речь пойдёт о людях, которые ежедневно подвергают жизнь опасности. "Дивизион" — секретная оперативная группа по борьбе с организованной преступностью. Им приходится распутывать самые сложные дела. На этот раз — убийство при загадочных обстоятельствах одного из коллег.

# Кожнае выданне — падзея

Традыцыйна паняцце “летапіс” уключае фіксацыю значных падзей, што адбываюцца ў краіне. Але калі казаць пра кніжны летапіс, ці сучасную серыю “Летапіс друку Беларусі”, то ў цэнтр увагі трапляе выданне — кніга, газета, часопіс. Выпускам такога летапісу ў нашай краіне традыцыйна займаецца Нацыянальная кніжная палата Беларусі. І калі раней яе супрацоўнікі кіраваліся Уставам кніжнай палаты, то цяпер рыхтуецца Закон Рэспублікі Беларусь “Аб выдавецкай справе”, праект якога ўжо прыняты Парламентам у першым чытанні.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

— Выхад першага кніжнага летапісу, звязанага з тэрыторыяй нашай краіны, датуецца 1907 годам, у той час гэтай справай займаўся орган цэнзуры — Галоўнае ўпраўленне па справах друку Расіі, — распавядае намеснік дырэктара Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Аксана Карповіч. — Далей гісторыя гэтага выдання звязана з дзейнасцю кніжнай палаты, утворанай у 1917 годзе спецыяльнай пастановай Часовага ўрада. Дарэчы, сама ідэя была прапанавана вядомымі кнігазнаўцамі, каб правесці дэмакратычныяператварэнні ў галіне друку. Яны даказвалі неабходнасць стварэння ў новай палітычнай сітуацыі спецыяльнай дзяржаўнай бібліяграфічнай установы з шырокімі навуковымі і практычнымі задачамі. Думаю, варта працытаваць іх прапанову: “Неабходна ўзвесці будынак светлай кніжнай палаты… стварыць базу для ўсерасійскага назірання і вывучэння рэк кніжных славес, што шырока бягуць па тварах рускай зямлі…”

Гісторыя ўласна беларускага кніжнага летапісу распачалася крыху пазней, у 1924 годзе. Тады пастановай Саўнаркама ў структуры Беларускай дзяржаўнай і ўніверсітэцкай бібліятэкі быў створаны аддзел “Беларуская кніжная палата”, і адной з функцый, што былі ўскладзены на яго, стала атрыманне і рэгістрацыя абавязковых экзэмпляраў усіх твораў друку, што выпускаліся на тэрыторыі БССР. Ужо на аснове дадзеных рэгістрацыі было прынята рашэнне стварыць “Летапіс беларускага друку”. Інфармацыя пра выдадзеныя кнігі да 1926 года публікавалася ў часопісе “Асвета” пад рубрыкай “Кнігапіс”. Пазней паказальнік стаў выходзіць у выглядзе бібліяграфічнага бюлетэня. Спачатку раз на два месяцы, а з 1929 года, калі ў краіне павялічылася колькасць выдадзеных кніг, — штомесяц. Пачынаючы з 1924 года у дадатак да кніг летапіс папаўняўся іншымі відамі дакументаў — нотамі, перыядычнымі выданнямі, звесткамі пра часопісныя артыкулы, рэцэнзіі, карты, матэрыялы па выяўленчым мастацтве. У 1946 годзе тут з’явіўся раздзел “Беларусь у сусветным друку”, дзе была прадстаўлена інфармацыя пра беларускую экстэрыёрыку — друкаваныя выданні пра Беларусь і беларусаў, на беларускай мове, беларускіх аўтараў, выдадзеных за межамі краіны.

— Да 1995 года Кніжная палата выпускала дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік “Летапіс друку Беларусі”, куды ўключалася інфармацыя пра ўсе віды друкаваных дакументаў, што выходзяць у краіне. Але з-за таго, што ўзмацніўся паток друкаванай прадукцыі, сталі з’яўляцца новыя і новыя выдавецтвы, было прынята рашэнне падзяліць яго на самастойныя бібліяграфічныя паказальнікі, — адзначае Аксана Ангелаўна. — Так з’явіліся “Кніжны летапіс”, летапісы часопісных і газетных артыкулаў, летапісы перыядычных, картаграфічных, нотных, выяўленчых выданняў, аўтарэфератаў дысертацый. З 2005 года самастойным стаў паказальнік “Беларусь у сусветным друку”. Вось так і атрымалася, што сёння Кніжная палата Беларусі стварае цэлую сістэму дзяржаўных бібліяграфічных паказальнікаў, аб’яднаных агульным брэндам — серыяй “Летапіс друку Беларусі”. У яе ўваходзіць 11 самастойных выданняў.


Год выданьня 3-ці [015 (47.6) (061)]

ЛЕТАПІС БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

БІБЛІОГРАФІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАЙ КНІЖНАЙ ПАЛАТЫ

пры Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы.

Выходзіць раз у два месяцы.

№ 2 — САКАВІК—КРАСАВІК — МЕНСК 1927

Дужкі [ ] у тэксьце Летапісу паказваюць на адсутнасьць прыведзеных даных на тытульным лісьце кнігі. Цыфры з правага боку над загалоўкамі зьяўляюцца індэксамі міжнароднае дэцымальнае сыстэмы бібліографічнае клясыфікацыі.

I. Паасобныя выданьні на беларускай мове.

105. [ . . . 354(47.6)
1927.—Агляд дзейнасьці Савету Народных Камісараў і Экономічнае Нарады БССР. Зборныя матар'ялы за 1 квартал (кастрычнік—сьнежань) 1926-1927 г. г.—Менск, Кіраўніцтва Спраў Савету Народных Камісараў БССР, 1-я Дзярж. друк. (23×15). 98 стар. 750 экз. (БССР).

106. [ . . . 354(47.6)
1927.—Агляд дзейнасьці Савету Народных Камісараў і Экономічнае Нарады БССР. Зборныя матар'ялы за II-гі квартал (студзень—сакавік) 1926-27 году.—Менск, Кіраўніцтва Спраў СНК БССР, друк. Менспраўдому. (23×15). 141+[3] стар. 2000 экз. (БССР).

107. [ . . . 345(47.6)3
1927.—Альфабэтна-прадметны паказчык да Бюлетэню Савету Народных Камісараў Беларускае ССР №№ 1(10)—16(25) 1926 году.—Менск, выд. СНК БССР, друк. Менспраўдому. (26×17). 57 стар. 3200 экз.
Загалоўнай старонкі няма. Апісана па вокладцы.

108. [ . . . 345 (47.6)3
1927.—Альфабэтна-прадметны паказальнік да збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага Ураду БССР за 1926 год. Алфавитно-предметный указатель к собранию законов и распоряжений Рабоче-Крестьянского Правительства БССР за 1926 год.—Менск, выд. Выдавецкага П/Аддзелу Аддзелу Законадаўчых Проэктаў і Кодыфікацыі НКЮ БССР, 2 друк. БДВ (26×17). 66 стар. 75 кап. 2500 экз.
Загаловак і тэкст роўналежна на беларускай і расійскай мовах.

*Так выглядаў “Летапіс беларускага друку” ў 1927 годзе.*

Інфармацыйныя тэхналогіі не стаяць на месцы, некаторыя краіны, напрыклад, у Скандынавіі, цалкам адмаўляюцца ад папяровых версій дзяржаўнай бібліяграфіі. А якім будзе “Летапіс друку Беларусі” ў XXI стагоддзі?

— З сярэдзіны 1990-х гадоў мы пачалі, апроч выдання папяровай версіі летапісу, захоўваць усе звесткі і ў электронным варыянце. — адказвае Аксана Карповіч. — На сайце Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі ўжо працуе Інфармацыйная сістэма дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі, а гэта, па сутнасці, электронны аналаг “Летапісу друку Беларусі”. Таму можна сказаць, што ў нашай краіне і электронны, і папяровы варыянты кніжнага летапісу існуюць паралельна. І, думаецца, нягледзячы на высокі кошт, захаванне папяровай версіі летапісу друку ў Беларусі яшчэ актуальнае.

Распавяла Аксана Ангелаўна і пра працэс рэтраканверсіі, што цяпер праходзіць у Кніжнай палаце. Так, з 2005 года бібліяграфічныя запісы “Летапісу друку Беларусі” пераводзяцца ў электронны фармат (па друкаваным арыгінале) у адваротнай храналогіі. — Цяпер мы працуем над паказальнікам за 1978 год. Гэты працэс скончыцца ўвядзеннем інфармацыі з першых публікацый, што выйшлі ў часопісе “Асвета” пад рубрыкай “Кнігапіс” у 1924 годзе. А калі разважаць пра перспектыву, то, канечне, у далейшым актуальна алічбоўка ўсяго кніжнага фонду Кніжнай палаты і злучэнне гэтага масіву з інфармацыяй, прадстаўленай у летапісах. Падагуліцца, гэта было б надзвычай зручна і цікава для карыстальнікаў, а таксама дазволіла б стварыць прынцыпова новую сучасную мадэль дзяржаўнай бібліяграфіі Беларусі.

# Казка без гора і зла

У гісторыі кожнага народа ёсць асобы, на спасціжэнне маштабу якіх патрабуецца не адно стагоддзе. Сярод такіх — Язэп Драздовіч. Сапраўдны homo universalis, шматгранны талент, беларускі Леанарда да Вінчы, “павятовы Мікеланджэла”, які, нягледзячы на складаныя варункі жыцця, нястачу і неўладкаванасць, не адмовіўся ад мастацтва, не адмовіўся ад самой ідэі служэння прыгожаму, не страціў веры ў будучыню свайго народа і сваёй Радзімы.

**Маргарыта ГРУДЗІНАВА**

“Мяне яшчэ пашукаюць…”, — пісаў Язэп Драздовіч у сваіх “Дзённіках” і меў рацыю: да творчага набытку “вечнага вандроўніка” звяртаюцца як даследчыкі, так і людзі, захопленыя Драздовічам, глыбінёй яго нага таленту. І людзі навукі, і аматары мастацтва спрабуюць асэнсаваць унёсак Язэпа Драздовіча ў развіццё беларускай культуры. А гэты ўнёсак — немалы: акрамя жывапісных і графічных спадчыны мастак пакінуў пасля сябе літаратурныя творы, большасць з якіх не надрукаваныя і чакаюць свайго часу, фальклорыстычныя запісы, багаты слоўнікавы матэрыял… Гэты пералік можна доўжыць. І, калі іпастась Драздовіча-мастака добра вядомая, то іншыя бакі асобы славутага земляка, хочацца верыць, яшчэ будуць раскрытыя.

Драздовіч-паэт… Пісаць вершы Язэп Драздовіч пачаў яшчэ ў “падуросльыя леты”, і ад свайго імкнення выказваць думкі не толькі фарбай, але і ў паэтычным слове не адмовіўся і ў сталыя гады. У паэтычнай спадчыне яго можна знайсці радкі, прысвечаныя ягонай улюбёнай тэме — Космасу. Драздовіч адчувае: чалавек заўсёды ў дыялогу з Космасам, чалавек сам — цэлы Космас, і ягонае жыццё так нагадвае жыццё касмічных свяціл. Спачатку ён — маладзік, у росквіце — поўня, і ў рэшце рэшт — ветах:

*О, мы з табой па паўнаце жыцця,*
*Здаецца, быццам харашэем:*
*Іграем роль здавольнага гасця –*
*Штодзень, аднак жа, “веташэем”.*

Ці не ветахам уяўляў сябе і Язэп Драздовіч? Ветахам, які, тым не менш, заўсёды адраджаецца зноў.

Галоўная ж тэма ўсёй творчасці Язэпа Драздовіча — гэта, безумоўна, Беларусь (нават касмічныя краявіды, якія ён бачыў падчас сваіх касмавізій, нагадваюць родныя мясціны), яе мінулае. Менавіта гэтаму прысвечаны самы значны паэтычны твор — паэма “Трызна мінуўшчыны” (1936 — 1937). Трызна — заключная частка пахавальнага абраду ў старажытных славян, якая суправаджалася ваеннымі спаборніцтвамі, песнямі, танцамі, а таксама памінальнай вячэрай па нябожчыку. У хрысціянскія часы абрад трызны захаваў толькі традыцыі памінальных песень і вячэру. Паэма Язэпа Драздовіча — не што іншае, як памінальная песня, плач па Беларусі. Аднак, згодна з вераваннямі старажытных славян, гэтак жа, як і паводле хрысціянскіх пастулатаў, чалавечая душа — бессмяротная і можа адрадзіцца. Таму абрад Трызны не ўспрымаецца як заканчэнне.

Нібы старажытны Баян, Драздовіч стварае песню (нездарма першапачатковая назва — “Песні аб мінуўшчыне”). На песенны склад указвае і быліны верш, якім напісаны твор. Гэтая вершаваная форма характэрна для вусна-паэтычнай творчасці. Такое ўражанне, нібы Драздовіч сабраў у адно шэраг народных песень: гістарычныя, антыпрыгонніцкія, батрацкія, рэкрупкія. Па словах Юрыя Малаша, які адным з першых звярнуўся да літаратурнай спадчыны мастака, “вусна-паэтычная форма выкладання паэмы памагае нам найлепш адчуць мелодыю тых старажытных часоў”.

Пісьменнік не адкрывае нічога прынцыпова новага, не дэталізуе гістарычную канкрэтыку, а спрабуе перадаць напружанасць і драматычнасць гісторыі Беларусі.

Свой “экскурс” у мінулае Язэп Драздовіч распачынае з апісання ладу жыцця нашых прадзедаў, які грунтаваўся на гармоніі суіснавання чалавека з чалавекам і чалавека з прыродным светам. Быццё продкаў — казка, у якой няма зла, няма гора, няма смерці (нават трызны суправаджаюцца вясёлымі песнямі):

*Весяліліся, мёд збіраючы,*
*Дзядоў-прадзедаў памінаючы.*
*Хто й радзіліся, хто й жаніліся,*
*Хто й памёр, па ім весяліліся.*
*Весяліліся, Трызны правячы,*
*Валатоўкі магіл нарываючы…*

Цікава, ці ўсведамляў сам Язэп Драздовіч, што так яскрава выразіў народныя ўяўленні пра старадаўнія часы, пра сябе, свет і сябе ў свеце?

Наступны перыяд у гісторыі — гэта працяг “залатога веку”, час станаўлення беларускай дзяржаўнасці, росквіту магутнай, незалежнай краіны, якая можа пахваліцца і поўнай казной, і багатой мовай, і палітычным ладам.

Не адставала і ваенная сфера — мужныя волаты, якіх на барацьбу склікаў звон-ізбор, заўсёды гатовыя былі бараніць Бацькаўшчыну. І, нягледзячы на тое, што многія гінулі ў крывавых баях, не было яшчэ ў душы беларуса месца песням-жальбам.

Але “залаты век” неўзабаве скончыўся. Падзеі пачалі змяняцца з неверагоднай хуткасцю: мінула слава старажытнага Полацка і ягоных гарадоў-братоў непакорных, велічны Навагрудак саступіў “пасад места стольнага” Вільні, а Вільня, у рэшце рэшт, пакарылася спачатку Варшаве, потым — Піцеру… Такі “калейдаскоп” падзей узмацнее адчуванне зломy, заняпаду краіны.

І вось яны, песні-жальбы, народжаныя з бясправя, з прыгнечанасці. Язэп Драздовіч падае невялікія замалёўкі з жыцця беларуса. Кожная з іх — і ёсць тая самая песня-жальба. Тут і скаргі на цяжкую працу батрака, і паказ бяссілля прыгонніка, і выкрыццё заможнага жыцця паноў, крывадушнасці законнікаў і хціваснці карчмара, і боль рэкрута, якому зламалі жыццё…

Нават кароткі перыяд “папрыгоння” не прынёс палёгкі — новыя парадкі прыцягнулі з сабой новыя нягоды. Разам з тым менавіта ў гэты час нарастае прага зменаў, абуджаецца думка і пачуццё годнасці:

*Лепш не мець зямлі,*
*ды быць вольнымі,*
*Чым на ўласнасці —*
*паднявольнымі.*

Абудзіць нацыянальную самасвядомасць, думку — галоўная задача ўсёй творчасці Язэпа Драздовіча. А адным з самых дзейсных спосабаў з’яўляецца актуалізацыя гістарычнай памяці. Сапраўдная аўтарская знаходка — дыялагічная форма выкладу: паэт увесь час звяртаецца да Беларусі — уласны лёс павінен уразіць, здзівіць і абудзіць самыя лепшыя пачуцці. Праз гутарку з Беларуссю Драздовіч гутарыць з кожным беларусам.

Паэма “Трызна мінуўшчыны” так і не была надрукавана пры жыцці пісьменніка (асобныя раздзелы пабачылі свет толькі ў 1993 годзе ў газеце “Выбар”). У пачатку 1937 года аўтар адаслаў тэкст паэмы ў часопіс “Беларускі летапіс”, але ў публікацыі Драздовічу было адмоўлена. Успамінаюцца словы Алеся Разанава: “Верш значны не гукам, які чуваць, пакуль верш чытаецца, а сваім рэхам, якое ён утварае, калі адгучыць”. Можа, варта і нам прыслухацца да рэха з мінулага?

Літкур'ер

# Чалавек... з будучыні

Серыя "Асоба і час", заснаваная выдавецтвам "Чатыры чвэрці" ў 2008 годзе, папаўняецца ўсё новымі кнігамі. Да прыкладу — зборнік "Уладзімір Гніламёдаў: «Заставацца сабой...»" (укладальнік Мікола Мікуліч).

**Андрэй АЛЕКСА**

Бярэш у рукі гэты аб'ёмны том і разумееш, што гэта вельмі чаканы падарунак усім, хто сочыць за творчасцю аднаго з самых выдатных сучасных беларускіх пісьменнікаў. Без перабольшвання можна сказаць, што ў нацыянальным прыгожым пісьменстве ёсць феномен Уладзіміра Гніламёдава. Спасцігнуць яго сутнасць і дапамагае гэтая кніга.

Дзякуючы артыкулам, нарысам, эсэ, інтэрв'ю, што друкаваліся не толькі ў беларускай, украінскай перыёдыцы, а і ў рускай — колішняй савецкай, — аўтарамі якіх з'яўляюцца аўтарытэтныя крытыкі, літаратуразнаўцы, журналісты, лішні раз упэўніваешся, як плённа працуе Уладзімір Васільевіч як даследчык літаратуры. Аднак не менш ён зрабіў і для развіцця сучаснага беларускага рамана, уласнымі творамі засведчыўшы, як трэба пісаць.

Сярод аўтараў кнігі — Валянціна Локун, Тамара Нуждзіна, Таццяна Сівец, Людміла Рублеўская, Іван Чарота, Міхась Мушынскі, Алесь Марціновіч, Дзмітрый Бугаёў, Міхась Тычына і іншыя. Важкую нагрузку нясе аўтабіяграфія самога Уладзіміра Васільевіча "З таго, што помніцца і што думаецца".

У ёй найбольш значныя тыя моманты, якія патрапляюць пад вызначэнне "што думаецца". Гэта развагі У. Гніламёдава над жыццём, але ў большай ступені імкненне сказаць сваё слова пра літаратуру, якая, несумненна, стала справай усяго жыцця. Падобныя назіранні, абагульненні чытаць не толькі цікава, а і карысна, асабліва настаўнікам беларускай літаратуры, для якіх думкі выдатнага майстра слова не могуць не быць аўтарытэтнымі. Гэта тычыцца і таго, як жыць і дзеля чаго жыць: "Як і кожны чалавек — прызнаецца пісьменнік, — люблю жыццё. Люблю жыць. Мае паводзіны і ўчынкі кантралюе думка пра тое, што жыць даводзіцца толькі раз — другой магчымасці не будзе, а калі так, то ты павінен увесь час шукаць нейкія стымулы, цікавае ўспрыманне жыцця, імкнуцца да радасці ад сустрэч з людзьмі, з пэўнай парой года, прыродай, сонцам, ветрам, дажджом".

Толькі з адным ягоным сцвярджэннем, бадай, чытачы не пагодзяцца — калі Уладзімір Гніламёдаў гаворыць не толькі пра сябе, а і пра прадстаўнікоў свайго пакалення: "Думаю, галоўнае мы ўжо зрабілі і сёння з'яўляемся людзьмі з мінулага". У тым, што сапраўды зроблена вельмі шмат, канечне, сумнявацца не даводзіцца, а наконт "людзей з мінулага"? Безумоўна, усіх пад адзін грабеньчык не прычэшаш, але пра самога Уладзіміра Васільевіча ўсё ж правільным будзе сказаць, што ён чалавек з будучыні. У тым сэнсе, што дасягнутае ім у далейшым будзе запатрабавана гэтаксама, як і сёння. Гэта тычыцца ўсіх галін ягонай творчай дзейнасці. А наколькі важкія творчыя набыткі Уладзіміра Васільевіча, і пераконвае кніга "Уладзімір Гніламёдаў: «Заставацца сабой...»".



# Паўночны вецер у ветразях

Прыватнае выдавецтва "Северный ветер" ярка дэбютавала на кніжным рынку двума выданнямі — раманам Маргарыты і Вольгі Бясчасных "Tramontana, или Как я сходила замуж за иностранца" і кнігай "Письма с фронта: история любви", выбранага з лістоў, што падчас Вялікай Айчыннай вайны дасылаў жонцы Валянціне лётчык-бамбардзіроўшчык Георгій Лысоў. Наша размова з дырэктарам выдавецтва Маргарытай Клябанавай, адной з аўтараў "Tramontana…"

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Кастуся Дробава**

**— Маргарыта, скажыце, калі ласка, з чаго ж насамрэч пачалася ваша выдавецкая дзейнасць?**

— Шчыра кажучы, з рамана, у аснову якога ляглі біяграфічныя падзеі. Асэнсаваўшы пэўны адрэзак нашага жыцця, мы з сястрой напісалі кнігу. Атрымаўся своеасаблівы дапаможнік па Іспаніі — як падарожнічаць, як знаёміцца, як кантактаваць і разам з тым не забывацца на сваю стрыманасць. Калі паспрабавалі выдаць раман, аказалася, што заснаваць уласнае выдавецтва абыдзецца больш танна, чым карыстацца паслугамі іншых. Так нарадзілася наша прыватнае выдавецкае прадпрыемства.

**— Але ж для выдання кнігі патрэбна цэлая каманда: мастак, які зробіць вокладку, рэдактар, вярстальшчык і г. д.**

— Некалі я вучылася ў мастацкім вучылішчы. Потым стала працаваць у выдавецтве "Полымя" малодшым рэдактарам, паступіла на рэдактарскі факультэт Маскоўскай акадэміі — тады Інстытут паліграфіі. Сямнаццаць гадоў адпрацавала ў "Полымі". На маім рэдактарскім рахунку шмат кніг, якімі дасюль ганаруся, — шэраг выданняў па краязнаўчай тэматыцы, у тым ліку "Страчаная спадчына", аўтары якой Тамара Габрусь, Анатоль Кулагін, Юрый Чантурыя, Міхась Ткачоў. Гэта фаліянт па помніках архітэктуры і дойлідства, якіх у Беларусі ўжо няма.

На момант, калі пісалі кнігу, была супрацоўнікам рэкламнага агенцтва, па родзе дзейнасці давялося здаць іспыт на выдавецкую ліцэнзію. Вёрсткай таксама валодаю. Так што праблем не было.

**— Адзін мой знаёмы ахрысціў прафесію рэдактара "прафесійны чытач". Раскажыце пра вашы літаратурныя прыхільнасці, іх станаўленне.**


*Вольга Мангутава і Маргарыта Клябанава.*

— Любімы аўтар — Поль Верлен, і ў арыгінале, і ў перакладзе. Я ім проста захапляюся.

Як чытач фарміравалася так: бабуля была бібліятэкарам. Першы пісьменнік, з якім яна мяне пазнаёміла, — Джэк Лондан. "Белый Клык", "Время не ждёт"… Пад рукой заўсёды былі выдатныя кнігі. У 17 год, калі я паступіла на работу ў выдавецтва, палова зарплаты ішла на кнігі. У інстытуце маімі кумірамі былі Цвятаева, Гумілёў. Калі пісала "Tramontana…", перачытвала Гі дэ Мапасана. Сёння з выбарам прасцей: што задумаў, тое і чытаеш. Дзякуючы інтэрнэту. Спампаваў літаральна за некалькі хвілін — і атрымлівай асалоду.

**— А ці тая ж асалода, як ад папяровай кнігі?**

— Прызнаюся, я не электронны чытач — раздрукоўваю і чытаю ў ложку.

**— Спрабавалі сябе дагэтуль як аўтар?**

— У юнацтве пісала апавяданні. І калі сястра прапанавала падагульніць перажытае, пачала з асобных апавяданняў, кожнае з якіх было прысвечана аднаму з герояў. А ў выніку атрымаўся цэлы раман. Падзеі адбываліся ў Каталоніі, дзе дзьме трамантана — паўночны вецер. І рамантычная атмасфера не можа не адбіцца на ўспрыманні творчай натуры. Адтуль — і назва нашага выдавецтва. Калі мы хадзілі яе зацвярджаць, я загадала: калі нашу назву пакінуць, у нас усё атрымаецца. І нам дазволілі. Знайшлі друкарню, з якой пастаянна супрацоўнічаем. І шчаслівы лёс зноў падарыў нам добрую ідэю: сяброўка нашай маці хацела выдаць для сямейнікаў ваенныя лісты бацькі. Кніга — і жаночы раман, і патрыятычная тэма — адразу знайшла сваіх прыхільнікаў.

**— Раскажыце пра вашу выдавецкую палітыку — які сегмент кніжнага мора вам цікавы?**

— У маім дыпломе пазначана: "Рэдактар масавай літаратуры". Згодна з ліцэнзіяй маю права на выпуск мастацкай літаратуры і выданняў для вольнага часу. Мы адкрыты для супрацоўніцтва з рознымі аўтарамі. Гатовы выдаваць і паэзію, і творы на любімую жанчынамі тэматыку. Дарэчы, многіх патэнцыяльных аўтараў прыцягнула "Tramontana…" Ёсць ідэя выдаць серыю зборнікаў "Дэканавел" — дзесяць навел у адной кнізе.



**— Вашы планы як аўтара?**

— На жаль, і дырэктарства, і вырашэнне розных тэхнічных пытанняў б'е па творчым баку, так што пакуль пра наступныя раманы толькі мару. Працую і ўдзень, і ўночы. Але хачу паспрабаваць сябе ва ўсіх жанрах. Можа, наступнай стане п'еса. Нядаўна напісала казку. Мая сяброўка вучыць дзяцей на занятках маляваць іерогліфы. Працуем над выданнем размалёўкі, якая не толькі падкажа, як правільна паэтапна намаляваць той ці іншы іерогліф, але яшчэ і "ўпакуе" навуку ў казачны сюжэт.

**— У мінулым годзе кніжны рынак перажыў крызіс, а вы рызыкнулі пачаць справу менавіта на гэтым полі.**

— Жанчынам іншым разам куды прасцей наладжваць кантакты і шукаць сваю аўдыторыю. Пасябравалі з прыватнай друкарняй, нам ідуць насустрач, могуць пачакаць з аплатай. З рэалізацыяй таксама цікава. Працуе жаночая "пошта": чакаюць працягу нашага рамана ўжо сяброўкі сяброваk маёй маці. Яны набылі нашы першыя кнігі ў якасці падарунка для ўсіх сваіх знаёмых — прыбаўляе кошт. Тых, каго яшчэ зацікавяць нашы выданні, пашукаем і ў Санкт-Пецярбургу, і ў Іспаніі.

# Дзеля пані Гісторыі

Вацлаў Ластоўскі, ураджэнец засценка Калеснікава (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці), вядомы беларускай навуцы як актыўны дзеяч нацыянальнага руху пачатку XX ст., як палітык, літаратар, гісторык, публіцыст. Ён прысвяціў жыццё выпрацоўцы асноўных каштоўнасцей і паняццяў, на аснове якіх беларусы павінны самасцвярджацца як нацыя. Ластоўскі пераконваў у першую чаргу саміх беларусаў у праве на самастойнае існаванне і ў роўнасці з іншымі народамі. Пры гэтым вялікую ўвагу надаваў пытанням гісторыі краю і роднай мовы, бо менавіта яны, на яго думку, уплываюць на фарміраванне самасвядомасці народа.

**Наста ВЕСЯЛУХА**

Да пачатку XX ст. не было папулярнага апісання гісторыі Беларусі на беларускай мове, аднак патрэба, якую адчувалі ўсе, у ім існавала. Першым, хто змог яе задаволіць, стаў Вацлаў Ластоўскі з дапамогай "Кароткай гісторыі Беларусі", якая асобнымі артыкуламі друкавалася ў "Нашай ніве" ў 1910 годзе, а пазней у тым жа годзе выйшла адной кнігай з прадмовай аўтара. Спецыяльных гістарычных даследаванняў перад напісаннем сваёй кнігі Вацлаў Ластоўскі не праводзіў. Тым не менш яго спроба паказаць гісторыю краю і беларусаў, як самастойную нацыю, прывяла да вызначэння храналогіі ўладароў у духу расійскай гістарыяграфіі Карамзіна. У гэтым выяўляецца намер аўтара надаць гісторыі і працэсу фарміравання беларускай нацыі непарыўнасць і пераемнасць. Гэты падыход цалкам адпавядаў тагачаснаму еўрапейскаму разуменню гісторыі.

Даследчая дзейнасць — адзін з бакоў індывідуальнасці В. Ластоўскага, але без асэнсавання яго мастацкай творчасці нельга скласці паўнавартасны партрэт аўтара. Упершыню праявіць свае літаратурныя здольнасці Власт змог у "Нашай Ніве", дзе былі надрукаваны яго першыя апавяданні, казкі, паданні. Пасля яны ўваходзілі ў выданні "Маладая Беларусь" (Пецярбург, 1912), друкаваліся ў газеце "Гоман", у "Беларускім календары "Сваяк" на 1919 г.", часопісах "Беларускі сцяг", "Крывічанін", "Крывіч". Пад назвай "З нашай мінуўшчыны" сабрана цэлая нізка каротких апавяданняў і малых матэрыялаў, змешчаных у адной з першых дзіцячых чытанак-хрэстаматый, выпуск якіх наладзіў Вацлаў Ластоўскі ў 1915 — 1916 гадах.

У празаічных творах Вацлава Ластоўскага, апроч замілавання мінуўшчынай, заўважаецца цікавасць да археалогіі. Ён неаднаразова ў сюжэт апавяданняў уводзіць моманты, калі героі ненаўмысна знаходзяць у зямлі старыя манеты, упрыгожванні, часткі зброі, папярэджвае пра небяспеку прысвойвання падобных прадметаў нябожчыкаў. Натуральна, вабіла В. Ластоўскага полацкая даўніна, нездарма ён спрабаваў штучна павялічыць яе ўзрост. Да прыкладу, у спрэчках, якія вядуць паміж сабою героі аповесці "Лабірынты" — знаўцы полацкай мінуўшчыны, паўстае велічны вобраз Полацкай цывілізацыі, больш старадаўняй, чым рымская або грэчаская.

Вацлаў Ластоўскі ў сваіх навуковых і публіцыстычных творах не раз спрабаваў даць азначэнне гісторыі як навукі і як грамадскай з'явы. Падае ён і мастацкую інтэрпрэтацыю тэрміна: "Гісторыя — гэта такая пані, каторая любіць праўду сказаць кожнаму ў вочы, не зважаючы ні на стан, ні становішча зацікаўйшай яе асобы". Пацвердзіць гэты тэзіс ён імкнуўся і ў літаратурнай творчасці, ствараючы "нацыянальна-гістарычныя" мастацкія палотны, якія раскрываюць знакавыя матывы і вобразы.

# Пасвячоны ў падземныя глыбіні

Уладзімір Конан назваў яго "валхвцом беларускага фундаменталізму". І гэта справядліва: творам Вацлава Ластоўскага ўласціва як вяшчунская інтанацыя, так і скіраванасць да асновы, падмурку вялізнага будынку нацыі, а то і глыбей — у яго скляпенні ды падземныя лёхі.

**Соф'я МАРОЗАВА**

Вацлава Ластоўскага цікавіла мастацкае даследаванне сакральнага, таямнічага ў беларускай культуры, яго захаплялі язычніцтва, хрысціянства, а таксама масонства, у якое пісьменнік быў пасвячоны. Нездарма "архітэктурным" акцэнтам пазначаны самы славуты твор Ластоўскага — аповесць "Лабірынты": вольныя муляры разумелі складаную арганізацыю нацыянальнага быцця і яго ўкаранёнасць у роднай зямлі.

Між іншым, шэраг вучоных, філосафаў і містыкаў, у адрозненне ад В. Ластоўскага, змяшчалі нацыянальныя скарбы ў нябёсных сферах: варта згадаць наасферную тэорыю У. Вярнадскага, містычную карціну свету Д. Андрэева, канцэпцыі рускіх філосафаў-касмістаў К. Цыялкоўскага, А. Чыжэўскага, ды і некаторыя літаратурныя творы (напрыклад, раман А. Казлова "Горад у нябёсах"). Ластоўскі ж змясціў іх у глыбіні зямлі, і гэтым актуалізаваў яе сакральны статус — зямлі-маці, зямлі-труны, зямлі, якая прымае і захоўвае, і дзякуючы сваёй энергетыцы з'яўляецца найважнейшым чыннікам узнікнення і развіцця беларускай культуры і беларускага светапогляду. У апавяданнях Ластоўскага паўстаюць вобразы валатовак, поўных скарбаў мінулых пакаленняў, прадметаў старасвецчыны, якія нясуць на сабе сімвалы былога росквіту беларускай культуры (Ластоўскі адносіць яго ажно да IV тысячагоддзя да нашай эры!).

Неаднаразова ўзнікаюць і вобразы праваленых пад зямлю святыняў (цэркваў, замкаў, нават цэлага горада), што маюць выток у фальклоры і славянскай міфалогіі. Паданні пра патануўшыя гарады былі вельмі распаўсюджаныя ў Беларусі, у тым ліку і на Глыбоччыне. У лексіконе беларусаў Паазер'я нават узнікла слова "царкавішча" (мае такое ж паходжанне, як "бульбянішча", "іржышча") — пагорак, на якім раней стаяла царква, што таямнічым чынам апусцілася пад зямлю.

У часопісе "Крывіч" Ластоўскі неаднаразова змяшчаў інфармацыю пра знаходкі на тэрыторы Беларусі старажытных рэчаў, напрыклад, сярэбранага пояса князя Альгерда ў Полацкім Барысаглебскім манастыры або пярсцёнка Усяслава ў ваколіцах Дзісны. Згадваліся і археалагічныя помнікі ў родных мясцінах В. Ластоўскага: стаянка каменнага веку, курганы, арабскія манеты, аздобы візантыйскага тыпу... Разнастайныя знаходкі падмацоўвалі веру ў наяўнасць старажытнай высокаразвітай цывілізацыі на беларускіх землях, а ў выпадку з В. Ластоўскім, які актыўна ўдзельнічаў у археалагічным жыцці краю, — стваралі багатую глебу для мастацкай міфалагізацыі.

Лабірынты В. Ластоўскага — гэта не проста фантазія на тэму падзем'яў, а ў першую чаргу метафара нацыянальнага быцця. У іх захоўваюцца бібліятэка старажытных рукапісаў, культурныя і духоўныя скарбы, а таксама таямнічыя рэчывы — гетын і крывін. Гетын дае нязгаснае святло ў падземных пячорах і забяспечвае насельнікам вечнае жыццё, а крывін дазваляе ператвараць любыя прадметы пры дапамозе маніпулявання "праатамамі". Паводле разважанняў Ю. Пацюпы, "абодва словы [гетын, крывін] утвораны ад старажытных, паводле В. Ластоўскага, назваў беларусаў: геты, крывічы. Назвы рэчываў адначасова — назвы і сутнасць саміх беларусаў. Значыць, выток несмяротнасці і духоўнага дабрабыту асобы — у актуалізацыі нацыянальнай памяці". Але ж вобразы настолькі яркія і незвычайныя, што прадугледжваюць мноства інтэрпрэтацый, і ніводная з іх не будзе вычарпальнай.

Між іншым, сам пісьменнік быў міфалагізатарам і аматарам смелых інтэрпрэтацый: нездарма ён упісаў у аповесць цэлы трактат па міфалогіі і касмалогіі старажытных беларусаў, дзе выклаў і сваю тэорыю паходжання славян з Гіпербарэі! Так, гетын і крывін можна разглядаць як атрыбуты ініцыяцыі — хрышчэння ў новую таямнічую веду. Можна праводзіць паралелі з міфалагічным баляваннем у іншасвеце (падзем'е ў народных павер'ях — іншы свет), нават з раем як увасабленнем дастатку, багацця... Вобразы гетыну і крывіну падобныя да сімвалічнай зёлкі "расходнік", якая ўзгадваецца ў няскончанай аповесці В. Ластоўскага "Мікалай Галубовіч": расходнік увасабляе ўніверсальны рэцэпт фізічнага і духоўнага здароўя, бо ад яго "расходзіцца ўсякае недамаганне". Даследчыца Таццяна Шамякіна звязвае вобразы гетыну і крывіну з традыцыямі народнай казкі і апісаннямі міфічнай краіны Шамбалы Р. Генонам, М. Рэрыхам. Яна развівае цікавую думку пра тое, што В. Ластоўскі яшчэ ў пачатку XX стагоддзя прадбачыў нанатэхналогіі, бо менавіта яны дазваляюць ствараць любую рэч з патрэбнай структурай і ўласцівасцямі пры дапамозе маніпулявання атамамі і малекуламі.

Вацлаў Ластоўскі — не толькі выдатны пісьменнік-наватар, стваральнік знакавых для беларускай культуры вобразаў, глыбокі даследчык, мовазнаўца, археолаг і вялікі міфатворца, але і чалавек дзеяння. Дзеяч, пасіянарый — гэтыя словы пасуюць да яго як найлепш. Шмат намаганняў В. Ластоўскі прыкладваў, каб дасягнуць незалежнасці і росквіту радзімы — як рэдактар часопісаў "Саха", "Беларускі сцяг", "Крывіч", выдатны публіцыст і педагог, акадэмік Інбелкульта. Менавіта В. Ластоўскі ўвёў ва ўжытак этнонім "крывічы" ў адносінах да беларусаў. "Крыўскім акцэнтам" пазначаныя такія фундаментальныя працы В. Ластоўскага, як "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі", "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік", "Кароткая гісторыя Беларусі". Як і аўтар славутага даследавання "Адвечным шляхам" Ігнат Канчэўскі, В. Ластоўскі звязваў сутнасць крывіцкай ідэі з творчасцю. У прадмове да "Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка" ён піша: "Мы Крывічы, гэта знача, што мы па доўгім, цяжкім сне прабуджаемся вольнымі душой, як вольнымі пачувалі сябе нашы прашчуры на вечах старэтных".

Акадэмік В. Каваленка некалі зазначыў: "Багацце нацыянальнай міфалогіі ў літаратуры — гэта глыбіня калектыўнай свядомасці народа, якая падымае яго на пэўны ўзровень маральнага і духоўнага існавання". Гэтае выказванне не толькі справядлівае ў дачыненні да В. Ластоўскага, але і парадаксальнае па вобразнай форме: "глыбіня... падымае на пэўны ўзровень". Менавіта ў спасціжэнні цёмных, таямнічых, неўсвядомленых глыбінь беларускага светапогляду пісьменнік бачыў шлях духоўнага ўзвышэння. Магчыма, у такой скіраванасці ў глыбіню (не вонкі ў шырокі свет, а менавіта ўнутр — да спазнання сябе) выявілася інтравертнасць, унуранасць, зацятасць беларуса. А можа, аб'ектыўная патаемнасць, схаванасць нацыянальнага жыцця. Кожнаму, хто шукае яго вытокі, варта прайсці Лабірынтамі Вацлава Ластоўскага.





Мастак і кніга

# Ігар Гардзіёнак:
# «Я ўяўляў мастакоў небажыхарамі»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

З мастаком Ігарам Гардзіёнкам мы пазнаёміліся падчас прэзентацыі кнігі Алеся Краўцэвіча з серыі “Жыццяпіс вялікіх князёў літоўскіх” — “Гедымін. Каралеўства Літвы і Русі (1316 — 1341)”. Ілюстраваць гэту серыю пачынаў Уладзімір Лукашык, працуе над адной з наступных кніг Павел Татарнікаў. Справа не абмежавалася толькі малюнкамі для выдання — гледачам быў прадстаўлены кніжны праект Ігара Гардзіёнка “Гедымін”. Наша сённяшняя размова — пра першыя крокі да асэнсавання свайго прызначэння, вучнёўства і творчыя надзеі мастака.

**— Ігар Леанідавіч, якія падзеі вашага дзяцінства прадвызначылі шлях да кніжнай графікі?**

— Можа, самае першае — кніга, якая ўразіла графічнасцю, знакавасцю. Зімою сядзелі на печцы ў бабулі, і старэйшая цётка — яна тады вучылася ў сярэдняй школе — чытала нам казкі, аформленыя мастаком Аляксандрам Шэверавым, — даволі “эстэцкія”. Запомнілася спалучэнне тэкста і яго мастацкага ўяўлення.

Усе малыя лічаць сябе мастакамі і шчыра здзіўляюцца, калі бацькі не пазнаюць у іхняй кляксе машыну ці яшчэ што-небудзь. І тут вялікую ролю адыгрываюць адзнакі з боку дарослых. Калі ўхваляць малюнак, папросяць падарыць і павесяць на сцяну, гэта вельмі важна.

Помню, у госці завітала далёкая радня, з якою рэдка бачыліся. Калі дарослыя разышліся пагаварыць, адна з цётак падышла да нас і спытала, чым мы займаемся. Пачуўшы ў адказ: “Малюем”, узяла паштоўку, фарбы, пэндзлік і намалявала акварэллю на чыстым лісце паперы яе сюжэт — казачных лісу ды ваўка. Гэта быў дзіцячы культурны шок, што такое можна зрабіць — з такой дакладнасцю паўтарыць, намаляваць карціну. Да гэтага здавалася, што кніжка ці карціна — нешта вельмі абстрактнае, гэта багі робяць.

У Вушацкую сярэднюю школу прыехалі супрацоўнікі рэспубліканскай школы-інтэрната імя Ахрэмчыка. Дэлегацыя — барадатыя дзядзькі, падобныя да тых небажыхароў, якімі я і ўяўляў некалі мастакоў, сабралі нас, далі заданні — намаляваць нейкія кампазіцыі. І ў выніку прапанавалі тром вучням паступаць. У тыя часы мастацкіх школ і студый выяўленчага мастацтва ў сталіцы і буйных гарадах хапала. А яны ездзілі па невялікіх гарадах, вёсках — шукалі таленавітых здольных школьнікаў. У параўнанні з горадам, канечне, падрыхтоўка ў нас была слабая, таму і існавала такая праграма — запрашаць дзяцей з перыферыі ў рэспубліканскую школу-інтэрнат. Я якраз падыходзіў па ўзросце — вучыўся ў чацвёртым, а трэба было ехаць з пятага класа. Паехалі з маім аднакласнікам Віктарам Манчынскім, але жыццё ў школе-інтэрнаце, яе рэжым яму не спадабаўся. Я быў больш упарты і не кінуў гэту справу. Вось давучыўся да таго, што паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут. Тут і пачалася работа менавіта з кнігай — і густ, і культуру чытання нам паступова прывівалі. Праграма навучання прадугледжвала пэўную колькасць работ, звязаных з ілюстрацыяй твораў.

На ўступных іспытах у школу-інтэрнат трэба было намаляваць жывапісны нацюрморт, кампазіцыю. Настаўніца абвяшчае: “Тэма — «Лета»”. І потым трошкі падказвае: “Можна вольную тэму ўзяць. Можа, некаму падабаецца спорт ці праца”. Бачыць, што вясковыя дзеткі разгубленыя, усхваляваныя — горад, сур’ёзныя іспыты, кажа: “А можна казачны сюжэт намаляваць”. Мы засумавалі ад такой колькасці варыяцый. І тут яна дадае: “Можа, хто-небудзь калабка намалюе?” Чамусці апошняе ў мяне засталося. Але за першыя тры гадзіны іспыта проста не справіўся з задачай — не змог намаляваць жоўтую пляму на зялёным полі. Выратавала мяне, што той іспыт ішоў на працягу двух дзён. Я сабраўся з думкамі і на наступны дзень замест шасці гадзін за тры выканаў кампазіцыю — лета, піянерскі лагер, неверагодная колькасць дзяцей, прырода — і такім чынам вытрымаў гэты іспыт.

**— Якія тэмы найбольш цікавыя вам сёння?**

— Тэма гістарычная. Нашы беларускія аўтары. Ілюстраваў Кастуся Тарасава ў якасці дыпломнай работы ў школе-інтэрнаце. Самастойны кніжны праект з макетам, ілюстрацыямі, вёрсткай тэкста, шаблонамі і г. д. І графічны дыплом прывёў на аддзяленне графікі ў інстытут.

Пачатак дзевяностых — адкрыццё многіх імёнаў і твораў. “Шляхціц Завальня, ці Беларусь у фантастычных апавяданнях”, аформленая Валерыем Славуком. Спрыяла такому інтарэсу і кафедра — Вішнеўскі, Савіч — такія моцныя кніжнікі, паказвалі, як трэба рабіць, што трэба рабіць, як тэмы раскрываюцца. Гэта быў час кнігі: кожны месяц навінкі на паліцах кнігарняў, крама “Дружба” — з чэшскімі, нямецкімі і іншымі выданнямі. Незразумела пра што, на жаль, замежнымі мовамі не валодаў, але кніжная графіка іншых краін як адкрыццё. А пасля і мы пачалі ездзіць за межы рэспублікі — на біенале. Рыга, Талін. Маса ідэй, як і што можна рабіць.

Пачалі прапаноўваць працу выдавецтвы. І можна было выбіраць, а не шукаць. Мы адразу патрапілі ў маскоўскія выдавецтвы, бралі заказы на афармленне дзіцячай літаратуры. Ствараліся серыі ілюстрацый… Калі параўнаць той і сённяшні час, цяпер ёсць магчымасць надрукаваць любую кніжку, знайсці спонсара. А тады галоўным крытэрыем было высокае мастацтва.

**— Назавіце, калі ласка, выданні, работа над якімі асабліва запомнілася.**

— Было шмат цікавых прац. Серыя выдавецтва “Кавалер” — Шэкспірыяда. Афармленне падручнікаў для беластоцкіх гімназій (падручнікі па беларускай мове і літаратуры “Шлях да сябе”, ORTHDRUK, 2001 і “Людзьмі звацца”, 2002). Некалькі выйграных тэндараў грэчаскага выдавецтва PAPADOPOULOS PUBLISHING S.A. — “Марыя Калас, біяграфія для дзяцей” (2004), “Марка Пола” (2005). Вершаваная кніга брэсцкай пісьменніцы пра пантэон паганскіх багоў “Кола Сварога” (Мінск: Беларусь, 2006). Апошняя — кніжка Алеся Краўцэвіча “Гедымін. Каралеўства Літвы і Русі (1316 — 1341)” (Мінск: Выдавец Татарнікава А. Ю., 2012).

**— Ці проста сёння быць мастаком?**

— Мастак — гэта карма. Мастак — гэта лёс. Мастак — істота, расліна, сарняк, які, нават калі яго не паліваць, не карміць і проста душыць, усё роўна будзе расці. Мы вяртаемся да ўзору класічнага мастака як асобы, рамесніка эпохі Адраджэння. Цяпер быць толькі мастаком — гэта вельмі мала. Трэба разбірацца і ў будаўніцтве — мастацтва цесна звязана з дызайнам інтэр’ераў, экстэр’ераў, увогуле з архітэктурай. Каб прадаць карціну, яшчэ трэба знайсці ёй месца ў памяшканні: зрабіць заказчыку такі праект інтэр’ера, у які пасля ўпішацца твой твор — карціна, фрэска ці яшчэ што-небудзь. Тое самае і з кніжкай: мала быць мастаком-графікам, трэба ведаць выдавецкія праграмы, сабраць кнігу (звярстаць, змакеціраваць), разбірацца ў магчымасцях друку, з дапамогай якіх можна здзейсніць той ці іншы праект.

**— Што мастаку трэба для шчасця і плённай творчасці?**

— Для працы — майстэрня.

Для творчасці — зрабіць выгляд вельмі занятага чалавека, каб ніхто не чапаў. Сабрацца з думкамі, пабыць сам-насам і распачаць. Дарэчы, праца па заказе заўсёды была рухавіком мастацтва. Ёсць выдаткаваныя грошы, ёсць абумоўленыя тэрміны. І мастацтву гэта толькі на карысць.

І ў гэтым савецкі час паказальны, калі мастакі былі заангажаваны, улада ведала, што ёсць сектар культуры, які трэба падтрымліваць. Падтрымка — гэта яшчэ і павага да мастака.

**— Для якіх твораў хацелася б зрабіць ілюстрацыі?**

— Калісьці, калі заканчваў акадэмію, рабіў ілюстрацыі да твораў Яна Баршчэўскага. Спадзяюся, што калі-небудзь змагу пазмагацца з Валерыем Славуком і праілюстраваць “Шляхціца Завальню”. Цікава было б працягнуць працу з Алесем Краўцэвічам.

**— Да таго ж вы займаецеся выкладчыцкай дзейнасцю. Скажыце, ці можна навучыць мастацтву?**

— Ёсць пэўная грамата, азы. У любой галіне ёсць азбука, законы, праграмы, пратаптаныя сцяжыны. Так і ў мастацтве. Пры ўсёй складанасці яго інструменты даволі простыя — пэндзаль ці аловак і тры фарбы. Па сёння нам хапала гэтых інструментаў. Усё астатняе — талент, гены, маторыка, з дапамогай якой пераносіш на паперу свае мары, вобразы, уяўленні… Камп’ютар — таксама інструмент. Няма сэнсу вынаходзіць многія рэчы, калі яны ўжо ёсць.

**— Ці хапае часу на чытанне?**

— Вельмі мала. Карыстаюся аўдыёверсіямі кніг. Розныя варыянты ўспрымання літаратуры — экранізацыя твора, тэатральная пастаноўка. Любімых аўтараў шмат — М. Павіч, У. Набокаў, У. Караткевіч і многія іншыя. З асаблівым задавальненнем прыгадваю творы Сяргея Пясецкага, дзейнасць якога прыйшлася на трыццатыя гады мінулага стагоддзя. Беларускіх аўтараў чытаю на мове арыгінала. Вось параўнайце: вёска Ваўчо — па-руску ніяк не гучыць, а па-беларуску адразу зразумела.



*Ілюстрацыя да кнігі Алеся Краўцэвіча “Гедымін. Каралеўства Літвы і Русі (1316 — 1341)”.*

Ігар Гардзіёнак нарадзіўся ў 1971 годзе ў в. Кублішчына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. У 1989 годзе скончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І. В. Ахрэмчыка, у 1995-м — Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (аддзяленне графікі). З 1992 года пачаў удзельнічаць у калектыўных і персанальных выстаўках — рэспубліканскіх і міжнародных (Расія, Польшча, Германія, Іспанія, Сербія, Славенія, Славакія, Японія). З 1997 года — член Беларускага саюза мастакоў.

Узнагароджаны дыпломамі беларускіх конкурсаў “Мастацтва кнігі”: II ступені за лепшае выданне года (2000); “Залаты дубль” і I ступені за лепшае выданне года (2001); “Мастак і кніга” — Дыплом “Чароўны матылёк” (2003); гран-пры “Тоеснасць” (2005); адзначаны Дыпломам II ступені за лепшае выданне сярод краін СНД на Усерасійскай кніжнай выстаўцы (2007, Масква, Расія).



*Ілюстрацыя да кнігі Алеся Краўцэвіча “Гедымін. Каралеўства Літвы і Русі (1316 — 1341)”.*

Унікальны праект

# Загадкі старога горада

Старажытнае Глыбокае, у якім зліліся гісторыя і сучаснасць, у гэтыя дні прымае гасцей Свята беларускага пісьменства. Каб ім было цікава, горад успомніць сваю мінуўшчыну і раскажа не адну сівую легенду.



*Панарама Глыбокага. Здымак з вежы глыбоцкай царквы. 1930-я гг.*

Уладзімір ІВАНОЎ

Першыя ўспаміны пра само Глыбокае адносяцца да перыяду Вялікага Княства Літоўскага. Найбольш значная падзея ў жыцці мястэчка, на думку гісторыкаў, адбылася ў сярэдзіне XVII стагоддзя, калі былі пабудаваны Троіцкі касцёл і царква Ражства Багародзіцы. Яны захаваліся да нашых дзён. Царква ўзводзілася як касцёл пры кляштары кармелітаў. Манаскі ордэн быў вядомы сур'ёзнай асветніцкай дзейнасцю. Пасля паўстання К. Каліноўскага, калі кляштар зачынілі, яго бібліятэка налічвала больш як 3,5 тысячы тамоў. Па сцвярджэнні ўраджэнца Глыбокага Вацлава Ластоўскага, многія з іх ужо ў той час лічыліся рарытэтамі. Тады бібліятэку канфіскавалі і яна стала ўласнасцю Расійскай імперыі. У якіх архівах сёння шукаць яе сляды — загадка.

Глыбокае мае адметную гісторыю, створаную слыннымі сынамі зямлі беларускай. За кожным імем — цэлы сусвет: здзяйсненняў, радасці, трывог і адчаю.




**Мяркуем, што з намі пагодзяцца ўсе, хто возьме ў рукі і пагартае кнігу, дакладней, фотаальбом "Глыбокае: повязь часоў", што да Дня беларускага пісьменства выпусціла РВУ "Літаратура і Мастацтва". Яе аўтары — навуковыя супрацоўнікі Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея Аляксандр Хайноўскі, Алена Мядзелец і Уладзімір Міранчык — спасылаючыся на архіўныя дакументы, распавядаюць пра гісторыю свайго раёна, яго людзей, найбольш цікавыя падзеі і факты.**

Давайце разам пагартаем старонкі ўнікальнага выдання.

Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 18 сакавіка 1921 года Глыбокае апынулася ў складзе Польскай дзяржавы як населены пункт Дзісненскага павета Віленскага ваяводства. Дзяржаўная мяжа, што падзяліла Беларусь на дзве часткі, праходзіла за 70 км ад мястэчка, а Глыбоччына стала прыгранічнай зонай. У Беразвечы, у сценах былога базыльянскага манастыра, размясціўся штаб пагранічных войск "Glebokie". Жаўнеры не толькі ахоўвалі мяжу, але і актыўна ўдзельнічалі ў грамадска-культурным жыцці рэгіёна. Яны супрацоўнічалі з адміністрацыйнымі ўладамі, школамі, хатамі-чытальнямі, арганізоўвалі спартыўныя спаборніцтвы, выдзялялі рыштунак, запрашалі месцічаў карыстацца сваёй бібліятэкай. Без вайсковага аркестра не праходзіла ніводнае свята.

За польскім часам у мястэчку дзейнічаў праваслаўны храм, каталіцкі касцёл, некалькі яўрэйскіх сінагог і малітоўных дамоў. Быў распрацаваны праект будаўніцтва мусульманскай мячэці.

У трыццатыя гады на Глыбоччыне пачалося масавае добраўпарадкаванне дарог — будаўніцтва брукаваных гасцінцаў. Паколькі брукаванкі мелі стратэгічны характар, то масцілі іх хутка і надзейна. Гэта дало магчымасць праз горад адкрыць аўтобусны маршрут № 28 працягласцю 135 км. Ён праходзіў з Дзісны на Лужкі—Глыбокае—Докшыцы—Даўгінава. Білет каштаваў 9 злотых. Значна танней абыходзілася паездка ў прыгарадным цягніку, які адпраўляўся са станцыі Беразвечча. Праўда, большасць насельніцтва з-за беднасці аддавала перавагу каню. А ровар на той час яшчэ з'яўляўся раскошай (каштаваў 100—120 злотых).

У культурным жыцці глыбачан немалую ролю адыгрывалі розныя аматарскія аб'яднанні і згуртаванні. Асаблівай папулярнасцю карысталіся мясцовыя тэатральныя гурткі. Пастаноўкі ладзіліся не толькі на гарадской сцэне, але і ў звычайных вясковых хатах. Не рэдкасцю былі сямейныя ўрачыстасці. Вяселле гулялі заўсёды з вялікім размахам, заможныя гаспадары запрашалі фатографа. Да нас дайшло імя глыбоцкага фатографа-аматара Леанарда Рачыцкага. Яго здымкі, як і здымкі многіх вядомых у тагачаснай Польшчы фатографаў (Ю. Клос, Я. Булгак, А. Віслоцкі), зафіксавалі для нашчадкаў найбольш значныя моманты даваеннага жыцця гараджан.

У першы ж дзень свайго вызваленчага паходу савецкія войскі ўвайшлі ў Глыбокае (1939 год). У памяць пра гэту падзею галоўная плошча горада атрымала новую назву — плошча 17 Верасня.

1942 год. Глыбокае — цэнтр акругі (гэбіта), тут размясціўся штаб 391-й ахоўнай дывізіі. У першыя дні акупацыі ўладу ўзяла ў свае рукі палявая камендатура.

Восенню на тэрыторыі былога Беразвецкага кляштара быў утвораны лагер для ваеннапалонных. У яго гітлераўцы сагналі да 25 тысяч вязняў. У канцы 1943 г., пасля выхаду Італіі з гітлераўскай кааліцыі, сюды прывозілі італьянскіх салдат і афіцэраў.

1944 год. Эканоміка рэгіёна аказалася ў цяжкім становішчы. Большасць невялікіх прадпрыемстваў, як, напрыклад, фабрыка цукерак, перасталі існаваць. Аднак жыццё не стаяла на месцы. Паступова пачынае адраджацца прамысловасць. Ад ваенный віхуры вялікія страты панесла сельская гаспадарка. Менавіта ў пасляваенныя гады ў раёне распачынаецца калектывізацыя. Так званыя кулацкія сем'і высылаюцца за межы рэспублікі. У 1945 годзе ствараецца першая машынна-трактарная станцыя. У далейшым калгасы рэарганізоўваюцца і ўзбуйняюцца, будуюцца новыя жывёлагадоўчыя комплексы. Калгаснікі за сваю самаадданую працу атрымліваюць розныя ўзнагароды, у тым ліку і дзяржаўныя.



*Глыбоцкі краявід. Фота Л. Рачыцкага. 1930-я гг.*

Паступова аднаўлялі сваю работу ўстановы медыцыны, культуры. У 1951 г. скончана будаўніцтва раённага Дома культуры, праз год у горадзе з'явілася музычная школа, яшчэ праз год — дзіцячая бібліятэка. Неўзабаве расчыніў свае дзверы кінатэатр "Радзіма".

У савецкі час значна змяніўся знешні выгляд горада: паўсталі прыгожыя камяніцы з усімі выгодамі, выраслі новыя мікрараёны — "МКК", "Маладзёжны" і інш. Брукаваныя дарогі паступова пачалі хавацца пад асфальтавым пакрыццём.

Плошча 17 Верасня, дзе размяшчаліся будынак райвыканкама, Дошка гонару, была палітычным цэнтрам горада. На месцы былой аўстэрыі пабудавалі першы гарадскі фантан.

Пасля вайны на вуліцы Леніна з'явіўся сквер з помнікамі У. І. Леніну і І. В. Сталіну. Побач знаходзіліся аўтастанцыя, музычная школа, тэлеатэлье, чайная. Але паступова ўсё гэта знікла. Знеслі будынак музычнай школы, не стала чайнай, аўтастанцыя "перабралася" ў іншае месца. Ды і сквера не стала. У 80-х гадах мінулага стагоддзя тэта ўжо была прасторная плошча, на якой выраслі ўнівермаг і будынак раённага выканаўчага камітэта. Грамадска-палітычны цэнтр горада перамясціўся на плошчу Леніна

Апошні раздзел альбома прысвечаны менавіта савецкаму перыяду. Па фотаздымках, прадстаўленых тут, можна прасачыць, як змяняўся горад з цягам часу, што з'явілася новага, што захавалася старога, а што знікла назаўсёды.

# Настальгічныя фота






Старыя здымкі ніколі не... састарэюць! Яны прываблiваюць усіх, каму цікава, скажам, угледзецца ў даўні "архітэктурны партрэт" роднай краіны. Пагартаўшы вядомы альбом Вячкі Целеша "Гарады Беларусі на старых паштоўках", які ўжо тройчы выходзіў у выдавецтве "Беларусь", знойдзеш і падборку краявідаў Глыбокага. Каларыт Замкавай вуліцы (цяпер Леніна), забудова Докшыцкай (сённяшняя Маскоўская), былая Рынкавая плошча (тут цяпер — дзяржаўныя ўстановы, універмаг)... І такія паштоўкі: мясцовы ландшафт з яго знакавай архітэктурнай дамінантай, Траецкім касцёлам, у часы Першай сусветнай вайны ды Беразвецкі кляштар базыльян ля тагачаснай мяжы мястэчка, які надаваў зімоваму пейзажу асаблівую велічнасць.

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

# «Я Радзімай сваёй ганаруся...»

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА**
**г. Віцебск**

***

*Калаўрот майго роду*
*Ўсё ж дзіўны:*
*Я — над сынам,*
*А сын над унучкай дрыжыць,*
*Тая — лёгка і шпарка,*
*Як ветрык, бяжыць,*
*Напаўняючы смехам*
*Хаціну.*

*Загрувашчаны яр*
*Там, за лесам, ракой,*
*У маўчанні,*
*У цішы адвечнай.*
*Зарастаюць дарогі*
*Густой лебядой,*
*Што ніхто не сарве*
*Недарэчна.*

*Набіраецца моцы*
*Пакінуты яр*
*Доўга,*
*Каб зацягнуць свае раны.*
*Я спакойна жыву,*
*Без увагі да хмар:*
*Пра мяне покуль моліцца*
*Мама.*

***

*Як час ляціць! Юнацтва адгрымела,*
*І цела горай чуецца з гадамі.*
*Ды што ж тады рабіць на свеце белым*
*З душой? Яна такая маладая!*

*І рвецца ўвышыню, і шчасця просіць,*
*І ўзросту бы не ведае, дзівачка,*
*То ў неба пачуцця віхура ўзносіць*
*Яе, то зоркі вабяць, то заплача,*

*То запяе насустрач травам росным,*
*То палыновай горыччу ўзарвецца,*
*То жаўрука званочкам над пакосам,*
*Над аксамітнай рунню льецца, льецца…*

*І хочацца кахаць! Ракой вірлівай*
*У мора плыць і з бурамі змагацца,*
*Імчаць, ляцець ля самага абрыву,*
*І аніколі, чуеш, не сарвацца.*

***Пераклад з рускай***
***Андрэя Цяўлоўскага.***

**Барыс БЕЛЕЖЭНКА**
**г. Віцебск**

## Сузор'е Янкі і Якуба

*Паток сусветнага свята*
*З Палярнай Зоркі, з Геркулеса,*
*З Пегаса, з Ліры і Арла —*
*па-над ракой, балотам, лесам,*
*па-над Заслаўем, Камянцом,*
*над Перажырамі, Засуллем,*
*над Слабадой… Сузор'яў дом,*
*нібыта пчол агністых вуллі.*
*Не там, дзе пан, а дзе аруць,*
*Народа клопаты людскія —*
*на Вязынку і на Альбуць —*
*дзве зоркі з неба залатыя.*
*Яны сышліся назаўжды,*
*бо лёсам зближаны няўмольна*
*ля вольнай нёманскай вады,*
*у вёсачцы чароўнай Смольні.*
*Улонні Свіслачы, Дзвіны,*
*Дняпра і Прыпяці, азёраў*
*святлом адорваюць яны,*
*даўно не зорачкі, а зоры.*
*Вандроўнік, сэрцам вызначай,*
*Каб век душа не знала згубы,*
*Каб наталяла родны край*
*сузор'е Янкі і Якуба.*

**Анатоль ПРОХАРАЎ**
**г. Орша**

## Журавінавыя званочкі (дзецям)

*Цішыня і прахалода.*
*Журавінаў спелых вадар.*
*На паляне, за ляшчынай*
*Шчыплюць птушкі*
*Журавіны.*
*На шнурочкі ніжуць*
*Белыя*
*Ягадкі —*
*Буйныя,*
*Спелыя.*
*Кране ветрык*
*За шнурочкі —*
*Звоняць*
*Пацеркі-званочкі.*

**Алесь ШПЫРКОЎ**
**г. Віцебск**

***

*Ты вясноваю вуліцай*
*На спатканне бяжыш,*
*І абцасікі шчоўкаюць,*
*Як са стрэх капяжы.*
*Быццам воблачка лёгкае,*
*Шаль трымціць на плячах,*
*Неба сіне-далёкае*
*Патанула ў вачах.*
*І сама ты, як сонейка,*
*Шчасце б'е цераз край.*


Фота Ігара Супранёнка

*Дык чыя ж ты, бяссонніца?*
*Адкажы, пачакай!*
*Што не збудзецца — збудзецца*
*Гэтай новай вясной?..*
*Закружыліся вуліцы*
*І масты над Дзвіной.*

**Вольга РУСІЛКА**
**г. Віцебск**

## Камандзіроўка

*Доўгі дзень, і мой стамлёны цень*
*Па сталічным бруку наблукаўся.*
*І, не ўгнаўшыся за мной, застаўся*
*Ля высокіх мураваных сцен.*

*Сцены моцна тайну берагуць.*
*Дзверы не адчыніш выпадкова.*
*Толькі па начальніцкаму слову*
*Ногі па прыступках пабягуць.*

*Кабінеты пройдзены як след.*
*Я знайду свой цень, вазьму*
*"пад ручкі",*
*Сабяром у сумку сшыткі-ручкі —*
*Стаў пячатку, універсітэт!*

*…На зямлі, што ў безлічы дарог,*
*Кожнаму свая камандзіроўка.*
*Тэрмін нам адзначыць гравіроўка,*
*Ну а справаздачу прыме Бог.*

**Надзея САЛОДКАЯ**
**г. Полацк**

***

*Перад Сусветам з нас кожны — адзін,*
*Дробнай пылінкай касмічнай*
*прасторы.*
*Мы вымяраем працяглась гадзін —*
*Тых, што адведзены лёсам… на зборы.*
*Гэткі драбочак — імгненне быцця!*
*Колькі ў ім месціцца звадаў і здрадаў,*
*Колькі разоў боль істоту працяў,*
*Колькі разоў уставаў ты і падаў…*

*Колькі разоў апякала душу*
*Радасць кахання*
*і смутак расстанняў…*
*Я набываю, губляю, крышу,*
*Песняй лячу і сняжынкаю таю…*

*Дзеля чаго? Каб аднойчы адчуць*
*Водар імгнення ў апошнім усхліпе?*
*Што засталося — зацята лічу*
*Пад зімавейную снежную кіпень.*

**Тамара ТАЛКАЧОВА**
**г. Наваполацк**

***

*Наталю сваю смагу світанкам,*
*Вып'ю золак да самага донца.*
*З маладзенькім разбуджаным ранкам*
*Дачакаюся промніка сонца.*

*Я пабачу яго нараджэнне*
*У бяздоннай, бязмежнай сінечы,*
*І пачнецца душы адраджэнне,*
*І імгненна акрыляцца плечы,*

*І ракою святло разліецца*
*Па застылых у цемры абшарах,*
*І зазззяе ўсё раптам. Здаецца,*
*Што ты быццам у казцы ці ў марах.*

*Ажыве скамянелае сэрца*
*Ад святла і ад шчасця такога*
*І пяшчотаю ўраз адгукнецца…*
*І не трэба ўжо болей нічога!*

*Наталю сваю смагу світанкам,*
*Вып'ю золак да самага донца.*
*З маладзенькім разбуджаным ранкам*
*Дачакаюся промніка сонца.*

**Галіна ЗАГУРСКАЯ**
**г. Полацк**

## Да драбніцаў свой…

*А гэты свет зусім мне не чужы,*
*І я за ўсё, што маю, Неба дзячу,*
*Пакуль з апошнім днём усё не страчу,*
*Пакінуўшы яго на рубяжы...*

*Бягу ў грыбы пад золкавай зарой:*
*Вакол зіхацяць у росах павуцінкі,*
*Што павучкі спляді, нібы хусцінкі,*
*На травах верасьнёваю парой.*

*Мне захаплення імі не ўтаіць,*
*Бо павучка стварыў тут Першаісны,*
*Як той жа яблык, што з галінкі вісне,*
*Як і сінічку, што ў кусце звініць.*

*І гэты свет мне да драбніцаў свой:*
*Ад росаў летніх на траве мядзвянай*
*Да веры, мне зарою нашаптанай*
*Загадкавай калядняю парой.*

*І як ні намагаецца скавыш,*
*Я небадарны лёс заўсёды дзячу:*
*За дзень народзін, што мне даў*
*на ўдачу,*
*І за любоў, што дадзена мне звыш...*

**Мікалай БАЛДОЎСКІ**
**г. Полацк**

## Сыходзіць жнівень

*Пакрыўся пухам малачай,*
*Змяшаўся з ветрам-калаўротам,*
*Дыхнула ў твар мне — прывячай! —*
*Крутой антонаўкай і мёдам.*

*Сыходзіць жнівень па расе*
*Па ўскрайку лесу, дзе абабак,*
*На зжатай ніўнай паласе*
*Ён бацяну пакінуў жабак.*

*А павучкі ляцяць-ляцяць*
*На парашутах з павуцінак,*
*Якія ранкамі іскраць*
*На пожні бісерам іскрынак...*

*Пакрыўся пухам малачай,*
*Пыліць сутоннямі дарога,*
*У твар дыхнула як адчай*
*Цяплом радзімага парога.*

**Канстанцін НІЛАЎ**
**г. Орша**

***

*Зязюля крычыць "шырпатрэбна",*
*Гады раздае*
*быццам срэбра,*
*Ці можа дукаты*
*для хлеба:*
*"Хай людзі жывуць*
*і жывуць…*
*Ачысцілі б лёс чыстацелам,*

*Дабром друкавалі б сляды…"*
*Такімі іх пэўна хацела*
*Зямля наша*
*бачыць заўжды…*

*Кукуе зязюля старанна…*
*Бабуля ахрысціла кут:*
*"Ты чуеш, стары, значыць рана*
*Нам сёння збірацца на груд…"*
*Дзядуля патыліцу чухаў:*
*"Яшчэ ж вунь касіць і араць!..*
*Тытунь абламаць, покуль суха,*
*На градах цыбулю сабраць…"*

*Кукуе зязюля,*
*кукуе,*
*Спеў сціплы далёка ляціць:*
*Жыццё па-над светам віруе*
*І людзям так хочацца жыць…*

**Кацярына СОСНА**
**г. п. Шаркаўшчына**

## Радзіма-маці

*Для мяне што такое Радзіма?*
*Той парог, што я ў свет адхадзіла.*
*Жаваронкаў напеў над палямі.*
*Калі радуе ніва дарамі.*

*Памяркоўныя ўзімку марозы.*
*Гладзь азёраў, чысцюткіх, як слёзы*
*І раса на квітнеючым лузе.*
*І вясёлка ў нябесным паўкрузе.*

*Васількоў сіньва ў жытнім полі,*
*Хвалі лёну, прасторы даволі.*
*Аксаміт і напеў роднай мовы,*
*Мілагучныя матчыны словы.*

*Я Радзімай сваёй ганаруся.*
*Рада я, што жыву ў Беларусі.*
*Яе моцы ніяк не зламалі.*
*Нашу волю бацькі адстаялі.*

***Вершы паэтаў Віцебшчыны***
***да друку падрыхтавала***
***Тамара Краснова-Гусачэнка.***

# Рух рукатворнага космасу

Хто такі Язэп Драздовіч? Вось дык пытанне! Рэальны чалавек, які нарадзіўся ў засценку Пунькі Дзісненскага павета (цяпер Глыбоцкі раён), падзяліў драматычны лёс многіх славутых і невядомых нашчадкаў беларускай шляхты, пражыў на зломе стагоддзяў, эпох і дзяржаўных межаў нялёгкія і няпоўныя 66 гадоў, памёр у лякарні ў 1954-м і свой апошні прытулак знайшоў на роднай Глыбоччыне. Жывапісец, графік, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, аўтар літаратурных твораў, адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага гістарычнага жывапісу... Аднак ён стаў у нейкім сэнсе і містычнай постаццю нацыянальнага культурнага адраджэння як апантаны “небазнаўца” ды заўзятар астральных вандровак.


Аўтапартрэт Язэпа Драздовіча.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Драздовіч вандраваў па зямных пуцявінах і сцежках, а яго думка сягала ў космас. Даследаваў беларускую даўніну і займаўся археалагічнымі раскопкамі, а душа яго, зачараваная “нябеснымі бегамі”, лунала па бездарожжы Сусвету ў пошуках сумоўя з жыццём на далёкіх планетах. Мастак ілюстраваў разнастайныя выданні, маляваў вокладкі кніжак, працаваў дэкаратарам сцэнічных імпрэз. Стварыў нізкі графічных выяў (“Старажытны Мінск”, “Заслаўе”, “Месца ўпадзення Нямігі ў Свіслач” ды інш.). У вялікія серыі аркушаў складваліся яго работы, прысвечаныя Глыбокаму, Піншчыне, Міру, Любчы, Шчорсам, Навагрудку і Навагрудчыне, Крэву, Гальшанам, Барунам, Трокам,Кушлянам... Але з гэткай жа захопленасцю ён, першапраходца касмічнай тэмы ў выяўленчай творчасці, працаваў над серыямі “Жыццё на Марсе”, “Артаполіс”, “Жыццё на Венеры”, “Жыццё на Сатурне”, “Жыццё на Месяцы”. З партрэтамі полацкіх і смаленскіх князёў, жывапіснымі выявамі Усяслава Чарадзея, Францыска Скарыны, Францішка Багушэвіча ў творчасці “вечнага вандроўніка” суседнічаюць, можна сказаць, персаніфікаваныя насельнікі чужых планет і нават сам Космас. А з культавымі збудаваннямі, гарадзішчамі, сялянскімі сядзібамі, роднымі краявідамі — дзіўныя астральныя пейзажы, няўлоўна роднасныя сімвалічным сюжэтам М. К. Чурлёніса.


Галіна Горава “Зорны вандроўнік. Памяці Я. Драздовіча”.

Аднак сапраўдным сімбіёзам “зямных рэалій” і “касмічных мрояў” сталі знакамітыя маляваныя дываны Язэпа Драздовіча (да гэтага жанру традыцыйнага народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ён мусіў звярнуцца, каб зарабляць на жыццё, бо застаўся без працы і не меў ні сям’і, ні ўласнага жытла). Што адчуваеш, апынуўшыся ў энергетычным полі рукатворнага Сусвету, народжанага натхненнем і фантазіяй спадкаемцы глыбіннай традыцыі творчасці нашых продкаў? Па-дзіцячы адкрыты, даверлівы і чысты погляд; гармонічнасць зямнога і ўзнёслага; светлае ўспрыманне жыцця; неабсяжны і неразгаданы, таемны космас мудрай беларускай душы. Паводле класікі жанру сюжэты маляванак ўвасобленыя на строгім чорным фоне, але колькі аптымізму і цеплыні зыходзіць ад іх!


Знакаміты маляваны дыван.

Між тым, творчая спадчына Драздовіча доўгія дзесяцігоддзі марнела пад спудам забыцця. Першая выстаўка маляваных дываноў адбылася ў Мінску ў 1978-м: тады творцам-энтузіястам, імпэтным, амбітным і паспяховым, карцела знайсці ва ўжо, здавалася б, даследаваным свеце беларускага мастацтва штосьці нязнанае. І яны адкрылі сапраўдны зямны космас — унікальны кірунак народнай творчасці, які ў савецкай культуралогіі лічыўся кічам, таму і быў забыты. Да збірання і, можна сказаць, духоўна-эстэтычнай рэабілітацыі беларускіх маляванак спрычыніліся мастакі Уладзімір Басальга, Яўген Кулік, Мікола Купава, Васіль Маркавец, Міхась Раманюк, Яўген Сахута, Леанід Шчамялёў... З таго часу падзвіжніцкі шлях Язэпа Драздовіча пачалі сур’ёзна вывучаць і асэнсоўваць; яго работы, як і матывы жывапісу Алены Кіш, заўважна паўплывалі на прафесійную беларускую выяўленчую творчасць. Цяпер канцэптуальна-вобразны лад, сімволіку і тэхніку маляванкі вывучаюць у мастацкіх ВНУ. А ў Заслаўі, пачынаючы з 2002 года, ладзіцца спецыялізаваны пленэр.

Чатыры гады таму наша грамадскасць адзначала чарговы юбілей Язэпа Драздовіча. Адбылася чарада пленэраў, выставак, навуковых канферэнцый, прэзентацый, прысвечаных яго 120-годдзю. Сярод іх — вернісаж “Цуды маляванак” у сталічнай мастацкай галерэі “Універсітэт культуры”, дзе экспанавалася больш як сто сучасных твораў, выкананых паводле традыцый спадкаемцамі “дзядзькі Язэпа”. Унікальнае мастацтва беларускага маляванага дывана, як мяркуе мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская, не проста ілюструе свет кузурак, птушачак і кветак: тут увасоблена беларускае ўяўленне пра светабудову і рай, таемная “зорная дзея”...

Прыгадваецца і выстаўка “Нябесныя бегі”, якая праходзіла ў сталічным Палацы мастацтва і прысвячалася 120-годдзю Язэпа Драздовіча. Сваё найменне яна атрымала ад назвы яго навукова-папулярнай брашуры, у якой наш самабытны мастак і асветнік разважаў на тэму вярчэння Зямлі. Натхнёныя космасам яго фенаменальнай асобы, многія айчынныя жывапісцы і графікі спрычыняюцца да пленэраў, што арганізуюцца ў гонар Язэпа Драздовіча. Іх работы (Ігара Бархаткова, Рыгора Сітніцы, Алега Скавародкі, Уладзіміра Сулкоўскага ды іншых) і ўвайшлі ў тую экспазіцыю...

Асоба “зорнага вандроўніка” захоўваецца і на паштовай марцы, і ў помніку на мінскай вуліцы М. Багдановіча (скульптар І. Голубеў), і ў назве сталічнай вуліцы імя Драздовіча, і ў надмагільным барэльефе (скульптар А. Шатэрнік). Імя выдатнага земляка нададзенае культурна-асветніцкаму цэнтру вёскі Германавічы Шаркаўшчынскага раёна, і гэты сціплы асяродак мастацтва і этнаграфіі спакваля ператвараецца ва ўнікальны музей Язэпа Драздовіча, куды паступаюць экспанаты нават з-за межаў Беларусі. Пра Драздовіча пісалі Галіна Багданава, Тамара Габрусь, Арсень Ліс, Андрэй Майсяёнак, Надзея Усава, незабыўны энтузіяст стварэння музея маляванкі ў Заслаўі Юрась Малаш...


Язэп Драздовіч “Францыск Скарына”.

З навуковых крыніц мы даволі падрабязна ведаем біяграфію Язэпа Нарцызавіча: пра тое, што вучыўся ён у Віленскай школе малявання, служыў у войску, дзе скончыў фельчарскія курсы; у І сусветную вайну быў на Заходнім фронце, а потым жыў у родных, сваякоў на Дзісеншчыне ў фальварку Лявонаўка каля вёскі Германавічы. Пра тое, што ў 1919 г. працаваў у Беларускім літаратурна-выдавецкім аддзеле пры Камісарыяце асветы БССР. Ведаем пра яго творчую, рознабаковую асветніцкую і педагагічную дзейнасць, супрацоўніцтва з выдавецтвамі, з ТБШ. Пра яго працу ў беларускіх гімназіях, работу па зборы экспанатаў для Віленскага беларускага музея, пра яго вандроўкі... Але як далёка мы ад таго, каб спасцігнуць “нябесныя бегі” яго душы, асэнсаваць касмічны рух яго творчай свядомасці, прасачыць стасункі яго Асобы з Часам і Вечнасцю!

У 2013 з дня нараджэння Язэпа Драздовіча спаўняецца 125 год. Новыя пленэры, выстаўкі, публікацыі новых даследаванняў будуць абавязкова! Значыць, з’явіцца яшчэ не адна нагода паразважаць пра “зямлю” і пра “космас” нястомнага вандроўніка.

# Магія сакральнай даўніны

Імёны беларускіх майстроў мінулага, з-пад чыёй рукі выходзілі шэдэўры іканапіснага мастацтва, культавай скульптуры, храмавага роспісу ці дэкаратыўнай аздобы прадметаў рэлігійнага рытуалу, — імёны гэтыя ў большасці сваёй невядомыя. У віхуры гісторыі цудам ацалелі самі творы, якія перажылі сваіх безыменных аўтараў, набылі статус помнікаў старажытнай культуры і дзякуючы майстрам ужо новага часу атрымалі другое жыццё.

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

Хто ж не ведае, як у эпоху ваяўнічага савецкага атэізму сумленныя вучоныя стараліся выявіць, даследаваць, а нярэдка і ўратаваць ад разрабавання ці знішчэння мастацкі скарб, што зберагаўся ў касцёлах і цэрквах стагоддзямі! Навуковыя экспедыцыі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР перыяду 1960 — 1970 гг. выявілі нямала сакральных рарытэтаў, у тым ліку і на вялікім абсягу віцебскага края, колішняга Дзісенскага павета, земляў сучаснай Глыбоччыны. А занядбаныя ўзоры беларускай школы іканапісу, храмавай скульптуры і старажытнай дэкаратыўна-прыкладной творчасці былі тады вывезены з глыбінкі супрацоўнікамі музея і атрымалі "хуткую дапамогу" спецыялістаў.

У мастацтвазнаўчых кнігах можна знайсці звесткі пра тое, як у 1974 годзе ўдзельнікі 27-й экспедыцыі музея наведаліся ў вёску Лучай і ў тамтэйшым касцёле св. Тадэвуша (1777) убачылі фрэскі з дзевятнаццаццю сюжэтамі са Старога і Новага запаветаў. Тая знаходка пацвердзіла, што барока было не адзіным напрамкам у мастацтве Беларусі другой паловы XVIII ст.: у размалёўцы сцен Лучайскага касцёла заўважныя рысы класіцызму.

Пабывала экспедыцыя і ў Дзісне. У мясцовай царкве Маці Божай Адзігітрыі навукоўцы зацікавіліся аправай Евангелля. Выявілі, што цэнтральная дэталь аправы (метал, чаканка, гравіроўка, серабрэнне) зроблена дзісненскім залатаром у перыяд з канца XVII ст. — каля 1703 г. Толькі талерантны беларускі адмыслоўца мог спалучыць у выяве ўсходнееўрапейскую і заходнееўрапейскую іканаграфічныя схемы дый скарыстаць пышны барочны арнамент! Дарэчы, у навуковых работах нямала сказана пра своеадметнасць тагачасных мясцовых умельцаў, іх высокі прафесіяналізм, спанатранасць у розных тэхніках працы з металам, імкненне перадаць стылістычныя асаблівасці сваёй эпохі, прытым унікнуўшы строгага падпарадкавання прынятым канонам і ўлічыўшы народныя густы.



*Фрагмент аправы Евангелля, над якой працаваў дзісенскі залатар.*

Абраз латыгаўскага майстра "Нараджэнне Хрыстова" (дошка, яечная тэмпера, 1746) упамінаецца сярод тых узораў старажытнага мастацтва, што адлюстроўваюць развіццё беларускай школы жывапісу ў XVIII ст. Дарэчы, з гэтым абразам, які захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, — цэлая гісторыя! Яшчэ ў 1898 г. ён быў вывезены з царквы вёскі Латыгава ў Віцебскае сховішча старажытнасцей. Экспанаваўся на 1-й Усебеларускай мастацкай выстаўцы (1926) і трапіў у яе "Каталёг старажытнага мастацтва" пад рэдакцыяй М. Шчакаціхіна. У 1975-м абраз рэстаўравалі расійскія майстры.

Традыцыі нашых разьбяроў увасобіліся ў храмавай скульптуры. Прыклад — паліхромнае драўлянае "Распяцце" (канец XIV ст.), выяўленае ў вёсцы Галубічы ў 1921 г. і рэстаўраванае ў Расіі ў 1954-м. Для спецыялістаў гэта ўзор дасведчанасці мясцовага майстра, на чыю творчасць паўплывалі асаблівасці суровага стылю еўрапейскага абарончага дойлідства і пэўныя павевы італьянскага мастацтва.

Магія старажытных спадарожнікаў хрысціянскага культу не толькі ў тым, што майстры нібы дадавалі да рукатворнай прыгажосці часцінку нябеснага ззяння. Магія — у іх доўгай гісторыі, таямніцы якой ужо нікому не давядзецца раскрыць.



*Латыгаўскі абраз "Нараджэнне Хрыстова".*



*"Распяцце", выяўленае ў вёсцы Галубічы (фрагмент).*



*Фрэскавы роспіс у лучайскім касцёле.*

# «На хвалі» — 20 гадзін запар!

## Словы, галасы, мелодыі, рыфмы…

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

1 верасня, у Дзень ведаў і напярэдадні свята беларускага пісьменства, канал "Культура" Беларускага радыё пачынае новы вяшчальны сезон. Унікальны спецыялізаваны радыёканал, які ўпершыню "падаў голас" у прасторы эфіру 10 гадоў таму, мае нязменны дэвіз: "Мы выбіраем вечныя каштоўнасці!" А значыць, да дзейнасці яго творчага калектыву спрычыненыя адразу некалькі муз — апякунак усіх відаў класічнага мастацтва, прыгожага пісьменства, традыцыйнай і сучаснай духоўнай культуры. Тэматычныя інфармацыйныя, асветніцкія, пазнавальныя, публіцыстычныя, у тым ліку інтэрактыўныя праграмы гучаць на гэтай радыёхвалі з 6.00 да 02.00 штодня.

Пра ўдзел "Культуры" ў святкаванні Дня беларускага пісьменства і адметнасці новага вяшчальнага сезона распавядае дырэктар канала Кацярына Агеева:

— Са знамянальным для ўсёй краіны Днём беларускага пісьменства амаль супадае адкрыццё новага вяшчальнага сезона на радыёканале "Культура". І гэта вельмі сімвалічна, бо галоўнай сваёй задачай калектыў канала лічыць прапаганду роднай мовы, нашай народнай культуры, нацыянальнага літаратурнага слова, беларускага мастацтва. Таму 2-га верасня на свяце ў Глыбокім будзе працаваць некалькі спецыяльных карэспандэнтаў канала "Культура". Іх рэпартажы, запісы, зробленыя ў сталіцы Дня беларускага пісьменства, і асабістыя ўражанні зоймуць цэнтральнае месца ў першых выпусках літаратурных і публіцыстычных праектаў новага сезона. А такіх праектаў у сетцы вяшчання канала вельмі шмат.

Спачатку пра літаратурныя, захаваныя ў праграме перадач канала з папярэдніх сезонаў. Гэта аўтарскі праект Галіны Шаблінскай "Гаспода", дзе аналізуюцца працэсы і тэндэнцыі, уласцівыя сучаснай беларускай літаратуры. Праекты Маргарыты Прохар "Новыя імёны" і "З літаратурнай пошты", якія знаёмяць з творчасцю літаратараў-пачаткоўцаў і самадзейных аўтараў. Захаваюцца, безумоўна, і вельмі папулярныя чытанні ў "жывым" эфіры беларускай прозы — у рубрыцы "Літаратурная анталогія", а таксама лепшых твораў сусветнай літаратуры — у "Бестселеры".

З новых літаратурных праектаў адзначу перадусім праграму "Кухня", у якой малады журналіст Марыя Дуброўская разам са сваім госцем будуць у прамым эфіры даследваць працэс нараджэння мастацкага слова. Увагу слухачоў, якія імкнуцца далучыць да роднай мовы сваіх дзетак або ўнукаў, хачу звярнуць на новы штодзённы вечаровы праект канала "Хвілінкі без хмурынкі": тут будуць гучаць вершы беларускіх паэтаў для дзяцей і пераклады на беларускую з іншых моў. І яшчэ адзін літаратурны праект новага сезона для маленькіх слухачоў канала "Культура". У межах штодзённай праграмы "Мэры Попінс" арганізуецца конкурс "Паэтычны ветразь", у якім юным чытальнікам будзе прапанавана выканаць вершы сёлетніх юбіляраў: Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка. Старт конкурсу з пачаткам навучальнага года, ганараванне пераможцаў адбудзецца ў навагоднім эфіры канала. А запіс ахвотных паспаборнічаць пад "Паэтычным ветразем" ужо ідзе. Дарэчы, падрабязна пра ўмовы конкурсу можна даведацца на афіцыйным сайце Белтэлерадыёкампаніі.

У новай сетцы вяшчання захавалася таксама і нядзельная рубрыка "Радыётэатр", у якой увазе слухачоў будуць прапанаваныя радыёпастаноўкі з фондаў Беларускага радыё і, у прыватнасці, паводле твораў сёлетніх юбіляраў: "Сымон-музыка", "Рыбакова хата" Якуба Коласа, "Тутэйшыя", "Паўлінка", "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы і іншыя. Прагучыць і сучасны радыёспектакль, прысвечаны Янку Купалу "Паэт і Дзяўчына" паводле драматургічнага твора Пятра Васючэнкі. У рубрыцы, адрасаванай аматарам беларускага музычнага тэатра, мы плануем трансляцыю новай пастаноўкі оперы Дзмітрыя Смольскага "Сівая легенда" паводле аднайменнай аповесці Уладзіміра Караткевіча.

Звяртаю ўвагу слухачоў і на новы асветніцкі праект "Беларуская этнафонія". Вядучая праграмы і музыказнаўца — госць радыёстудыі будуць разам слухаць і аналізаваць беларускія аўтэнтычныя творы, у тым ліку і запісаныя падчас штогадовых этнаграфічных экспедыцый, арганізаваных каналам "Культура".

# Храм у Мамаях



На пачатку XX стагоддзя фотамастак Ян Балзункевіч з імпэтам заўзятага краязнаўцы вандраваў па Беларусі, фіксуючы ацалелыя знакі старажытных гарадзішчаў, прыдарожныя крыжы, помнікі на пагостах і хрысціянскія храмы. Яго здымкі адлюстравалі ўзоры культавага дойлідства, якія часткова захаваліся і да нашых дзён. Сёння ў вёсцы Мамаі на Глыбоччыне дзейнічае адрэстаўраваная Спаса-Праабражэнская царква. Храм быў пабудаваны ў XVIII ст. як касцёл, пасля 1866 г. пераасвечаны ў царкву. Гэта адзін з самых вядомых помнікаў старажытнай беларускай архітэктуры, у стылі якога спалучыліся рысы барока і класіцызму.

**Лана ІВАНОВА**



Сёлета на Дзень беларускага пісьменства і друку мы зноў чакаем Слабадана Вуканавіча, нашага сябра з Чарнагорыі. А яго ў нас чакае не толькі вялікае свята агульнае, але асабістае — кніжка выбраных твораў у перакладзе на беларускую мову «Я ці не я…» ( Літаратура і Мастацтва, 2012). Між тым, знаёмства-сяброўства з часткова абеларушаным ужо чарнагорцам нельга спыняць. Дзеля гэтага прапануем новыя пераклады яго вершаў.

Слабадан ВУКАНАВІЧ

## Слухаю прагноз падзей

*З гушчару міфаў*
*Павуціна вабіць сваімі ніцямі*
*Хор сірэн агалошвае нябесныя паданні*

*Компас ужо заржавеў*
*Малююць нам карты руху*

*Хлусня — парнаграфія*
*жорсткасці*
*Жорсткі Злагор надзеў*
*маску лагоды*
*Прыманка легкаверным*
*Яго рух — наш лёс*

*Туман міфаў пакрыў рэальнасць*
*У кракадзілавых слёзах*
*плыве падман*
*Вішчыць помста*
*Табун чакае сігналу*
*З рога вывальвае войска*

*Нашы настаўнікі*
*падрыхтавалі нам*
*Клеткі тэрыторый і лёсаў*
*Для нас — пасткі*
*А для іх — палацы*

*У родным доме слухаю прагноз падзей*
*На талерцы кавалачак сонца*
*З вачэй маіх расце масліна*

*На ровары вязу страх*
*з завязанымі вачыма*

*Нашы сэрцы — семафоры страху*
*Званіцы прадчуванняў*
*Мы шукаем абароны*
*Пасля гэтага ўжо не тыя самыя*
*Мы — вузел на посаху*
*А посах — абарона*

*У родным доме слухаю прагноз падзей*
*Тапельцу вада не дапамагае*
*А саломінка ж кароткая*
*На талерцы кавалачак сонца*

*Пра густы не варта дыскутаваць*
*Нацыянальныя стравы ў модзе*
*Замест компаса*
*Выкарыстоўвающа нажы і відэльцы*

*У родным доме слухаю прагноз падзей*
*Зніжэнні падзенні і іншае*
*Зносьце і… замест компаса*
*Магчыма і дапаможа*
*Саломінка ж кароткая*
*Будзьце шчаслівыя*

*Калі ў вас на талерцы кавалачак*
*застанецца*
*Гэта тэма для праслаўлення*
*Хор народны чакае дырыжора*

## Тэрмін існавання

*Лятуць навыперадкі: Чалавек-Кола*
*Анатомія Душы*

*Чалавек-Кентаўр*
*Анатомія Цела*

*Чалавек-Янус*
*Анатомія Часу*

*Ніхто нікога не даганяе*
*Ніхто нікога не спыняе*

*Шчасце Любоў і Прыгажосць*
*Маюць тэрмін Існавання*

*Стартавы пункт Надзея*
*Канцавы пункт Эпітафія*

**Пераклад Івана Чароты**

---

Ато Хамдама добра ведаюць у Беларусі. І ён, таджыкскі празаік, драматург, публіцыст, добра ведае Беларусь і досыць актыўна працуе на ніве прапаганды беларускай літаратуры ў Таджыкістане. І сам перакладае беларускую прозу, і піша пра Беларусь. А таксама — выяўляе сваю ініцыятыву ў арганізацыі розных выданняў твораў беларускіх аўтараў на таджыкскай мове. Па сённяшнім часе гэткая ўвага дарагога каштуе. У апошнія тры-чатыры гады ў Душанбэ выйшлі асобнымі кнігамі, а таксама ў калектыўных зборніках творы Георгія Марчука, Міколы Мятліцкага, Юрыя Сапажкова, Ірыны Качатковай і шмат каго яшчэ з беларускіх паэтаў і празаікаў. А галоўнае — пабачыла свет анталогія сучаснай беларускай літаратуры на таджыкскай мове "Вячэрняе вогнішча". Ато Хамдам — актыўны даследчык і прапагандыст гісторыі беларуска-таджыкскіх літаратурных сувязяў. Дзякуючы яго руплівасці двума выданнямі пабачыла свет кніга "Дружба народаў — дружба літаратур". А ў перыёдыцы з'явіўся цэлы шэраг артыкулаў на гэтую тэму.

Застаецца дадаць, што ўлюбёны ў Беларусь гэтак жа, як і ў родны Таджыкістан, Ато Хамдам — яшчэ і член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Сёння ўвазе чытачоў мы прадстаўляем два невялікія апавяданні нашага добрага сябра.

**Кастусь Хадыка**



Ато ХАМДАМ

# «Дзякуй, настаўнік!»

Трыста шэсцьдзесят пяць дзён я пішу апавяданні. Шмат іх, не злічыць. Публікуюць іх без ахвоты, а куды спяшацца? Праўда, сябры кажуць, што друкавацца трэба, не саліць жа мне свае творы.

Я іх запэўніваю:

— Цяжка надрукавацца? Ды калі мне волю даць, я такое напішу, чаго вы і не чыталі ніколі.

Аднойчы палез я ў шафу, дзе ляжаў стосік узораў маёй творчасці, выбраў адзін з аповедаў, старонак на восем, і пабег у рэдакцыю. Доўга таптаўся перад дзвярыма, нерашуча пагрукаў і зайшоў.

— Так-так, з чым завіталі? — запытаў супрацоўнік, пагладжваючы вострае падбародак. Ён быў настроены зычліва.

— Я… я прынёс… апавяданне.

— Апавяданне? — з сумнівам перапытаў ён і ўважліва зірнуў на мяне.

— Першае апавяданне, — прызнаўся я.

— Ану, паглядзім, — прамовіў ён і яшчэ больш пільна ўглядзеўся ў мяне. Потым разгарнуў рукапіс. Загаловак добры, — ухваліў ён, — і псеўданім… Вельмі паэтычны псеўданім — Субхі, Ранішні.

Тут я адчуў у яго голасе ўсмешку.

— Ну вось што, шаноўны, прыходзьце-ка напрыканцы тыдня. Мы пачытаем, параімся і паведамім пра вынік.

— Добра, дзякуй, да сустрэчы, — зататакаў я, пачырванеў ад хвалявання і з палёгкай выйшаў з рэдакцыі.

Калі вы штосьці пісалі ў сваім жыцці, то вам вядома, мусіць, пачуццё аўтара-пачаткоўца, які аддаў на суд сваё тварэнне. Час ідзе паволі, тыдзень расцягваецца на год, у галаве пастаянна круціцца думка: "Ну як? Ну што скажуць?"

І вось, калі зусім няўсцерп, вы шыбуеце ў рэдакцыю на дзень раней за вызначаны тэрмін.

— А-а, гэта Вы? Добра, што зайшлі.

— "Добра, што зайшоў, — разважаю я, — значыць, ім спадабалася, значыць, мяне чакалі".

Ад радасці хацелася скакаць.

— Ну, што Вам сказаць? — супрацоўнік глядзеў на мяне строга і засмучана. — Слабое апавяданне. Вельмі слабое. Ёсць канфлікт, але як Вы яго вырашаеце? Ніяк! А мова персанажаў… Вось адзін з Вашых герояў размаўляе на дыялекце. А апавяданне павінна быць напісана літаратурнай моваю. Вазьміце класікаў…

Лоб супрацоўніка ўзмакрэў ад поту.

— Увогуле, так, шаноўны. Не вартае Ваша апавяданне. Нікуды не вартае. Вам трэба шмат працаваць… вучыцца ў знаных творцаў.

Узяў я сваё апавяданне падпаху, прыйшоў дамоў, паклаў яго ў шафу, на старое месца, і пакрыўдзіўся.

— А, чорт іх бяры! — сказаў я.

Прайшло два месяцы. Я прыдумаў сабе новы гучны псеўданім, узяў тое самае апавяданне, садзьмуў з яго пыл, зверху напісаў "Мірзо Джунуні", адправіўшы ў нябыт "Субхі", і пашыбаваў у рэдакцыю.

За сталом сядзеў той самы супрацоўнік, які стомлена пагладжваў вострае падбародак.

— Ану, паглядзім, — сказаў ён і ўткнуўся ў апавяданне. Прачытаў загаловак.

— Загаловак добры, — прамовіў ён, — вельмі паэтычны псеўданім — Мірзо Джунуні. Джунуні…

Ён хутка ўзняў вочы і ўглядзеўся ў мяне ўважліва. Пасля яшчэ больш пільна.

— Пазнаў! — спалохаўся я і стаў прасоўвацца да дзвярэй.

— Ды ну! Няўжо брат Джунуні? — голас супрацоўніка затрымцеў ад пяшчоты.

Нічога не цямячы, я матлянуў галавой.

— Яшчэ раз прывітанне!

Ён моцна пацiснуў мне руку. Яго сімпатыя да мяне павялічвалася вокамгненна, а поціск рукі змяніўся ласкавым паляпваннем па плячы.

— Дарагі мой! — выгукнуў ён. — У Вас безумоўны, бясспрэчны талент. І Вы дагэтуль маўчалі. Як Вам не сорамна? Як нядобра!

Які канфлікт! Як лёгка Вы яго вырашаеце!

Якая сакавітая ў Вашых герояў мова, чаго варты адзін толькі дыялект! Так падаць народную гаворку! Толькі класікі дазвалялі сабе ўводзіць дыялекты так лёгка і свабодна. Пра апавяданне не турбуйцеся. Мы яго надрукуем. Абы толькі сябры былі жывыя і здаровыя, ці не так? Як Ваша здароўечка?

— Дзякую, добра, — сумеўся я.

— Як пачуваецца наш шаноўны настаўнік?

— Які настаўнік?

— Ваш брат, глыбокапаважаны настаўнік Джунуні. Апошнім часам яго не бачна. Напэўна, шмат спраў. Надта шмат спраў, Вы маеце рацыю.

— Так, — пагадзўся я.

Гутарка толькі завязвалася, але я пачуваўся чалавекам, які падае ў прорву. Трэба было як мага хутчэй спыніць размову.

— Даруйце, — нерашуча пачаў я, — мне няма калі… трэба яшчэ ў адно месца… я дужа спяшаюся…

— Добра-добра… Пра апавяданне не турбуйцеся. Перадавайце прывітанне брату. Скажыце, каб не забываўся пра нас. І прывітанне, і прывітанне, прывітанне перадавайце.

— Добра… перадам.

Наступным разам я таксама вельмі ўдала патрапіў у рэдакцыю. Знаёмы супрацоўнік дзяжурыў і чытаў старонку новага нумара.

— О-о! Джунуні! — прывітаў ён мяне. — Заходзьце-заходзьце. Нешта доўга Вас не было. Ну, нічога, якраз своечасова. Трэба ж, як пашанцавала.

— А што?

— Чытайце, Ваша апавяданне. Ваша імя мы даем зверху, як імёны вядомых пісьменнікаў. Бачыце — "Джу-ну-ні". Падабаецца? Заўтра пачытаеце ў нумары.

— Калі дазволіце, я зірну.

— Канечне-канечне. А я запару гарбаткі.

Супрацоўнік выйшаў. Я схіліўся над газетнай паласой. Рашуча перакрэсліў "Джунуні" і напісаў зверху "Субхі".

Зайшла дзяўчына, узяла паласу і выйшла.

Вярнуўся супрацоўнік з чайнікам.

Ён выпраменьваў зычлівасць.

— Ну як, спадабалася?

— Так, вельмі!

Ранкам у шапіку я набыў з тузін свежых газет. Яны галавакружна пахлі тыпаграфскай фарбай, я разгарнуў на хаду адну з іх. Захоплены чытаннем, сутыкнуўся з некім. Узняў позірк і пабачыў супрацоўніка рэдакцыі.

— Вітаю, настаўнік! — пачціва прамовіў я.

Ён заліўся чырванню, штосьці прамармытаў і паспешліва пашыбаваў прэч.

Напэўна, пакрыўдзіўся.

**Пераклад Таццяны Сівец**

Чынгіз Аліаглы... Паэт, які часта бывае ў Беларусі. І найперш — як старшыня міждзяржаўнага савета СНД па пытаннях кнігавыдання. Паэт, які добра ведае нашу краіну і нашу літаратуру. Яшчэ — і перакладчык. У арсенале зробленага ім як тлумачом мастацкага слова на сваю родную мову — апавяданне Анатоля Кудраўца. Свае першыя творчыя крокі ў паэзіі Чынгіз Аліаглы зрабіў амаль паўстагоддзя таму. Сярод настаўнікаў творцы — знакаміты Расул Рза. Што хвалюе нашага азербайджанскага сябра як паэта?.. Само жыццё ў розных яго праявах. Хвалюе і трывожыць выбар чалавека і чалавецтва, здольнасць розуму абараніць свет ад гвалту і здзекаў. Паэта хвалюе лёс Слова ў наступных стагоддзях, яго роля і яго ўплывы на вечнасць. Мо таму часам самыя, здавалася б, простыя вершы падаюцца трапяткімі і ў нечым драматычнымі. І разам з тым — надзвычай цёплымі і прыцягальнымі, нават роднымі, хаця і чуем мы слова Чынгіза Аліаглы ў перакладзе з азербайджанскай... А часам падаецца, што ўспрыняцце падштурхоўвае і да фізічнага адчування, сардэчнага паяднання з сапраўднай паэзіяй сапраўднага майстра. За гэта дзякуй і перакладчыку Віктару Гардзею.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# З пакалення няўрымслівых вандроўнікаў па часе

**Чынгіз АЛІАГЛЫ**

## Дождж

*Зблізіжаючы ўжо лёсы, як ілбы,*
*Мы ноч дыханнем сагравалі,*
*І хоць нас холад не забыў,*
*Дождж па-дзіцячы цалавалі.*

*Сышла, закончылася ноч,*
*І зоры мо ярчэй не сталі,*
*Ды ходзіць па зямлі той дождж,*
*Які з табой мы цалавалі.*

***

*След, як зерне, упаў на палоску,*
*След прарос, як і зерне ўзышло.*
*І спяшаюцца сцежкі за вёску,*
*І да сцежак хінецца сцябло.*

*Колькі ўсходаў і сцежак тых колькі!*
*Чалавек ім пяшчоту дарыў.*
*Маладыя згінаюцца голькі.*
*Чалавек тут ішоў пад абрыў.*

*Першы след — гэта след ля парога,*
*След яшчэ — гэта ж пэўна адно:*
*Зерне бучыцца — хай жа яно*
*Стане вечнай дарогай.*

## Родная вёска

*За кучаравымі пагоркамі,*
*за вінаграднымі пагоркамі —*
*там вёска ёсць,*
*уся ў аправе*
*гаёў, што з россыпам шаўкоўніцы.*
*Я знаю:*
*паглядзець у расчыненыя вокны*
*вёскі той,*
*за вінаграднымі пагоркамі,*
*Сцякаецца з усіх бакоў прастора —*
*з усходу,*
*з захаду,*
*і з поўначы,*
*і з поўдня.*
*У вёсцы той,*
*куды сцякаецца прастора*
*з усіх шырокіх чатырох бакоў,*
*каб глянуць на расчыненыя вокны, —*
*там белы свет ты адчуваеш скурай,*
*што дадзена табе ад нараджэння,*
*і — сэрцам,*
*якое б'ецца ў лад з дрыжаннем вуснаў.*
*Дый што яшчэ сказаць пра вёску*
*за тымі вінаграднымі пагоркамі,*
*акаймаванымі чароўным*
*россыпам шаўкоўніцы?..*

***

*Жыццё я зведаў добрым*
*і каварным.*
*І дабрынёй я цешыўся любой.*
*Для некага жыццё — вячорак*
*хмарны,*
*А для мяне яно — смяротны бой.*

*Цану я знаю — лесу, полю, лугу,*
*І сілу слоў, забраных у радок.*
*Шчаслівы я, калі патрэбны*
*другу, —*
*Тады мацней бурліць*
*жыцця выток.*

*Па ім прайду, хоць маю асцярогу,*
*Што лёс кідае каменямі бед.*
*З тых камянёў я вымашчу дарогу —*
*Для ўсіх, хто крочыць*
*з дабрынёй услед.*

***

*Душа — як люстра!*
*Бо яна*
*Незамутнёная да дна.*
*Душа нас радуе сваёй*
*Працятай сонцам глыбінёй.*
*Кашуля. Шапка набакір.*
*І туфлі зношаны да дзір.*
*Душа спявае.*
*Ёй адной*
*Прайсці па нерушы зямной.*

***

*Гэта беды — не мае,*
*Збыць хто дапаможа?*
*Бо чые? Яго?.. Яе?..*
*Ці твае, быць можа?*

*Гэта гора — вастрыё,*
*Што наскрозь праколе.*
*Гора горкае — маё,*
*А сцякае болем.*



## Прымірэнне

*Як зззяюць промні раніцой*
*Зямля і неба — заадно!*
*І сеткай ручаі густой*
*Збягаюць з гор — на дно, на дно.*
*Спляліся мак і валількі*
*Пад вечнай шапкаю снягоў,*
*І выгляд казачны які*
*Сярод лугоў, сярод лугоў!*

*Жыццё тым больш не дакарай:*
*Разлукі час яшчэ не сцёк,*
*А сэрцы сплецены, бадай,*
*І ў нас з табой, мой васілёк.*

***

*І возьме левая рука,*
*што правая давала.*
*Смяецца вока,*
*а ў другім*
*слязінка задрыжала.*
*Ступіць наважыўся —*
*дрыгва*
*нагу ўжо засмактала...*
*Падобных з'яў, душа мая,*
*вакол яшчэ нямала...*

*Гэта гора — абміні!*
*З ім не прасвятлею,*
*Хоць па кропельцы ў агні,*
*Мне чужым, датлею.*

*Адпалаў з бядой людской —*
*Я знікаю, таю...*
*Залацістаю айвой*
*З попелу ўзрастаю.*

***

*Ты, як зорка, ўзышла*
*да нябёс...*
*Мне прынесла журбу і пакуту...*
*...Ные сэрца маё*
*ад слёз,*
*Што гарчэй за любую атруту.*

*Ты была суцяшэннем душы,*
*Без цябе між барханаў я высах.*
*Як жа ў сэрцы тваім, скажы,*
*Ужываюцца попел і прысак?*

*Адубеў бы, згарэў бы датла...*
*Паплыла... паляцела... растала...*
*За ўсіх блізкіх бліжэй ты была*
*І далей за ўсіх праведных стала.*

*Ные сэрца і — стылая кроў*
*Ад самоты і рознага хлуду.*
*Ты мяне не палюбіш наноў,*
*Я ніколі цябе не забуду.*

***

*Болю не чую —*
*Як вырвацца з комы?*
*Цень пад нагамі*
*Мне не знаёмы.*

*Смешна зрэдзь часу,*
*А бачна грымасу.*
*Кветкую цалую —*
*Грымоту пачую.*

*Поступ мяняю —*
*Крок мой нязмушаны.*
*Гукі ліняюць,*
*Словы засушаны.*

*Клешчы — як восці*
*За пільнай патрэбаю.*
*Плюну са злосці —*
*Траплю ў неба я.*

*Гукі нячутныя,*
*Ціша бязмоўная.*
*Ляснуць пакутніка —*
*Капае кроў мая...*

***

*Часам я лічу сябе, зняможаны,*
*безбілетнікам насцярожаным*
*у хуткім цягніку паэзіі.*
*Тут, у тамбуры, няклічаны, няпрошаны,*
*у куце стаю, але далей не лезу я,*
*каб суседа не тлуміць харошага.*
*Мне, бывае, цяжка выстаяць.*
*Боязь ёсць: як міленькага,*
*выставяць.*
*Мне здаецца — зараз рэвізорамі*
*са сваімі вечнымі дакорамі*
*прыйдуць чытачы, таму і боязна:*
*— Безбілетны? Што ж, няшчасны,*
*— з поезда!*
*На якойсьці заняпалай станцыі,*
*на размежжы рыфмы незаезджанай*
*буду змушаны застацца я,*
*скінуты з паслугамі мядзведжымі.*
*У цішы гнятлівай, непрыкаяны,*
*чую колаў стук ужо з ускраіны.*
*Толькі я і ноч суровая.*
*Толькі я і песня*
*новая...*

## Птушкі з боку світання

*Птушкі, якія ляцяць*
*З боку світання,*
*рассякаюць крыламі*
*перадранішні змрок.*

*На далоні мае,*
*як часцінка неба,*
*куляецца жураўлінае*
*лёгкае пяро.*

*Твой з успамінаў*
*выплывае вобраз,*
*як лотас бялюткі*
*на плёсе рачным.*

*І нараджае світальныя*
*цёплыя строфы*
*па-жураўлінаму*
*лёгкае тое пяро.*

**Пераклад Віктара Гардзея.**

# Зямля пад белымі крыламі

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ “Залатая Ліцера”

## Слова краязнаўцы



**Тарэса РАБІЗА, настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 1 г. Глыбокае, кіраўнік мемарыяльнага музея імя Паўла Сухога, распавядае пра даследаванні, пошукі і цікавыя набыткі:**

— 27 гадоў таму ў нашай школе адкрыўся музей Паўла Сухога. І гэта лагічна, бо Восіп Андрэевіч, бацька авіяканструктара, працаваў настаўнікам у Глыбоцкім народным вучылішчы, што і пацвердзілі дакументы, знойдзеныя ў архівах Вільнюса. У Глыбокім нарадзілася трое з шасцярых яго дзяцей. Сярод іх і Павел — у ліпені 1895 года.

Наш першы экспанат — артыкул супрацоўніка Гомельскага абласнога краязнаўчага музея Мікалая Царкова “Стваральнік крылатых маланак”, які передрукавала глыбоцкая “раёнка” ў 1979 годзе. З яго і пачаліся пошукі звестак пра славутага земляка. Фактычна за адзін год з дапамогай супрацоўнікаў Гомельскага абласнога краязнаўчага музея, навукова-мемарыяльнага музея прафесара М. Жукоўскага ў Маскве, дачкі Паўла Восіпавіча Ірыны Васкрасенскай, яго пляменніцы Вевеі Фандзеевай і паплечнікаў канструктара мы сабралі неабходны для стварэння экспазіцыі матэрыял. Работнікі расійскага машынабудаўнічага завода імя Сухога падрыхтавалі для нас вялікі стэнд, які распавядае пра стваральніка самалётаў серыі СУ. Многія з тых, хто аказаў нам канкрэтную дапамогу, прыехалі ў 1985 годзе на адкрыццё музея і былі прыемна ўражаны ўбачаным.

Цяпер мы маем каля тысячы экспанатаў, і яны працягваюць паступаць. Прытым незвычайныя. Так, Баранавіцкі авіярамонтны завод усталяваў у музеі кабіну самалёта СУ-17 з сапраўдным пультам кіравання, які вельмі вабіць хлопчыкаў. Цёплыя сувязі падтрымліваем з супрацоўнікамі навуковага цэнтра “Жукоўскі” ў Маскоўскай вобласці, з пісьменнікам Генадзем Амер’янцам, які напісаў некалькі кніг пра лётчыкаў-выпрабавальнікаў. Яны падаравалі нам нямала цікавых рэчаў. Адзін з апошніх стэндаў распавядае пра ўклад канструктарскага бюро П. Сухога ў Перамогу. Сабралі багаты матэрыял пра Герояў Савецкага Саюза, якія лёталі на “сушках”. Ёсць відэаматэрыялы пра ўсе самалёты — дзеці з задавальненнем іх пераглядаюць. Усё гэта служыць штуршком для вучнёўскіх даследаванняў. Як вынік, нашы школьнікі паспяхова ўдзельнічаюць у розных краязнаўчых конкурсах. І мы ганарымся тым, што сёлета ў ліпені СШ № 1 прысвоена ганаровае імя Паўла Сухога.

## Аўгустоўскі канал яднання

Вось ужо 12 гадоў у апошнюю нядзелю жніўня запрашае гасцей рэгіянальны фестываль народнай творчасці “Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў”, што праводзіцца ля шлюза Дамброўка (Гродзенскі раён).

І хаця сам фестываль называецца рэгіянальным, яго насамрэч можна лічыць міжнародным, бо збірае фэст гасцей і ўдзельнікаў з Беларусі, Польшчы і Літвы. Вось і сёлета ў ім прынялі ўдзел творчыя калектывы Гродзенскага раёна, а таксама самадзейныя калектывы польскай і літоўскай дыяспар вобласці.

Такі фестываль цікавы не толькі народнымі традыцыямі ды мастацкай самадзейнасцю. Акрамя ўсяго, гэта цудоўная магчымасць для арганізатараў прадставіць, а для гасцей пазнаёміцца з цікавым (нават няглядзячы на тое, што беларуская частка канала, у прыватнасці, патрабуе яшчэ нямала працы) турыстычным аб’ектам, якім з’яўляецца Аўгустоўскі канал.

**Тацціяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

## Музейны ўнікат

# Самы маленькі помнік

Амаль дваццаць гадоў таму прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Расіі задумалі ўвекавечыць імя Янкі Купалы ў Маскве і ўстанавіць помнік песняру, прычым за ўласныя сродкі. Аўтары гэтай ідэі — беларусы Антон Сабалеўскі і Францішак Каўрыга.

**Раіса МАРЧУК, фота Аляксандра Хайноўскага**

Беларускі скульптар Валяр’ян Янушкевіч падрыхтаваў па заказе дыяспары 50-сантыметровы бронзавы макет. Аднак да чатырохметровага помніка справа не дайшла. Чаму?

— Да святкавання 120-годдзя з дня нараджэння паэта ў Беларусі быў аб’яўлены конкурс праектаў помніка Янку Купалу, які планавалася ўстанавіць у Маскве, — распавяла дырэктар Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея Вольга Саланінка. — У выніку з пяці прадстаўленых работ лепшым быў названы эскіз Льва Гумілеўскага і яго сына Сяргея. Цікавае мастацкае вырашэнне манумента: паэт абапіраецца на вяскову агароджу, на якой ляжыць разгорнутая кніга. Побач з агароджай выгінаецца вялікі бронзавы ліст папараці.

У ліпені 2007 года, у сувязі са святкаваннем 125-годдзя з дня нараджэння песняра, у Маскве на Кутузаўскім праспекце, непадалёк ад федэральнай трасы Масква — Мінск, устанавілі помнік Янку Купалу. Паміж Расіяй і Беларуссю адбыўся своеасаблівы абмен скульптурнымі кампазіцыямі: у Маскве ўсталявалі помнік Купалу, а ў Мінску з’явіўся помнік Пушкіну.

— Тым часам, змарыўшыся весці перапіску з маскоўскімі ўладамі, расійскі прадпрымальнік Антон Сабалеўскі выкупіў бронзавага Купалу ў Валяр’яна Янушкевіча, прывёз да сябе на радзіму, у Глыбокае, і падарыў скульптуру музею, — зазначыла Вольга Саланінка.

Дарэчы, прозвішча Сабалеўскі — адно з самых вядомых і распаўсюджаных у Глыбокім. Бацька Антона Сабалеўскага — Аляксандр Антонавіч — у свой час настаўнічаў тут і падрыхтаваў рукапісную кнігу па гісторыі, якая, на жаль, не была выдадзена. Цяпер гэты рукапіс захоўваецца ў занальным архіве горада Глыбокае і чакае зацікаўленых даследчыкаў. Брат Антона Юрый Сабалеўскі падчас вайны кіраваў глыбоцкім падполлем. Так што Сабалеўскія пакінулі значны след у гісторыі краю.



## Вытокі

# Горад храмаў, цэнтр асветы

Глыбоцкі край, сцвярджаюць гісторыкі і краязнаўцы, мае вельмі цікавыя гістарычныя карані. Умацаваныя пасяленні з’явіліся тут яшчэ ў эпоху вікінгаў... Распавядае інструктар-метадыст турысцкага інфармацыйнага цэнтра Глыбоцкага раёна, краязнаўца са стажам **Ала ВЯРЦІНСКАЯ**:

— Значнага росквіту ў X — XIII стагоддзях дасягнула пасяленне на месцы гарадзішча Свіла Першая, якое адкрыў вядомы беларускі археолаг Георгій Штыхаў. Знаходзіцца яно непадалёк ад возера Пліса. Вучоны сцвярджаў: калі б гэтае пасяленне не знішчылі ворагі, яно з часам дасягнула б такіх жа маштабаў, як і Полацк. Дарэчы, па колькасці археалагічных помнікаў наш раён займае першае месца ў Віцебскай вобласці. Больш як тысяча курганаў, 30 гарадзішчаў! Былі тут і ўнікальныя знаходкі — рымскія манеты III — IV стагоддзяў. Спачатку скептыкі сцвярджалі, што, магчыма, гэта артэфакты. Сёння рымскія манеты знайшлі ўжо ў некалькіх месцах. Адным словам, у пачатку хрысціянскай эры на глыбоцкай зямлі была даволі развітая цывілізацыя.

Відаць па ўсім, тут праходзілі гандлёвыя шляхі з Рыма на Балтыку і Скандынавію. Менавіта ў нас быў знойдзены вельмі вялікі скарб X — XII стагоддзяў. Гэта два так званыя “гараўлянскія скарбы”, якія ўваходзяць у “залатую” сотню рарытэтаў нашай краіны і захоўваюцца цяпер у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Гісторыкі лічаць, што галоўны шлях з варяг у грэкі вёў праз Полацк. Але заўсёды знаходзіліся кантрабандысты, якія не хацелі плаціць пошліну. Магчыма, адзін са значных “кантрабандных” шляхоў і пралёг праз глыбоцкія землі, бо тут праходзіць водападзел паміж Балтыйскім і Чорным марамі. Тым больш, што ў некаторых месцах адлегласць паміж прытокамі Заходняй Дзвіны і Беразіны складае ўсяго некалькі кіламетраў, а ў тыя часы рэкі маглі быць значна шырэйшымі. Ладдзі з таварамі можна было цягнуць па сушы волакам.

Існуе легенда, што Напалеон Банапарт, аглядаючы ў 1812 годзе Беразвецкі манастыр на возеры Вялікае, адкуль выцякае рака Бярозаўка, заўважыў: “Калі б гэтае месца належала мне, то я б пашырыў раку Бярозаўка і злучыў яе каналам з вытокамі Беразіны, каб наладзіць судаходныя зносіны паміж Чорным і Балтыйскім марамі”. Магчыма, гэтыя словы абапіраліся на нейкія разлікі французскіх інжынераў.

Але вернемся крыху назад. У 1414 годзе ўпершыню ў летапісных крыніцах узгадваецца Глыбокае, якое спачатку належала магнацкаму роду Зяновічаў, потым перайшло па спадчыне нясвіжскім Радзівілам. Другой часткай мястэчка валодаў баярскі род Корсакаў, прадстаўнікі якога былі сваякамі полацкіх князёў. Калі полацкі князь ад’язджаў, яго замяшчаў адзін з Корсакаў.

У пачатку XVII стагоддзя ўласнікам Глыбокага быў Іосіф Корсак, які пакінуў надзвычай важны след у гісторыі горада. Менавіта ён выступіў фундатарам трох храмаў, якія і цяпер упрыгожваюць панараму горада. Гэта праваслаўны сабор Ражства Багародзіцы, заснаваны Корсакам як манастыр кармелітаў, касцёл Святой Троіцы і Базыльянскі манастыр, дзе быў уніяцкі храм. Пры манастыры кармелітаў існавала школа, з якой штогод два выпускнікі адпраўляліся вучыцца ў Віленскі ўніверсітэт. Многія са студэнтаў вярталіся назад і выкладалі ў манастырскай школе.

Моцным цэнтрам асветы выступаў і Беразвецкі базыльянскі манастыр. Па фундацыі Іосіфа Корсака ў ім заснавалі вучылішча для 150 дзяцей мясцовай шляхты. Вучыліся яны ў асноўным бясплатна. Для 20 самых бедных шляхцічаў адкрылі бурсу. Лепшыя яе выпускнікі таксама маглі працягнуць навучанне ў Віленскім універсітэце.

Канец XIX — пачатак XX стагоддзя — асобная старонка ў нашай гісторыі. Менавіта тады Глыбокае стала цэнтрам нацыянальнага адраджэння. Так званую “нашаніўскую эпоху” нельга ўявіць без такіх фігур, як Вацлаў Ластоўскі, Ігнат Буйніцкі, Язэп Драздовіч. Нельга абысці ўвагай і асобу Клаўдзія Душ-Душэўскага, ураджэнца Глыбокага, які разам з Ластоўскім вельмі шмат зрабіў для складання беларускіх слоўнікаў, развіцця асветы. Мае дачыненне да Глыбоччыны і пісьменнік Тадэвуш Даленга-Мастовіч, аўтар рамана “Знахар”. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што вобраз знахара спісаны з доктара Алехна-Гушчы, які жыў непадалёк ад Глыбокага. Ён на ўласныя сродкі заснаваў амбулаторыю і лячыў бедных людзей. Вядомая асоба — Эліэзэр Бэн-Ягуда (Перэльман), які адрадзіў стараданюю мову іўрыт, — вучыўся ў нашым горадзе.

Сучаснае Глыбокае годна прыняло эстафету продкаў — тут працуюць тры члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, дзейнічае дзіцячая мастацкая школа імя Я. Драздовіча. Народны майстар Святлана Скавырка адраджае тэхналогію драздовіцкіх “маляванак”, а народны тэатр фальклору “Цярэшка” працягвае традыцыі першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Праваслаўны сабор Ражства Багародзіцы.*

*Культурная спадчына*

# Брэнд азёрнага краю

Культурна-дэндралагічны комплекс “Мосар” у Глыбоцкім раёне — адно з найпрыгажэйшых месцаў у Беларусі. У вёскі, дзе ён размешчаны, багатая і цікавая гісторыя.



Капліца Маці Божай Вастрабрамскай і помнік Папе Рымскаму Яну Паўлу II.

**Алена МЯДЗЕЛЕЦ, навуковы супрацоўнік Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея, фота Кастуся Дробава**

Упершыню Мосар згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1514 годзе. Вёска мела шмат гаспадароў: Зяновічы, Пацы, Долмат-Ісакоўскія, Млечкі і нават стрыечны брат прэзідэнта Польшчы Юзэфа Пілсудскага Калікст. Але найбольшы след у гісторыі Мосаршчыны пакінуў графскі род Бжастоўскіх, у прыватнасці, Ганна і Роберт Бжастоўскія. Менавіта яны ў канцы XVIII ст. пабудавалі тут шыкоўны палац і касцёл. На жаль, палац, у якім гасцявалі нават каралі Рэчы Паспалітай, быў знішчаны падчас грамадзянскай вайны.

Касцёл Святой Ганны — помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння — захаваўся да нашых дзён. І не проста захаваўся, а з'яўляецца дзеючым храмам, куды прыязджаюць вернікі з усіх куткоў Беларусі і замежжа (як каталікі, так і праваслаўныя), каб пакланіцца галоўнай святыні касцёла — мошчам святога Юстына. Ці проста паглядзець на навакольную прыгажосць і адпачыць душою.

Але так было не заўсёды. Нягледзячы на тое, што ў савецкі час касцёл знаходзіўся ў запусценні, а тэрыторыя вакол храма нагадвала балота, ён заставаўся адчыненым для вернікаў. У інтэр'еры храма вылучана дзесяць сюжэтных барэльефаў, якія прадстаўляюць гісторыка-культурную каштоўнасць Рэспублікі Беларусь і ахоўваюцца дзяржавай.

Перад касцёлам разбіты дзівосны ландшафтны парк. Шаўкавісты газон, невялічкія штучныя вадаёмы з рыбкамі і лілеямі, паўкруглыя “карункавыя” масточкі, рэдкія пароды дрэў і хмызнякоў, шыкоўныя разарыі і рознакаляровыя кветнікі вабяць вока ўсіх без выключэння. Толькі мінулай восенню было высаджана каля тысячы саджанцаў елкі, сасны, ясеня... Устаноўлены цікавыя скульптуры: копія “П'еты” Мікеланджэла, Іаана Хрысціцеля, Папы Рымскага Яна Паўла II, а перад званіцай каменны крыж часоў распаўсюджання хрысціянства на гэтых землях.



Від на прыкасцёльную тэрыторыю з капліцы Маці Божай Вастрабрамскай.

За будынкам касцёла — былы графскі парк, дзе захаваліся 200-гадовыя дубы, і будынак старога касцёльнага свірна, які адносіцца да канца XIX стагоддзя. За касцёлам — крынічкі са святой вадой, да якіх вядзе “ружанцовая алея” — сцежка з каменнымі і драўлянымі капліцамі. На алеі ўсталявана фігура Ісуса з крыжам, якая пачынае “крыжовы шлях” на гару, увянчаную самым высокім крыжам у Беларусі.

З 1989 года пачынаецца, без перабольшання, новая эра ў жыцці Мосара. Сюды прыязджае ксёндз Юозас Булька і пачынае ствараць хараство, якое з цягам часу атрымала назву “Культурна-дэндралагічны комплекс вёскі Мосар”.

Нават маладыя людзі маглі пазайздросціць невычэрпнай энергіі гэтага пажылога чалавека: праца па далейшым уладкаванні культурна-дэндралагічнага комплексу не спынялася нават зімой. Юозас Вінцэнтавіч сам сачыў за работамі, дапамагаў парадамі, служыў святую імшу ў касцёле, і ўсё ж такі знаходзіў вольную хвілінку, каб асабіста павітаць гасцей, пагутарыць з імі, благаславіць.

За сваю дзейнасць гэты чалавек неаднаразова ўдастойваўся ўзнагарод як ад духоўных, так і ад свецкіх улад: апостальскае благаслаўленне Папы Рымскага, прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “За духоўнае адраджэнне”, медаль Францыска Скарыны, грамата “За асабісты ўклад у развіццё турызму ў Рэспубліцы Беларусь”.

9 студзеня 2010 года ксяндза Юозаса не стала, але справа яго працягваецца.



Мосарская крыніца.

**Каментарый начальніка аддзела фізічнай культуры, спорту і турызму Глыбоцкага райвыканкама Міхаіла АРЭХАВА:**

*— Глыбоцкі раён — гэта ўнікальны рэгіён з цудоўнай гісторыяй, самабытнай культурай, некранутай прыродай. Славіцца наш край і ўнікальнымі турыстычнымі аб'ектамі. Сярод іх — культурна-дэндралагічны комплекс “Мосар”, які даўно ўжо стаў своеасаблівым брэндам Глыбоччыны. Сёння гэтую вёску ведаюць далёка за межамі раёна і нават самой Беларусі, дзякуючы намаганням ксяндза Юозаса Булькі. Можна сказаць, што ён стварыў у Мосары своеасаблівы цэнтр асветніцтва, змог злучыць прыгажосць ландшафту і тварэнняў рук чалавечых. Комплекс у мініяцюры паўтарае геаграфію Святой зямлі. Гэта як бы міні-Іерусалім. Рэчка Маргва сімвалізуе Іардан. Гара, на якой размешчаны самы высокі ў Беларусі крыж (23,5 метра), сімвалізуе гару Фавор, дзе адбылося Праабражэнне Хрыста. З узгорка адкрываецца цудоўная панарама, а ў ясны дзень можна ўбачыць нават Глыбокае. Само мястэчка незвычайна прыгожае — яно літаральна патанае ў кветках.*

*Турыстычныя перспектывы гэтага комплексу вялікія — трэба толькі папрацаваць над стварэннем адпаведнай інфраструктуры. У Мосары ўжо ёсць аўтастаянка, летняе кафэ. Але неабходна думаць пра далейшае развіццё. Патрэбна і забаўляльная праграма для турыстаў. Каб можна было і нашых артыстаў паслухаць, і ў брычцы пакатацца. Вельмі шкада, што не стала міні-заасада, які так вабіў дзяцей. На жаль, не атрымала развіцця ідэя антыалкагольнага музея, які выклікаў вялікі інтарэс у наведвальнікаў. Чаму б не ладзіць тут і масавыя мерапрыемствы, накшталт фестываляў гістарычнай рэканструкцыі, як у Лідскім замку, ці балі XVIII стагоддзя, як у Міры. Галоўнае — каб знаходзіліся людзі, неабыякавыя да гэтага месца, якія працягнулі б справу Юозаса Булькі. Тады і турыстычны паток ператворыцца ў вялікую паўнаводную раку.*

# Да сустрэчы ў Быхаве

**Сталіцай юбілейнага, дваццатага Свята беларускага пісьменства, якое адбудзецца 1 верасня 2013 года, уганараваны быць горад Быхаў Магілёўскай вобласці. Хто ж з выбітных айчынных пісьменнікаў, артыстаў і навукоўцаў паходзіць з Быхаўшчыны? Патэлефанаваў у цэнтральную раённую бібліятэку, каб атрымаць адказ на сваё пытанне.**



**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

— Быхаўская зямля — радзіма многіх паэтаў, празаікаў, драматургаў, — сказала яе дырэктар Наталля Корза. — Гэта Ян Аношка, Іван Баранкевіч, Адам Дзмітрыеў, Анатоль Жураўкоў. Важкі ўнёсак у развіццё беларускай літаратуры зрабіў наш зямляк, вядомы навуковец Міхась Мушынскі, а ў развіццё айчыннай журналістыкі прафесар БДУ Барыс Стральцоў. Сярод нашых выбітных пісьменнікаў — паэт, перакладчык Міхась Пазнякоў. Менавіта ў раённай газеце "Маяк Прыдняпроўя" пачыналі свой шлях у вялікую літаратуру Уладзімір Кныш, Васіль Ткачоў, Раіса Баравікова — спіс можна працягваць.

У гэтым маляўнічым куточку Магілёўшчыны нарадзілася і працавала нямала таленавітых людзей, творчасць і дзейнасць якіх, несумненна, заслугоўвае таго, каб Быхаў стаў сталіцай Дня беларускага пісьменства. "ЛіМ" абавязкова раскажа пра іх у чарговых нумарах. А цяпер колькі слоў пра выдатнейшы помнік беларускай нацыянальнай культуры XVII стагоддзя — Баркулабаўскі летапіс, які захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

Летапіс пачынаецца з інфармацыі пра сейм 1545 года ў Берасці і пабудову Магілёўскага замка ў 1526 годзе. Тут змешчаны унікальныя звесткі пра гісторыю Усходняй Беларусі, некаторыя гістарычныя факты з айчыннай культуры і праваслаўнай царквы, а таксама пра ўзнікненне вёскі Баркалабава… Асноўнай крыніцай для летапісу паслужылі асабістыя назіранні і ўспаміны аўтара, які быў блізкі да людзей, таму твор напісаны жывой беларускай мовай, вобразны і каларытны.

Згодна з рознымі крыніцамі, аўтарства летапісу належыць святару Баркалабаўскага мужчынскага манастыра Фёдару Піліпавічу Магілёўцаву. Ён згадвае, напрыклад, што напрыканцы XVI стагоддзя сюды, пад Магілёў, падышло Маскоўскае войска, якое пачало паліць вёскі, забіваць людзей. У Баркалабаве стаяў "ліцвінскі" атрад, такія ж атрады стаялі ў Копысі і Шклове. Яны аб'ядналіся і пайшлі на Магілёў і, як кажа аўтар, "пагналі, адцеснілі, пабілі маскоўцаў і столькі іх шмат пабілі, што аж Дняпро іх трупамі загацілі і загацілі так, што людзі не маглі ў Дняпры ваду браць ды піць і рыбу з Дняпра не елі".

Чаму летапіс называецца "Баркулабаўскі", а вёска Баркалабава?



*Баркалабаўская ікона Божай Маці.*

Ёсць сведчанні, што ў 1654 годзе каля старажытнага паселішча на гару каля Дняпра ўз'ехаў ротмістр і дзісненскі староста Баркулаб Корсак. Ён і вырашыў паставіць тут замак, каб абараніць нашы ўсходнія межы. Яго вяры прапанавалі назваць замак у гонар славутага пана. Крыху пазней у назве сяла літару "у" замянілі на "а".

Тут знаходзіцца старажытны Свята-Уваскрэсенскі манастыр, заснаваны ў 1623 годзе Багданам Стэткевічам. У яго саборным храме захоўвалася ікона Божай Маці, якую падарыў у 1659 годзе князь Пажарскі, вяртаючыся з войскам з Літвы ў Расію. Абраз першапачаткова быў змешчаны ў цэнтры царквы, а ў наступную ноч ён нейкім чынам перамясціўся да сцяны храма. На паклон яму сцякаліся не толькі праваслаўныя вернікі, але і ўніяты, католікі. Ікона праславілася цудамі ў час Паўночнай вайны і вайны 1812 года. У 1882 годзе Уваскрэсенскі храм згарэў, але цудатворны іканастас і абраз былі выратаваны ад пажара.

Ікона — адна з самых шаноўных ікон Божай Маці ва Усходняй Беларусі. Баркалабаўская Адзігітрыя, якая напісана тэмперай на хвойнай аснове з вызалачаным разным фонам, з'яўляецца адным з шэдэўраў беларускай школы іканапісу і разам з тым захоўвае выразныя рысы яго старажытна-візантыйскага правобраза.

Напрыканцы ўзгадаем некаторыя старонкі з гісторыі Быхава.

У пісьмовых крыніцах ён згадваецца пад 1393 годам як "двор Быхов". Аднак археалагічныя даследаванні сведчаць пра існаванне невялікага паселішча на месцы сучаснага горада ўжо ў XII — XIII стст.

З 1772 года Быхаў знаходзіўся ў складзе Расійскай імперыі як горад. Старажытная ўмацаваная частка з замкам і гандлёвай плошчай была захавана як планіровачнае ядро, вакол якога забудоўваліся новыя кварталы. Былі пракладзены драўляныя тратуары, зроблена вулічнае асвятленне, аднаўлены гарадскі гадзіннік. 16 жніўня 1781 года горад атрымаў герб: на чырвоным полі — дзве скрыжаваныя чыгуначныя гарматы.

У пачатку вайны 1812 года на поўнач ад горада расійскія войскі М. Раеўскага 11 — 12 ліпеня стрымлівалі атрады напалеонаўскай арміі, што дало магчымасць расійскай арміі на чале з Баграціёнам пераправіцца праз Дняпро.

Не абмінулі горад і ваенныя падзеі пачатку XX стагоддзя. У жніўні 1917 года ў горад уступіла 1-я дывізія польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. Пасля разгрому Карнілаўскага мяцяжу ў быхаўскай турме зняволены сем царскіх генералаў, т. зв. "быхаўскія вязні" — Л. Карнілаў, А. Дзянікін, А. Лукомскі, І. Раманоўскі і інш. 20 лістапада яны ўцяклі адтуль. Праз некалькі дзён у горад уступіў атрад бальшавікоў пад камандаваннем С. Марозава, які стварыў рэўком. У студзені 1918 г. бальшавікі выбіты з Быхава польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага. У сакавіку яго акупіравалі войскі кайзераўскай Германіі.

16 лістапада 1918 года горад заняла Чырвоная Армія. Тут пачала выдавацца бальшавіцкая газета "Известия Быховского ревкома". 10 студзеня 1919 года 1-ы павятовы з'езд Саветаў вітаў утварэнне БССР. Тым не менш маскоўскае кіраўніцтва бальшавікоў вырашыла па-іншаму, і горад у складзе Магілёўскай губерні ўвайшоў у РСФСР. У Другую сусветную вайну раён захапілі гітлераўцы.

Але ж мы запрашаем вас пазнаёміцца з сучасным горадам і раёнам, якія несумненна, надоўга запомняцца кожнаму, хто завітае ў гэты прыгожы куток Прыдняпроўя.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства**

## Афарызм

*Роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет. Пагэтаму нам неабходна так старанна вывучаць сваю родную мову, ведаць і любіць лепшыя творы беларускай літаратуры.*

**Якуб КОЛАС**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 3045
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 30.08.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 3517

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686